# РОДНАЯ ПРЫРОДА

№ 1 (25) 1976 г.

ІНФАРМАЦЫЙНА-МЕТАДЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
ДЗЯРЖАЎНАГА КАМІТЭТА САВЕТА МІНІСТРАЎ БССР
ПА АХОВЕ ПРЫРОДЫ, ПРЭЗІДЫУМАЎ
РЭСПУБЛІКАНСКІХ САВЕТАЎ БЕЛАРУСКІХ
ТАВАРЫСТВАЎ АХОВЫ ПРЫРОДЫ,
ПАЛЯЎНІЧЫХ І РЫБАЛОВАЎ, НАВУКОВАГА САВЕТА
ПА ПРАБЛЕМАХ БІЯСФЕРЫ АН БССР,
БЕЛАРУСКАГА РЭСПУБЛІКАНСКАГА САВЕТА
ПА ТУРЫЗМУ І ЭКСКУРСІЯХ

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ДВА МЕСЯЦЫ

Год выдання пяты



На першай (філін), другой, трэцяй і чацвёртай старонках вокладкі — здымкі М. Шарая

# БАГАЦЦЯМ ПРЫРОДЫ— КЛОПАТ І АШЧАДНАСЦЬ

**М. КАЛІНА,**
**начальнік Віцебскай абласной інспекцыі Дзяржкамітэта СМ БССР па ахове прыроды**

Ахова прыроды і рацыянальнае выкарыстанне прыродных рэсурсаў у эпоху навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, калі адбываецца хуткае развіццё прамысловасці, транспарту і сельскай гаспадаркі,— адна з важнейшых агульнадзяржаўных задач. Нездарма яе вырашэнню шмат увагі ўдзяліў XXIV з'езд КПСС.

Выконваючы заданні з'езда аб узмацненні аховы навакольнага асяроддзя, партыйныя, савецкія, адміністрацыйныя і грамадскія арганізацыі Віцебскай вобласці сталі больш канкрэтна займацца пытаннямі аховы прыроды. На сесіі абласнога Савета дэпутатаў працоўных у сакавіку 1972 года былі разгледжаны задачы Саветаў дэпутатаў працоўных вобласці па павышэнню эфектыўнасці выкарыстання зямельных угоддзяў, выкананню заканадаўства аб зямлі і ахове прыроды. Сесія запатрабавала ад аблвыканкома, выканкомаў гарадскіх, раённых, сельскіх і пасялковых Саветаў, а таксама ад ведамстваў, прадпрыемстваў і арганізацый забяспечыць безумоўнае выкананне прыродаахоўнага заканадаўства. А годам пазней на сумесным пасяджэнні бюро абкома КПБ і аблвыканкома было абмеркавана пытанне «Аб практычных мерах па выкананню пастановы ЦК КПБ і СМ БССР аб узмацненні аховы прыроды і паляпшэнні выкарыстання прыродных рэсурсаў у рэспубліцы».

Пастановы кіруючых органаў з'явіліся канкрэтнай праграмай дзейнасці устаноў і арганізацый па барацьбе за рацыянальнае выкарыстанне зямельных, лясных, водных і іншых рэсурсаў на тэрыторыі вобласці.

І вось дзевятая пяцігодка — здабытак гісторыі. Наша краіна знаходзіцца напярэдадні вялікай падзеі ў жыцці партыі і народа — набліжаецца дзень адкрыцця XXV з'езда КПСС, які вызначыць новыя грандыёзныя задачы па будаўніцтву матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізму ў дзесятай пяцігодцы.

Ідучы насустрач форуму камуністаў краіны, прыступаючы да выканання заданняў новай пяцігодкі, нельга не акінуць позіркам тое, што зроблена за апошнія гады, не засяродзіць увагу на тым, што чакае яшчэ вырашэння.

## АХОВЕ ЗЯМЛІ — ПРЫНЦЫПОВАСЦЬ

У раёнах і гаспадарках вобласці многае зроблена для павышэння ўрадлівасці зямлі, паляпшэння сенажацяў і пашы. За чатыры гады пяцігодкі меліяравана 65 тысяч гектараў пераўвільготненых і забалочаных зямель, на плошчы амаль 137 тысяч гектараў праведзены культуртэхнічныя работы. Шмат увагі надаецца барацьбе з воднай і ветравой эрозіяй глебы, навуковаму выкарыстанню хімічных сродкаў аховы раслін. Усё гэта ў значнай меры садзейнічае забеспячэнню выканання народнагаспадарчых планаў па вытворчасці і продажу дзяржаве важнейшых відаў сельскагаспадарчай прадукцыі.

Аднак не ўсё прыйшло само сабою.

У інспекцыю неяк пачалі паступаць сігналы з Лёзненскага раёна аб тым, што ў калгасе «Праўда» не па-гаспадарску адносяцца да асноўнага сродку вытворчасці — зямлі.

Факты вымушалі насцярожыцца. Аб гэтым было паведамлена кіраўніцтву аблвыканкома. Там прынялі рашэнне правесці паглыбленую праверку выкарыстання зямлі ў калгасе. Стварылі камісію, у якую ўвайшлі і работнікі абласной інспекцыі па ахове прыроды.

На месцы высветлілася, што старшыня калгаса тав. Раманкевіч і галоўны аграном тав. Старавойтаў не ўдзяляюць належнай увагі рацыянальнаму выкарыстанню зямлі. У межах населеных пунктаў калгаса там, дзе раней былі прысядзібныя ўчасткі, пустуе звыш 60 гектараў ворыва. У вёсцы Шэркіна 15 гектараў праўленне калгаса адвяло пад пашу для жывёлы, якая знаходзіцца ў асабістым карыстанні. А поруч ладны кавалак зямлі займаюць кусты, дзе і можна было б стварыць гэтую пашу. З-за абыякавых адносін да зямлі кіраўнікоў гаспадаркі за тры гады пасяўныя плошчы калгаса скараціліся на 310 гектараў.

Вынікі праверкі абмеркаваў аблвыканком. За дапушчаную безгаспадарчасць кіраўнікі калгаса былі пакараны, а Лёзненскаму райвыканкому і яго ўпраўленню сельскай гаспадаркі ўказана на адсутнасць кантролю за выкарыстаннем зямлі ў калгасах і саўгасах раёна.

Гэты факт выклікаў глыбокі роздум і ў работнікаў абласной інспекцыі Дзяржкамітэта СМ БССР па ахове прыроды. Таму ўслед за Лёзненскім грунтоўнай праверцы падвергліся гаспадаркі Гарадоцкага, Верхнядзвінскага, Пастаўскага, Віцебскага, Аршанскага і іншых раёнаў. У работу актыўна ўключыліся выканкомы раённых і сельскіх Саветаў, іх пастаянныя камісіі, дэпутаты.

Так быў пакладзены пачатак навядзення неабходнага парадку ў справе рацыянальнага выкарыстання зямельных і іншых рэсурсаў вобласці. Гэты рух падтрымаў аблвыканком. Вясной 1974 года ён прыняў рашэнне аб правядзенні двухмесячніка па ахове прыроды, у час якога асаблівая ўвага звярталася на рацыянальнае выкарыстанне зямельных угоддзяў — заворванне сядзіб былых хутароў, няпланавых дарог, рэкультывацыю кар'ераў і выпрацаваных тарфянікаў. Такая работа дазволіла толькі на працягу адной вясны ўвесці ў гаспадарчы абарот звыш 8 тысяч гектараў зямлі.

Аднак было б няправільна гаварыць, што зямельная праблема перастала нас хваляваць. Толькі за мінулы год старшыя дзяржінспектары і работнікі абласной інспекцыі Дзяржкамітэта СМ БССР па ахове прыроды выявілі 79 выпадкаў грубых парушэнняў Зямельнага кодэкса Беларускай ССР. Матэрыялы накіраваны ў адміністрацыйныя камісіі райвыканкомаў для прыцягнення вінаватых да адказнасці. У 22 выпадках парушальнікі аштрафаваны. Астатнія перажылі лёгкі перапалох — іх толькі папярэдзілі.

Парушэнняў зямельнага заканадаўства ўвогуле больш, чым выяўлена. Аднак што ж стрымлівае ініцыятыву старшых дзяржінспектараў? Аказваецца, справа ў тым, што яны не заўсёды сустракаюць падтрымку на месцах. Напрыклад, на старшыню Верхнядзвінскай міжкалгаснай будаўнічай арганізацыі В. М. Фаміна двойчы складаліся пратаколы за грубыя парушэнні Закона аб ахове зямлі. Кожны раз матэрыялы накіроўваліся ў адміністрацыйную камісію райвыканкома, якая, аднак, ні разу не надала ім належнай увагі. У Верхнядзвінскім раёне беспакарана ходзяць і кіраўнікі раённага аб'яднання «Сельгастэхнікі», ПМК-101. Першыя на землях калгаса імя Чапаева самавольна адкрылі кар'ер і пачалі здабываць гравій, другія — распрацоўваць пясчаны кар'ер на землях дзяржлесфонду, дзе растуць пасадкі першай групы.

Такую ж беспрынцыповасць пры разглядзе матэрыялаў аб парушэннях зямельнага заканадаўства праявілі адміністрацыйныя камісіі Расонскага, Гарадоцкага, Пастаўскага раёнаў. Як відаць, нежаданне «псаваць» добрыя адносіны з некаторымі гаспадарнікамі тут жыве яшчэ вельмі моцна, жыве, нягледзячы на тое, што ідзе ў разрэз з пастановамі і рашэннямі аб ахове прыроды.

## ЧАМУ ВАДА МУТНЕЕ

Барацьба з забруджваннем рэк і вадаёмаў, за рацыянальнае выкарыстанне водных рэсурсаў — адзін з галоўнейшых клопатаў нашай інспекцыі. Быў час, калі вырашэнне гэтай задачы здавалася неверагодна складаным: з кожным годам у вобласці павялічваецца колькасць новых прамысловых прадпрыемстваў, расшыраюцца магутнасці дзеючых. Гэта выклікае павелічэнне спажывання вады на тэхнічныя мэты, большае колькасць сцёкаў.

Але вырашэнне задачы ўсё ж знайшлося. На адной з вытворчых нарад падводзіліся вынікі работы за год і, зыходзячы з патрабаванняў рашэнняў XXIV з'езда КПСС і прыродаахоўных пастаноў партыі і ўрада, вызначаліся задачы на наступны перыяд часу. Загадчык гідрахімлабараторыі Э. А. Буевіч выступіў з каштоўнай прапановай: разгарнуць барацьбу за скарачэнне выкарыстання пітной вады на вытворчыя мэты. Тут жа з алоўкамі ў руках пачалі падлічваць, якія для гэтага ёсць рэзервы на кожным канкрэтным прадпрыемстве. Работнікі інспекцыі В. М. Галееў і Н. В. Акушка ў сваіх сацыялістычных абавязацельствах тады запісалі: дабіцца зніжэння спажывання свежай вады на 3—4 працэнты.

За справу ўзяліся з душой. Там, дзе неабходна было, удакладнілі патрэбнасці ў вадзе і яе выдаткі. Узялі на ўлік усе артэзіянскія свідравіны. Вынікі работы паказалі, дзе і ў якіх аб'ёмах можна ўка-

(Заканчэнне на 3-й стар.).



Фота І. Сідарэнкі

У адлігу надараюцца ціхія снежныя дні. Сняжынкі падаюць павольна, асядаюць на галінках, на сучках, на шурпатай кары дрэў. Лес бялее на вачах.

Паўдня такога ціхага спакойнага снегу — і ўсе дрэвы становяцца белымі. Калі здалёк глядзіш на лес, бачыш адну бель. А падыдзеш бліжэй — усё ж праглядаюцца чарнаватыя сілуэты ствалоў і галін.

Іншы раз пасля такога адліжнага дня ноччу падмарозіць. Снежныя хмары разыдуцца-разбягуцца неяк незаўважна. На небе сярод мільярдаў зусім дробненькіх і трохі большых зорак вісіць белы круглы месячык. Светлы, светлы, аж добра відаць на ім чарнаватыя плямы.

У такую начную пару ў лесе нейкая чароўная белая цішыня. Снег іскрыцца, нібы зоркі на небе. У лесе светла. На снезе ляжаць лёгкія цені ад дрэў. Не варухнецца ні галінка, ні былінка ў белым царстве. Мароз не вельмі моцны — не стукае ў дрэвах. Снег толькі скрыпіць пад нагамі. А спынішся, суцішышся — навокал цішыня і спакой.

Пад зорным небам і ясным месяцам, у нерухомым сонным лесе непрыкметна для вачэй людскіх нараджаецца белы цуд. Усю ноч мароз тчэ белыя карункі і развешвае іх у лесе, у вёсках і гарадах.

Выйдзеш раніцою з хаты — усё-ўсё навокал у крухмальна-белым інеі. Ён паблісквае мільярдамі іскрынак.

У лесе ні шолаху, ні гуку. Нібыта ўсё стаілася і замерла, каб не парушаць чароўную гармонію — зімовую казку белага лесу.

Зм. ВЕРАС

раняць абаротнае і паўторнае выкарыстанне вады.

Барацьба за рацыянальнае выкарыстанне пітной вады, якая разгарнулася ў інспекцыі, хутка знайшла неабходную падтрымку ў партыйных і савецкіх органах, на прадпрыемствах. А гэта садзейнічала таму, што абаротнае і паўторнае выкарыстанне вады пачало ўкараняцца на дзесятках прадпрыемстваў вобласці. Цяпер яно дзейнічае на 178 фабрыках і заводах. Аб'ём вады, якая выкарыстоўваецца ў прагрэсіўных сістэмах, дасягае мільёна кубаметраў у суткі.

У Віцебску, Оршы, Полацку, Наваполацку, Новалукомлі і іншых гарадах здадзены ў эксплуатацыю агульнагарадскія станцыі аэрацыі. Ліквідавана звыш ста самастойных выпускаў сцёкавай вады. На 60 працэнтаў скарацілася за пяцігодку скідванне сцёкаў у рэкі і азёры.

Аднак і ў справе аховы водных рэсурсаў не ўсе пытанні вырашаны.

У апошнія тры гады мы неаднаразова звярталіся да рабочага пасёлка Юбілейны, што ў Гарадку. Першапачаткова тут узводзілі дамы з пячным ацяпленнем. Аднак у ходзе будаўніцтва была зроблена пераарыентацыя на праект з цэнтральным ацяпленнем, водазабеспячэннем і каналізацыяй. Будаўніцтва вядзе Гарадоцкая ПМК-36, якую ўзначальвае П. М. Дзем'янёнак. Будаўнікі заклалі толькі фундамент ачышчальных збудаванняў, узвялі частку сцен і на гэтым чамусьці спыніліся.

Жылы мікраён па вуліцы Юбілейнай ужо здадзены ў эксплуатацыю. Сцёкі няма куды падключыць, і яны скідваюцца ў рэчку Гаражанку.

Па вуліцы Гарадоцкая шаша два гады назад здадзены ў эксплуатацыю вучэбны корпус сельскагаспадарчага тэхнікума, некалькі шматкватэрных жылых дамоў і інтэрнатаў. Іх сцёкі даўно забруджваюць прылеглыя вадаёмы. Каб паскорыць будаўніцтва ачышчальных збудаванняў, абласная інспекцыя па ахове прыроды прымала розныя захады — ад размоў з кіраўнікамі ПМК-36 да штрафаў і пазбаўлення прэміяльных. Аднак начальнік ПМК-36 і галоўны інжынер І. І. Красоўскі цвёрда прытрымліваюцца ранейшых поглядаў на пытанне будаўніцтва ачышчальных збудаванняў.

На жаль, аналагічны падыход да пытання ўзвядзення ачышчальных комплексаў можна наглядаць і ў іншых раённых цэнтрах вобласці.

Між тым, сёння ніхто не асмеліцца аспрэчваць неабходнасць ашчадных адносін да прыроды. Аднак практычнае ажыццяўленне дзяржаўных мер па барацьбе за ахову і рацыянальнае выкарыстанне яе важнейшых рэсурсаў — зямлі, вады, лесу і фауны вельмі часта яшчэ натыкаецца на недастаткова прадуманую «гаспадарчую неабходнасць». Знайсці шляхі пераадолення такога падыходу да аховы і выкарыстання прыродных рэсурсаў, на нашу думку,— галоўная задача грамадскіх і прыродаахоўных арганізацый.

## АБАПІРАЮЧЫСЯ НА ГРАМАДСКАСЦЬ

Дзесятую пяцігодку ўжо сёння называюць пяцігодкай якасці. Прыродаахоўныя арганізацыі, у тым ліку і абласная інспекцыя, не выпускаюць прадукцыі, як, скажам, завод, фабрыка або калгас ці саўгас. Аб якой жа якасці мы можам весці гаворку? Відавочна, аб кваліфікаванасці пастаноўкі прыродаахоўных пытанняў, кваліфікаванасці распрацоўкі іх рашэнняў і абавязковым кантролі за выкананнем гэтых рашэнняў.

Між тым, ахапіць сутнасць і кваліфікавана вырашаць любое прыродаахоўнае пытанне пры ўдзеле адных толькі штатных работнікаў абласной інспекцыі і старшых дзяржінспектараў, якія працуюць у раёнах, немагчыма. І выхад тут адзін — дапамога з боку грамадскасці.

У вобласці дзейнічае Беларускае таварыства аховы прыроды. Яно аб'ядноўвае звыш 300 пярвічных арганізацый і звыш 1000 юнацкіх груп. У шэрагах гэтых арганізацый налічваецца 435 тысяч чалавек, або каля 30 працэнтаў насельніцтва вобласці.

У Віцебску на грамадскіх асновах працуе народны універсітэт. За 1974—1975 навучальны год тут прачытаны наступныя цыклы лекцый: «Ахова прыроды ў перыяд разгорнутага будаўніцтва камунізму ў СССР», «Прырода, грамадства, чалавек», «Прырода ў выяўленчым мастацтве», «Ахова водных рэсурсаў і паветра» і іншыя. Чытаць лекцыі запрашаліся, як правіла, высокакваліфікаваныя лектары. Па тэматыцы прачытаных лекцый дэманстраваліся навукова-папулярныя і мастацкія фільмы. Аналагічная вучоба актыву аховы прыроды праводзілася ў Наваполацку, Оршы і іншых гарадах і раённых цэнтрах.

Вялікая ўвага звяртаецца на прапаганду ведаў аб ахове прыроды сярод шырокіх мас насельніцтва. Для гэтай справы выкарыстоўваем усе наяўныя сродкі. Толькі за 1974 год у вобласці выдадзена 52 плакаты, арганізавана звыш 320 выступленняў па радыё і тэлебачанню, апублікавана 1779 карэспандэнцый у друку, прадэманстравана 7869 кінафільмаў, прачытана звыш 10,8 тысячы лекцый і дакладаў. Не меншая колькасць прыродаахоўнай інфармацыі прайшла па каналах тэлебачання, радыё, друку, кіно і вуснай прапаганды ў мінулым годзе.

Карысць ад гэтай работы адчувальная. Яна заключаецца і ў тым, што намаганні абласной інспекцыі рацыянальней выкарыстоўваць зямлю, ваду, лясныя ўгоддзі знайшлі шырокую падтрымку ў масах, і ў тым, што барацьба з такім злом, як браканьерства, усё больш і больш становіцца справай грамадскасці, і ў тым, што спецыялісты самых розных галін народнай гаспадаркі грунтоўна задумваюцца над рацыянальным выкарыстаннем багаццяў прыроды.

Разам з тым і браканьерства, і парушэнні законаў, якія дапускаюць старшыня Верхнядзвінскай міжкалгаснай будаўнічай арганізацыі, кіраўнікі Гарадоцкай ПМК-36 і іншыя,— гэта вынік недастатковай прапаганды ведаў аб прыродзе ў тых арганізацыях і ўстановах, якія павінны былі, карыстаючыся правамі законаў, рашуча ўздзейнічаць на парушальнікаў.

І тое, што парушальнікі прыродаахоўнага заканадаўства сустракаюць яшчэ паблажлівыя да сябе адносіны ў некаторых установах, сведчыць аб настойлівай неабходнасці прапаганды ведаў аб прыродзе, аб законах яе развіцця. Бо такая прапаганда — гэта дзейсны сродак паспяховага вырашэння малых і вялікіх праблем аховы і рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў.




На цэнтральнай сядзібе саўгаса «Сітца» Докшыцкага раёна ў старым парку стаіць дуб-волат.

Дыяметр камля — 1 метр 80 сантыметраў, шырыня кроны — каля 13 метраў. Узрост дрэва — больш як трыста гадоў. Пладаносіць яно амаль кожны год.

Бытуе шмат легенд і паданняў, звязаных з сітцаўскім волатам. Гэты дуб аб'яўлен помнікам прыроды рэспубліканскага значэння і ахоўваецца дзяржавай.






# КАЛІЙНАЯ ВЫТВОРЧАСЦЬ І АХОВА ПРЫРОДНАГА КОМПЛЕКСУ

**П. ЖЫГАРАЎ,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ глебазнаўства і аграхіміі**

Звыш дванаццаці гадоў салігорскі камбінат «Беларуськалій» пастаўляе калійныя ўгнаенні для значнай зоны абласцей еўрапейскай часткі СССР, а таксама на экспарт. Камбінат складаецца з трох рудаўпраўленняў і дае каля 50 працэнтаў калійных угнаенняў, што выпускаюцца ў нашай краіне. А ў апошні час паспяхова будуецца самае буйное, чацвёртае рудаўпраўленне, праектная магутнасць якога будзе амаль роўна магутнасці трох дзеючых.

Аднак з павелічэннем выпуску ўгнаенняў расце і колькасць адходаў — солеадвалаў, якія даводзіцца складваць на паверхні зямлі. Іх вышыня дасягае 50 метраў. Цяпер пад імі каля 600 гектараў тэрыторыі.

Солеадвалы з'яўляюцца крыніцамі засалення навакольных участкаў глебы, грунтавых і паверхневых вод. Забруджванню паветра, а таксама глебы і вады садзейнічаюць дымавыя выкіды фабрык, якія ўтрымліваюць салявы пыл. Усё гэта выклікае істотныя змены ў натуральных ландшафтах, ствараe неспрыяльныя ўмовы для развіцця раслін.

Солі, што выпадаюць з забруджанай атмасферы на паверхню глебы і расолы, якія пранікаюць на палеткі, значна павышаюць утрыманне хлорыстага натрыю ў глебе, рэзка паніжаюць яе ўрадлівасць. Дымавыя адходы камбіната прычыняюць раслінам не меншую шкоду, чым расолы, бо асядаюць на значна большай тэрыторыі. Яны аказваюць на расліны двайное ўздзеянне — атручваюць таксічнымі газамі і дзейнічаюць праз салёную глебу.

Ці можна паменшыць шкодны ўплыў адходаў калійнай вытворчасці на глебу і расліны?

Так, можна. Перш за ўсё гэта тэхнічныя меры барацьбы: эфектыўная работа пылагазаачышчальнага абсталявання на абагачальных фабрыках, спраўнасць дамб ахоўнага абсталявання. Акрамя гэтага неабходна прымяненне і агратэхнічных мерапрыемстваў, накіраваных на зніжэнне і ліквідацыю шкоднага ўздзеяння адходаў калійных камбінатаў.

Што ж робіцца для зніжэння шкоднага ўздзеяння адходаў камбіната «Беларуськалій» на прыроднае асяроддзе?

З задавальненнем можна адзначыць, што за апошнія гады пытанні аховы навакольнага асяроддзя ў Салігорскім раёне інтэнсіўна распрацоўваюцца па многіх напрамках. Асабліва вялікі ўклад у гэтую справу ўносіць камбінат. Тут укараняецца новая тэхналогія здабычы калійнай солі, што дазваляе ў значнай ступені зніжаць колькасць выхаду адходаў. Справа ў тым, што сільвініт залягае ў выглядзе пластоў у пакладах кухоннай солі, якая складае каля 70 працэнтаў усяго каліяноснага гарызонту. Пры ранейшай тэхналогіі здабычы ўсё разам падымалася на паверхню. Пасля тры чвэрці руды ішло ў адходы. Па новай тэхналогіі з лавы будуць вымацца ў асноўным пласты калійнай солі, а большая частка кухоннай застанецца пад зямлёй, у выпрацоўках.

Паспяхова вядзецца будаўніцтва новых супрацьфільтрацыйных экранаў пад солеадвалы і шламасховішчы. Гэта папярэдзіць прасочванне расолаў у глебагрунты і грунтавыя воды і захавае іх ад засалення. Адначасова праводзяцца работы па скарачэнню земельных плошчаў, якія адводзяцца з сельскагаспадарчага кліна пад тэрыконы. Цяпер прымяняюць вышыннае, шмат'яруснае складванне цвёрдых адходаў. Раней яны дасягалі 25 метраў. Цяпер — 50 і больш.

Істотную ролю ў паніжэнні колькасці салявых адходаў на паверхні зямлі адыграе гідраўлічная закладка солей з тэрыконаў у свабодныя шахтныя выпрацоўкі. Доследна-прамысловая ўстаноўка для такой закладкі праходзіць выпрабаванні на першым рудаўпраўленні. З цягам часу ўстаноўкі будуць створаны і на іншых рудаўпраўленнях камбіната. Пачата таксама бурэнне доследнай свідравіны па скідванню лішкаў расолаў у глыбінныя пласты зямлі, дзе яны не прынясуць ніякай шкоды.

Прыкметна скарацілася скідванне салёнай вады, якая паступае з лівневай каналізацыі ў Салігорскае вадасховішча. Аб гэтым красамоўна гавораць дадзеныя аб утрыманні ў рачной вадзе хлору — самага шкоднага кампаненту прамысловых сцёкаў. Так, да пачатку работы камбіната ўтрыманне гэтага рэчыва ў вадзе Случы, ніжэй Салігорска, складала ў сярэднім 12 міліграмаў на літр. З уводам у эксплуатацыю першага рудаўпраўлення (снежань 1963 года) утрыманне хлору ад скідвання расолаў хутка пачало ўзрастаць. Пасля трох гадоў работы рудаўпраўлення яно дасягнула 55,8 міліграма на літр. А ў 1971 годзе склала значна больш. Стварылася рэальная пагроза засалення паверхневых вод раёна. Таму былі прыняты дзейсныя меры па зніжэнню мінералізацыі і агульнага сцёку вады лівневай каналізацыі. Ажыццяўленне гэтых мерапрыемстваў не замарудзіла адбіцца на колькасці хлору ў рачной вадзе. Пачынаючы з 1972 года колькасць яго стала паступова змяншацца і цяпер складае на працягу года ад 27 да 40 міліграмаў на літр. Воды лівневай каналізацыі першага рудаўпраўлення, якія выклікалі засаленне вадасховішча і ракі Случ, таксама рэзка змяніліся. Раней па агульнаму ўтрыманню солей яны нават пераўзыходзілі марскую ваду і былі зусім не прыгодны для жыцця прэснаводных істот. Цяпер жа становішча змянілася. У скідваемых прамысловых сцёках можна заўважыць шматлікіх жыхароў прэснаводнай іхтыяфауны, нават чародкі малявак рыб.

Шэраг мерапрыемстваў, накіраваных на павышэнне ўстойлівасці палявых культур да шкоднага ўздзеяння салявых адходаў, праводзяць самі гаспадаркі. Так, на асобных палях саўгаса «Гарняк», якія знаходзяцца непадалёк ад солеадвалаў і абагачальнай фабрыкі першага рудаўпраўлення, ужо некалькі гадоў запар не ўносяць калійныя ўгнаенні. Тым не менш, расліны не пакутуюць ад гэтага, бо ўтрыманне рухомага калію ў глебе ў радыусе каля кіламетра ад рудаўпраўлення дастаткова высокае. З мінеральных угнаенняў на такіх землях уносяць азотныя і фосфарныя з абавязковым правядзеннем вапнавання. Уносяцца і арганічныя ўгнаенні.

Пачата асушэнне зямель калгаса «Прамень камуны», якія засолены расоламі. Гаспадарка знаходзіцца непадалёк ад другога рудаўпраўлення. Землі тут высокаўрадлівыя, але з-за павышанага ўтрымання солей і лішкаў вільгаці сталі малапрадуктыўнымі. Выхад быў адзін: правесці асушэнне з мэтай паніжэння ўзроўню мінералізаваных грунтавых вод да такой глыбіні, з якой вымытыя даждждамі з глебы солі не маглі б падняцца зноў да паверхні ворнага гарызонту.

Гэты вывад зроблен на аснове шматгадовых даследаванняў, якія дазволілі ўстанавіць, што засаленне адбываецца ў асноўным на паніжаных месцах з узроўнямі вады да 2 метраў. На працягу года солі тут робяць сезонна-абарачальную міграцыю. Вясной і восенню яны звычайна вымываюцца атмасфернымі ападкамі да грунтавых вод, а з надыходам цёплага сухога надвор'я зноў падымаюцца да паверхні глебы, засольваючы яе. Таму, згодна з нашымі разлікамі, узровень грунтавых вод тут вырашана панізіць больш як на два метры ад паверхні зямлі.

Такім чынам, комплекснае прымяненне тэхналагічных і агратэхнічных мерапрыемстваў з'яўляецца залогам найбольш паспяховай аховы прыроднага асяроддзя ў Салігорскім раёне.

# КРЫНІЦА ПОСПЕХУ

Кола пытанняў, якімі даводзіцца займацца старшаму раённаму інспектару Дзяржкамітэта СМ БССР па ахове прыроды, надзвычай шырокае. Шырокае таму, што ў кожным раёне цяпер налічваюцца дзесяткі прадпрыемстваў і арганізацый, якія маюць дачыненні да выкарыстання зямлі, вады, лесу і іншых рэсурсаў прыроды. Больш таго, здараецца, што прадпрыемствы сваімі адходамі аказваюць шкоднае ўздзеянне на жывёльны і раслінны свет, забруджваюць ваду і паветра. Інспектар абавязан кантраляваць, як выкарыстоўваюцца і ахоўваюцца разнастайныя прыродныя багацці, як клапоцяцца на прадпрыемствах і ў арганізацыях аб своечасовым узнаўленні збяднелых рэсурсаў.

Справа гэта нялёгкая. Яна патрабуе, з аднаго боку, глыбокага ведання сучасных вытворчых працэсаў, а з другога — грунтоўнай падрыхтоўкі па біялогіі, хіміі і іншых навуках. Толькі гэтая дасведчанасць дазваляе кваліфікавана падыходзіць да вырашэння складаных прыродаахоўных праблем. Яна рухае наперад творчую ініцыятыву інспектара, якая знаходзіць падтрымку ў шырокіх колах грамадскасці, ставрае яму аўтарытэт высокакваліфікаванага спецыяліста.

Менавіта пра такога чалавека і пойдзе гаворка ў гэтым артыкуле. Старшы дзяржаўны інспектар па ахове прыроды Мазырскага раёна Мікалай Арсенавіч Шашолка працуе на гэтай пасадзе не першы год. Вядома, на пачатку і ў яго не было неабходнага вопыту. Інспектар пачаў з планавання сваёй работы.

Цяпер, складаючы план, Мікалай Арсенавіч строга ўлічвае ўказанні і планы Дзяржкамітэта СМ БССР па ахове прыроды, абласной інспекцыі Дзяржкамітэта. Планы абавязкова ўвязваюцца з адпаведнымі партыйна-дзяржаўнымі пастановамі па ахове прыроды і выконваюцца ў цеснай садружнасці з мясцовымі партыйнымі і савецкімі органамі, органамі народнага кантролю, дэпутацкімі камісіямі па сельскай гаспадарцы і ахове прыроды. І вось вынікі: з таго часу, як М. А. Шашолка прыступіў да работы, прынята пяць рашэнняў райвыканкома і адзінаццаць пастаноў выканкомаў і сесій сельскіх Саветаў дэпутатаў працоўных.

Акрамя квартальнага, Мікалай Арсенавіч мае штомесячны план работы. А на 1975 год быў прыняты асабісты творчы план-абавязацельства.

Мэтанакіравана планаваць сваю работу і кантраляваць дзейнасць прадпрыемстваў і арганізацый дапамагае тое, што інспектар за параўнаўча кароткі тэрмін вывучыў стан выкарыстання і аховы прыродных рэсурсаў у калгасах, саўгасах і на прадпрыемствах раёна і вядзе адпаведны ўлік выкарыстання зямлі, вады, лесу і г. д. У выніку інспектар дакладна ведае, якія прадпрыемствы і арганізацыі займаюцца, скажам, здабычай нярудных выкапняў, якія і колькі спажываюць і скідваюць вады, дзе і колькі працуе свідравін, водаразбораў, якія водагаспадарчыя аб'екты будуюцца і якія толькі плануецца будаваць, наяўнасць складаў для захоўвання мінеральных угнаенняў і ядахімікатаў, кацельняў з сутачным спажываннем паліва звыш трох тон і многае іншае. Для тых прадпрыемстваў, дзе спажыванне вады за суткі перавышае 10 кубаметраў, складзены спецыяльныя карткі, у якіх адлюстроўваюцца ўсе асаблівасці выкарыстання вады.

Па пытаннях аховы паветра і рацыянальнага выкарыстання вады пры ўдзеле інспектара распрацавана 28 планаў мерапрыемстваў, якія ажыццяўляюцца на прадпрыемствах і ў арганізацыях. Копіі гэтых планаў захоўваюцца ў інспектара, таму барацьба за чысціню вады і паветра знаходзіцца пад пастаянным кантролем.

Добрая, дзелавая дружба ўстанавілася ў Мікалая Арсенавіча з прадстаўнікамі гарадской і раённай санэпідэмстанцый. Сумесна з санурачамі горада ён кантралюе работу палёў фільтрацыі Мазыра, а таксама лакальных ачышчальных збудаванняў на прадпрыемствах. Утрыманне і тэхнічная спраўнасць артэзіянскіх свідравін, а таксама водазабеспячэння ў сельскай мясцовасці штоквартальна правяраюцца сумесна з работнікамі раённай санэпідэмстанцыі.

Летась у першым — трэцім кварталах такія праверкі былі праведзены ў саўгасе «Прудок», на Мазырскай птушкафабрыцы і ў калгасе «Прамень Кастрычніка». У саўгасе «Прудок» было выяўлена, што ў выніку нясвоечасовай вывазкі гнаявая жыжка трапляе ў рэчку Тур. Склалі акт. Дырэктара папярэдзілі. Адзначаны недахоп хутка быў ліквідаваны.

У лютым 1975 года выканком раённага Савета дэпутатаў працоўных прыняў рашэнне аб рэкультывацыі выпрацаваных тарфянікаў і пясчана-гравійных кар'ераў. Рашэнне было выслана ўсім прадпрыемствам і арганізацыям, якія маюць парушаныя землі. Дзякуючы гэтаму, план першага паўгоддзя рэкультывацыі кар'ераў быў перавыкананы. Паспяхова выканан і план перадачы рэкультываваных тарфянікаў.

Для ажыццяўлення кантролю за выкарыстаннем асушаных зямель у калгасах і саўгасах, а таксама іншых угоддзяў перыядычна наладжваюцца выезды разам з інспектарам спецыялістаў упраўлення сельскай гаспадаркі райвыканкома. Матэрыялы гэтых праверак перадаюцца на разгляд райвыканкома. Так было прынята рашэнне райсавета дэпутатаў працоўных аб рабоце праўлення калгаса «Серп і Молат» па рацыянальнаму выкарыстанню зямлі.

Цесную сувязь з органамі сельскай гаспадаркі і іншымі арганізацыямі падтрымлівае інспектар, наладжваючы ажыццяўленне супрацьэразійных мерапрыемстваў. У выніку ў раёне пачата будаўніцтва тэрас на схілах лагчын і рэкультываваных кар'ераў, а таксама пасадка лесу. За гэту работу ў 1974 годзе Мазырскі лясгас, дзе дырэктарам т. Бондар, быў прадстаўлены на ВДНГ СССР.

Паляпшэнне аховы лесу і зялёных насаджэнняў у населеных пунктах, аховы паляўнічай фауны можа быць толькі на аснове прыцягнення да гэтай справы шырокіх колаў грамадскасці. І М. А. Шашолка падтрымлівае дзелавыя сувязі з рознымі арганізацыямі і асабліва з гаррайсаветам Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў і пярвічнымі арганізацыямі Беларускага таварыства аховы прыроды.

У раёне праводзіцца значная работа па прапагандзе ведаў аб прыродзе і прыродаахоўнага заканадаўства. Летась праведзена гарадская навукова-практычная канферэнцыя. У яе рабоце прынялі ўдзел адказныя партыйныя, савецкія і камсамольскія работнікі, кіраўнікі прамысловых прадпрыемстваў, прадстаўнікі навучальных устаноў горада. Канферэнцыя выпрацавала рэкамендацыі па ахове і рацыянальнаму выкарыстанню прыродных рэсурсаў у раёне.

Для прапаганды ведаў аб прыродзе пры райвыканкоме арганізавана школа, слухачамі якой з'яўляюцца работнікі сельскіх Саветаў, старшыні пастаянных камісій па сельскай гаспадарцы і ахове прыроды, работнікі іншых устаноў і арганізацый. У раённай газеце «Камуніст Палесся» на гэту тэму змешчана за год звыш сарака выступленняў.

І ва ўсіх прыродаахоўных справах, якія ажыццяўляюцца на Мазыршчыне, адчуваецца ўдзел старшага дзяржаўнага інспектара па ахове прыроды М. А. Шашолкі.




**У. КАРПІКАЎ,**
**галоўны інжынер упраўлення меліярацыі і воднай гаспадаркі Гомельскага аблвыканкома**

Меліярацыя з'яўляецца адным з важнейшых фактараў павышэння прадукцыйнасці сельскагаспадарчых угоддзяў. Поруч з механізацыяй і хімізацыяй вытворчасці яна падвойвае-патройвае сілу зямлі. Таму на Гомельшчыне меліяравана ўжо 460 тысяч гектараў калгасных і саўгасных угоддзяў. Гэтыя ўрадлівыя землі дазволілі значна павялічыць валавыя зборы збожжа, бульбы, траў. У 1974 годзе Жлобінскі, Петрыкаўскі і Акцябрскі раёны сабралі па 30—32 цэнтнеры збожжа з гектара, а перадавыя гаспадаркі пераступілі рубеж 40 цэнтнераў.

Толькі за кошт меліярацыі зямель валавы збор збожжа ў Акцябрскім раёне павялічыўся больш як на 20 працэнтаў, у Петрыкаўскім — на 34,2 працэнта. Прыкметную дабаўку ўраджаю атрымалі на асушаных землях Рэчыцкі, Жыткавіцкі і іншыя раёны вобласці.

За апошнія гады значна ўзрасла капітальнасць меліярацыйнага будаўніцтва. Меліяратары цяпер праектуюць не толькі скідванне лішняй вільгаці з балот, але стараюць асушальна-ўвільгатняльныя сістэмы з мэтай максімальна затрымаць ваду, каб у засушлівую пару года падаць яе на палеткі раслінам, бо толькі рэгуляванне глебавай вільгаці пры адналькавых іншых фактарах дазваляе атрымаць прыбаўку ўраджаю.

Цяпер праектныя арганізацыі не выпускаюць праекты, якія не прадугледжвалі б двайнога рэгулявання вільгаці. Выключэнне складаюць толькі тыя масівы, дзе недастаткова мясцовага сцёку і ваду нельга падаць з іншых вадазбораў.

Аднак увільгатненне глебы спосабам рэгулявання сцёку рэк і каналаў хаця і дае дадатны эфект, яго нельга параўнаць з арашэннем пры дапамозе дажджавальных установак. Таму ў вобласці шырока разгарнуліся работы па стварэнню арашальных сістэм як на асушаных землях, так і на ўгоддзях, якія не патрабуюць асушэння. Цяпер ужо налічваецца 32,4 тысячы гектараў, якія атрымліваюць вільгаць пры дапамозе арашальных сістэм.

Прыбаўка ўраджаю, якую дае арашэнне, вельмі прыкметная. Так, саўгас «Бярозкі» Гомельскага раёна на працягу чатырох гадоў атрымлівае па 250—350 цэнтнераў гародніны з гектара, па 180—250 цэнтнераў бульбы. Па 60—70 цэнтнераў кармавых адзінак з гектара арашаемых угоддзяў атрымлівае ордэна Кастрычніцкай Рэвалюцыі племзавод «Ведрыч» Рэчыцкага раёна. Летась, напрыклад, у гаспадарцы на плошчы 292 гектары асушанай культурнай пашы, дзякуючы арашэнню, атрымана па 66,6 цэнтнера кармавых адзінак у той час, як такая ж паша без арашэння дала толькі па 35 цэнтнераў кармавых адзінак.

Атрымліваючы добрую аддачу ад арашаемага земляробства, многія гаспадаркі ахвотна ідуць на расшырэнне такіх плошчаў. Аднак задаволіць усе патрэбы земляробаў меліяратары пакуль не маюць магчымасці, бо вады, гэтага каштоўнейшага вадкага мінералу, у прыродзе не бязмежная колькасць.

Мы ўжо адзначалі, што праекціроўшчыкі амаль паўсюдна прадугледжваюць сістэмы двухбаковага дзеяння, аднак гэта не заўсёды атрымліваецца з-за недахопу вады. Падаць жа яе з іншых сістэм на невялікія масівы не ўяўляецца магчымым, бо гэта прывядзе да значнага павелічэння капіталаўкладанняў на меліяраваны гектар.

Такое ж становішча і з арашэннем. Той жа племзавод «Ведрыч» падаў заяўку з просьбай спраектаваць арашэнне 1000 гектараў — амаль усю плошчу асушаных угоддзяў. Ідучы насустрач гаспадарцы, Гомельская дырэкцыя меліярацыйных аб'ектаў і прадпрыемстваў заказала праектна-каштарысную дакументацыю ў інстытуце «Саюзгіпрамеліяводгас». Аднак выканаць просьбу племзавода было складана. Гаспадарка мае ўжо 292 гектары арашаемых зямель. Праектуецца яшчэ 200. А вада забіраецца з адной крыніцы — рэчкі Ведрыч. І вось, падлічыўшы, праекціроўшчыкі прыйшлі да вываду, што далей развіваць арашэнне тут немагчыма: рэчка не зможа забяспечыць вадой такую плошчу.

Аналагічнае становішча назіраецца і ў іншых гаспадарках, на іншых вадатоках. Пашыраць далей арашаемае земляробства па берагах такіх рэчак, як Дабасна, Ржаўка, Добрыца, Іўня і некаторых іншых мы ўжо не можам. Ствараць на іх вадасховішчы для затрымання вясновай вады — гэта значыць затапіць значныя плошчы зямель, якія меліяраваны закрытым дрэнажом.

Таму даводзіцца развіваць арашаемае земляробства паблізу буйных рэк або ісці на забор падземнай вады, што не заўсёды магчыма.

Ці ёсць выхад з такога становішча? Безумоўна, ёсць. І заключаецца ён, як не дзіўна, у будаўніцтве вадасховішчаў. У вобласці іх налічваецца ўжо 19. Гэта вадасховішчы і сажалкі, плошча якіх складае 515 гектараў. Аднак усе яны невялікія. Асобныя вадаёмы займаюць 2—3, некаторыя 30—40 гектараў. Толькі вадасховішча ў саўгасе «Добрынь» Ельскага раёна мае плошчу 122 гектары. Калі выкарыстаць усю ваду гэтых сажалак, то можна было б арасіць усяго 5—6 тысяч гектараў зямлі. А мы ж павінны думаць і пра развядзенне рыбы, пра культурны адпачынак працоўных. Дык вось і напрошваецца адзіны вывад — будаваць буйныя вадасховішчы з запаўненнем іх вадой вясновага сцёку.

Схемай асушэння і асваення зямель Палесся на тэрыторыі Гомельскай вобласці прадугледжана пабудаваць 4 буйныя вадасховішчы: Мілашэвіцкае ў Лельчыцкім раёне, Светлагорскае ў Светлагорскім і Калінкавіцкім, Днепра-Брагінскае і Песачанка ў Лоеўскім і Брагінскім раёнах. Іх плошча 5,8 тысячы гектараў. Карысная ёмістасць — звыш ста мільёнаў кубаметраў. Акрамя гэтага, мяркуецца пабудаваць 51 сажалку агульнай плошчай звыш 9 тысяч гектараў.

Цяпер у сувязі з развіццём схемы асваення Палескай нізіны некалькі перагледжаны месцы размяшчэння вадасховішчаў, іх памеры. Днепра-Брагінскае вадасховішча ўжо спраектавана і знаходзіцца на зацвярджэнні ў «Галоўпалессеводбудзе». У далейшым прадугледжваецца будаўніцтва вадасховішча на выпрацаваных тарфяных масівах у Хойніцкім раёне з падачай вады з Днепра-Брагінскага.

Рацыянальна падышлі праекціроўшчыкі да распрацоўкі праекта рыбгаса і вадасховішча Светлагорскае. Справа ў тым, што ствараць яго меркавалі на землях дзяржфонду, якія заняты лесам. Перад праектаваннем у выніку рэкагнасцыровачнага абследавання была прынята прапанова — стварыць вадасховішча на выпрацаваных масівах торфазавода «Светлагорскі». У выніку будзе захавана каля тысячы гектараў лесу.

Вадасховішчы, пра якія ішла гутарка вышэй,— наліўныя. Вада ў іх будзе падавацца магутнымі помпавымі станцыямі з Дняпра, Бярэзіны, Іпы. Яна будзе забірацца ў асноўным вясной, каб максімальна пазбегнуць забору сцёку ў летні час.

Днепра-Брагінскае вадасховішча ўключана ў план будаўніцтва 1976 года. У першым квартале будзе выдадзены праект Светлагорскага вадасховішча. У гэтым годзе намячаецца пачаць яго будаўніцтва.

Увод у дзеянне гэтых буйных вадаёмаў дазволіць абвадніць шэраг буйных меліяраваных масіваў: Іпа, Ненач, Закованка, Віць-Тур'я, Брагінка, Песачанка, Ведрыч і шэраг іншых больш дробных. У 1979 годзе прадугледжваецца пачаць будаўніцтва вадасховішча Рэдзецкі мох, у 1981 годзе — Мілашэвіцкае ў Лельчыцкім раёне.

Праектаванне і будаўніцтва больш дробных вадаёмаў і сажалак мяркуецца ажыццявіць паралельна з праектаваннем і будаўніцтвам меліярацыйных аб'ектаў арашэння як неаддымнай часткі саміх аб'ектаў. Усе гэтыя меры дазволяць ажыццявіць у поўным комплексе абвадненне і арашэнне ўсіх меліяраваных, а таксама прылеглых да іх суходольных зямель.

# РЭКУЛЬТЫВАЦЫЯ—ПАТРАБАВАННЕ ЧАСУ

**Ф. МАЛЫШАЎ, М. КОТ,**
**кандыдаты тэхнічных навук**

ПРАЦЯГВАЕМ РАЗМОВУ

Пастаноўка пытання аб даручэнні «Белгіправодгасу» праектна-пошукавых работ на тэрыторыях выпрацаваных тарфянікаў, а самой рэкультывацыі — меліярацыйным будаўніча-мантажным упраўленням» (гл. артыкул В. Чувічкі, В. Жмакі, Р. Мароза «Каму даручыць рэкультывацыю?», «Родная прырода», № 5, 1975 г.) адпавядае патрабаванням часу.

Наша рэспубліка з'яўляецца найбольш затарфаваным раёнам еўрапейскай часткі СССР. Плошча тарфяных пакладаў у БССР займае больш як 2,5 мільёна гектараў. Гэта каштоўнае прыроднае багацце, эксплуатацыя якога робіць пэўны ўплыў на змяненне біясферы.

У працэсе здабычы торфу адбываецца сістэматычнае вызваленне плошчаў, на якіх пакідаецца толькі ахоўны пласт арганікі. Магутнасць гэтага пласта змянялася з развіццём тарфяной прамысловасці. Да 1941 года торфаздабываючыя прадпрыемствы павінны былі пакідаць ахоўны пласт 15 сантыметраў. Фактычна пакідаўся пласт, які немагчыма было выпрацаваць па тэхналагічных прычынах. У той час зыходзілі, вядома, не з інтарэсаў далейшага выкарыстання плошчаў пасля выпрацоўкі пакладаў, а з неабходнасці здабычы як мага большай колькасці торфу для патрэб прамысловасці, якая шпарка развівалася. Пры гэтым здабыча вялася ў асноўным кар'ерным спосабам, пасля чаго заставаліся ямы глыбінёй ад 1,5 да 4 метраў.

У пасляваенны перыяд велічыня ахоўнага пласта павялічылася да 20 сантыметраў. У гэты час шырока пачаў укараняцца фрэзерны спосаб здабычы. Дзяржкамітэт СМ БССР па ахове прыроды зацвердзіў палажэнне «Аб парадку перадачы і прыёму выпрацаваных плошчаў тарфянікаў для далейшага выкарыстання ў народнай гаспадарцы». У палажэнні гаворыцца, што ўсе выпрацаваныя плошчы тарфяных пакладаў і іх ускрайкі падлягаюць звароту ранейшым землекарыстальнікам ці інш .м арганізацыям для далейшага выкарыстання ў народнай гаспадарцы. У гэтым палажэнні прадугледжана, што магутнасць ахоўнага пласта на плошчах, якія мяркуецца выкарыстоўваць пад ворыва і сенажаці, павінна быць не менш як паўметра, а для іншых мэт — не менш як 20 сантыметраў.

Дзяржкамітэт СМ СССР па навуцы і тэхніцы ўстанавіў наступныя нормы невыпрацоўваемага тарфянога пласта: для плошчаў, якія будуць выкарыстоўвацца ў сельскай гаспадарцы,— 50 сантыметраў, для лесаразвядзення — 30 сантыметраў і для іншых мэт — 15 сантыметраў.

Цяпер і ў перспектыве, згодна з прагнознымі распрацоўкамі, штогод у эксплуатацыі павінна знаходзіцца прыблізна 70 тысяч гектараў тарфяных пакладаў, у тым ліку для патрэб сельскай гаспадаркі — каля 50 тысяч. Асноўнымі ведамствамі, якія вядуць здабычу торфу ў БССР, з'яўляецца Міністэрства тарфяной прамысловасці, рэспубліканскае аб'яднанне «Белсельгастэхніка» і Міністэрства мясцовай прамысловасці. Плошча выпрацаваных гэтымі ведамствамі масіваў налічвала на пачатак мінулага года каля 99 тысяч гектараў. З гэтай колькасці плошчы, якія выпрацаваны фрэзерным спосабам, складаюць 73 тысячы гектараў, кар'ерным — 26 тысяч гектараў. Да 1974 года каля 60 працэнтаў выпрацовак перададзена землекарыстальнікам. Астатнія плошчы не выкарыстоўваюцца ў народнай гаспадарцы і з'яўляюцца, па сутнасці, закінутымі землямі. Сярод іх амаль палавіна выпрацаваных кар'ерным спосабам.

Рэкультывацыя плошчаў, выпрацаваных кар'ерным спосабам, для вырошчвання сельскагаспадарчых культур ці стварэння сенажацяў патрабуе значных капіталаўкладанняў, бо неабходна выраўноўваць кар'еры, рабіць новае асушэнне, а ў некаторых выпадках рэгуляваць водапрыёмнік. Пасля выпрацоўкі тарфяных пакладаў фрэзерным спосабам застаецца даволі роўная паверхня. Аднак і тут плошча патрабуе планіроўкі, зрэзкі падкараваных палос, пракладкі новай асушальнай сеткі.

Работы па рэкультывацыі выпрацаваных тарфянікаў вядуцца, на жаль, яшчэ марудна і няякасна. Між тым, выкарыстанне гэтых плошчаў трэба разглядаць не толькі з пункту гледжання павелічэння зямельнага фонду, што вельмі важна, бо ў апошнія гады наглядаецца тэндэнцыя памяншэння ворыва ў разліку на душу насельніцтва, але і з пункту гледжання памяншэння парушэнняў прыроднага комплексу, які склаўся на працягу стагоддзяў у рэспубліцы. Таму пастаноўка пытання аб даручэнні «Белгіправодгасу» праектна-пошукавых работ на тэрыторыі выпрацаваных тарфянікаў заслугоўвае ўвагі.

Поруч з гэтым трэба адзначыць, што цяпер пры распрацоўцы праектаў торфапрадпрыемстваў распрацоўваецца і раздзел па рэкультывацыі выпрацаваных плошчаў. Таму для гэтых выпадкаў немэтазгодна прыцягваць яшчэ і іншую праектную арганізацыю. Калі гэтыя раздзелы недастаткова распрацоўваюцца, то іх неабходна расшырыць у адпаведнасці з прад'яўляемымі патрабаваннямі.

Для плошчаў, якія выпрацаваны даўно, складанне дакументацыі на рэкультывацыю мэтазгодна даручыць якой-небудзь спецыялізаванай арганізацыі, напрыклад, «Белгіправодгасу». Але самым галоўным, на наш погляд, з'яўляецца выдзяленне мэтавым прызначэннем капіталаўкладанняў для правядзення гэтых вялікіх работ. Думаецца, было б правільным накіраваць для гэтай мэты частку сродкаў, якія адпускаюцца на меліярацыю. Для выканання работ па рэкультывацыі старых выпрацаваных плошчаў было б мэтазгодна, відавочна, спецыялізаваць некалькі будаўніча-мантажных меліярацыйных упраўленняў.

# ПАЯДЫНАК

У лясных угоддзях і на палях калгаса «Маяк камунізму» Магілёўскага раёна часта бачылі жыхары навакольных вёсак грацыёзнага лася. Бывала, выйдзе з лесу са сваёй сяброўкай-ласіхай на лубін і нават людзей не палохаецца. Корміцца, як хатняя жывёла.

У час гону ласі становяцца больш смелыя і вельмі злыя. У пошуках самак на ранішніх і вячэрніх зорах яны равуць (стогнуць). І пры такой пераклічцы сыходзяцца на паядынак.

Вось такая сутычка адбылася ў лася-прыгажуна са сваім сапернікам ва ўрочышчы Машчонае балота ля вёскі Дабраснявічы. Метровыя разгалістыя рогі двух лясных волатаў сашчапіліся так, што ласі не змаглі вызваліцца адзін ад аднаго. Знясіленыя, яны паваліліся на зямлю...

На месцы паядынку ласі вытапталі траву, перацерлі хмызняк, паламалі дрэвы таўшчынёй да 15 сантыметраў.

Па рагах спецыялісты вызначылі, што ласям было па шэсць гадоў.

**І. БЯЛЯЕЎ,**
**інструктар прэзідыума Магілёўскага аблсавета**
**Беларускага таварыства аховы прыроды**





# ЗУБРЫ БЕЛАВЕЖЫ

Гісторыя Белавежскай пушчы непарыўна звязана з імем адной з найбольш цікавых жывёл сучаснай фауны — зубрам. Стала крылатым выказванне вядомага заолага Северцава: «Пушча захавалася таму, што там былі зубры, а зубры жылі таму, што існавала пушча».

У мінулым зубры былі распаўсюджаны на тэрыторыі цэнтральнай і заходняй Еўропы. Аб гэтым сведчаць археалагічныя знаходкі, назвы рэк і селішчаў. Але ўсё больш некранутых лясоў адыходзіла з часам пад палеткі, пашу. Старажытны лес скарачаўся на вачах. На пачатку XVIII стагоддзя зубры захаваліся толькі ў Белавежскай пушчы. Чаму менавіта тут? Справа ў тым, што Белавежская пушча здавён як бы валодала «ахоўнай граматай»: была месцам палявання тытулаваных асоб — ад князёў літоўскіх і польскіх да рускага цара. Тады-сяды выконваліся некаторыя правілы запаведнага рэжыму.

У 1809 годзе ў пушчы налічвалася каля трохсот зуброў. У наступныя гады, дзякуючы пэўным захадам па ахове (прычыну такога клопату мы ўжо назвалі), пагалоўе лясных волатаў прыкметна павялічылася. У канцы XIX стагоддзя зубрыны статак стабілізаваўся (600—700 галоў). Стабілізацыя выклікала недаўменне ў вучоных. Сапраўды, зуброў падкормліваюць, ахоўваюць, а колькасць не павялічваецца. Выказваліся такія думкі: зубры — выміраючае племя, і сучасныя ўмовы не для іх. Прыводзіліся шматлікія факты, якія, на першы погляд, сведчылі на карысць падобных меркаванняў. Так, указвалася на зніжэнне тэмпаў размнажэння. Самкі давалі прыплод не часцей, як раз у тры гады. Назіралася высокая смяротнасць сярод маладняку. У пошуках ісціны Расійская Акадэмія навук накіравала ў 1910 годзе спецыяльную экспедыцыю пад кіраўніцтвам прафесара Кулагіна. Галоўны вынік праведзеных даследаванняў і назіранняў — абвяржэнне тэорыі «вымірання» зуброў. Удзельнік экспедыцыі Урублеўскі даказаў, што стабілізацыя зуброў тлумачыцца шэрагам спецыфічных умоў. Дагэтуль амаль не звярталі ўвагі на тое, што ў пушчы, акрамя зуброў, селіцца шмат іншых драўнінаедных жывёл. У 1907 годзе тут было 5054 алені, 1250 даніэляў. Асноўны іх корм — драўнінны. Узнікала канкурэнтнае становішча. А для зуброў драўнінны корм — абавязковая перадумова ўзнаўленчых магчымасцей. Перанаселенасць пушчы, недахоп корму — трывожны сігнал у зубрыным стане. Такі вывад зроблен больш паўстагоддзя назад.

Першая сусветная вайна стала катастрофай і для зуброў. За некалькі гадоў ад статка засталіся адны ўспаміны. 12 красавіка 1919 года быў забіты апошні белавежскі зубр.

Работы па ўзнаўленню зубрынага статка ў Белавежы пачаліся ў канцы 20-х гадоў. Надзеі ўскладаліся на экземпляры, вывезеныя ў свой час у заапаркі і заасады. Ужо ў 1941 годзе ў пушчы жыло 19 зуброў. Утрымліваліся яны за агароджай. Статак паступова рос. Але ў часе вайны ад браканьерства, недакорму і хвароб 24 зубры загінулі. На пачатку 1946 года засталося 26 асобін.

На сённяшні дзень у Белавежскай пушчы (тэрыторыя СССР) у натуральных умовах пасецца каля 90 зуброў. Акрамя гэтага, 114 галоў вывезена ў іншыя раёны краіны і за мяжу. Неабходна адзначыць, што гэта адзінае ў краіне вольнае згуртаванне чыстакроўных зуброў.

Дзякуючы «белавежцам» створана некалькі новых пунктаў развядзення гэтых жывёл, пераважна на тэрыторыях Украіны (Кляванская, Цуманская і Залеская лесагаспадаркі) і Расійскай Федэрацыі (Цэйскі дзяржаўны заказнік, Нельчынская паляўнічая гаспадарка). Некалькі зуброў, галоўным чынам самцоў, адпраўлены ў заапаркі гарадоў Савецкага Саюза.

Падагульняючы сказанае, можна сцвярджаць, што рэакліматызацыя зуброў праходзіць паспяхова. Звяры рэгулярна размнажаюцца. Летам яны поўнасцю забяспечваюць сябе натуральным кормам: травяністая расліннасць (пераважна злакі, бабовыя) і драўнінная (часцей вярба, асіна, рабіна, брызгліна, дуб, ясень).

Зубры асвоілі ў пушчы значную плошчу: 15000 га. Асобныя самцы і групы размяшчаюцца па ўсёй пушчы. Раён жыхарства складаецца з розных тыпаў лесу, якія ва ўмовах Белавежы часта мяняюцца. Што датычыць стацыяльнага размяшчэння, то яно цалкам залежыць ад аб'ёму корму ў тых ці іншых угоддзях.

Зімой раён размяшчэння скарачаецца. Зубры канцэнтруюцца каля падкормачных пунктаў, дзе ім выдаецца бульба, морква, буракі... Аснову харчавання ў гэты перыяд складае штучная падкормка. Але патрэбен і натуральны корм.

Зімой, як ніколі, адчуваецца канкурэнцыя (алені, казулі, часткова дзікі). Запасы ж драўніннай расліннасці прыкметна падарваны: у пушчы мала прыросту. Натуральная падкормка мае адмоўныя бакі. Жывёлы збіраюцца ў адным месцы, парушаецца іх вольнае размяшчэнне, мяняюцца ўзаемаадносіны паміж рознымі палавымі і ўзроставымі групамі.

Тым не менш, мы мяркуем, што ва ўмовах Белавежы, дзе надараюцца халодныя снежныя зімы, зубры могуць жыць толькі пры арганізаванай падкормцы, асабліва, калі ўлічыць, што для рэакліматызацыі былі ўзяты паўхатнія жывёлы, якія прывыклі да цесных заасадаўскіх дворыкаў.

У апошні час шмат пішуць пра падарожжы асобных зуброў. У 1965 годзе тры самцы 3—4-гадовага ўзросту аддаліліся ад пушчы на 10 кіламетраў у паўднёвым напрамку. Жылі там цэлы год. У 1967 годзе звяры зрабілі рэйд ужо на 30 кіламетраў, аблюбаваўшы невялікія лясныя ўчасткі, акружаныя сельскагаспадарчымі культурамі. Жывёлы не трымаліся абавязкова гуртам. Некаторыя пераадольвалі вялікія адлегласці, але праз дзён пяць зноў вярталіся на выбранае месца. У 1969 годзе адзін такі самец дайшоў да Брэста. Групу, у якой ён быў, восенню тройчы сустракалі непасрэдна ў пушчы, але неўзабаве яна зноў вярталася на выбранае месца. Неаднаразовыя спробы адагнаць жывёл назад у пушчу не далі станоўчых вынікаў.

У канцы лета 1968—1973 гадоў самцы, якім было больш як па тры гады, шмат разоў «уцякалі» на 70—180 кіламетраў у паўночным напрамку. Іх заўважалі ў Зельвенскім, Свіслацкім, Дзятлаўскім і Слонімскім раёнах.

Пры наступленні зімы вандроўнікі часцей за ўсё вярталіся «дахаты», але найбольш «упартыя» заставаліся зімаваць там, дзе былі сцірты саломы ці фермы.

У 1973—1975 гадах жывёлы заходзілі на тэрыторыю Брэсцкага, Івацэвіцкага, Бярозаўскага і Клецкага раёнаў.

Гэта сведчыць аб тым, што самцы схільны да міграцый. Абследаванні шляхоў пераходаў паказалі, што зубры ідуць вызначанымі маршрутамі па адных і тых жа ўрочышчах.

Што прымушае зуброў вандраваць? Дакладнага адказу мы не можам даць, а вось некалькі меркаванняў выкажам.

Зубры — палігамныя жывёлы. Жывуць статкамі, на чале якіх стаіць моцная і вопытная самка. Самец далучаецца да статка толькі ўвосень, у перыяд яру, пасля жорсткіх турнірных боек. Палавыя суадносіны ў вольнай групе 1 : 1. Няўдачнікі, слабыя сапернікі вымушаны пакінуць асноўны раён у пошуках новых статкаў, а іх, як вядома, няма. Але інстынкт (некалі такіх статкаў было многа!) не дае супакоіцца. Гэта, магчыма, адна з прычын міграцый.

Другая прычына, на наш погляд, у пагаршэнні кармавой базы пушчы, у прыватнасці, зніжэнні запасаў кармавых угоддзяў: відаць, замнога драўнінаедных капытных.

Названыя вышэй акалічнасці могуць мець вельмі важнае значэнне пры вырашэнні агульнай праблемы — далейшага павелічэння колькасці зуброў. Пры даследаванні шляхоў міграцый і месц жыхарства мы можам падрабязна вывучыць патрэбнасці жывёл, а, значыць, удакладніць магчымае перасяленне іх на новыя месцы.

Вучоныя прыйшлі да адзінай думкі: зубр — не вымíраючая жывёла, але яго агульная колькасць не настолькі вялікая, каб быць спакойнымі. Сусветнае пагалоўе налічвае каля 1500 асобін, 467 з іх жывуць на тэрыторыі СССР. Каб поўнасцю забяспечыць узнаўленне зуброў, неабходна, каб іх было не менш як 2000.

Таму ўсім нам належыць правесці яшчэ вялікую арганізацыйную і даследчую работу. Лясныя волаты павінны мець цвёрдую прапіску на зямлі, якую яны так упрыгожваюць.

**Л. КОРАЧКІНА,**
**кандыдат біялагічных навук**

# ГЛУШЦОЎ ТРЭБА АХОЎВАЦЬ



Фота М. Шарая

Глушэц-певень у шлюбны перыяд вельмі прыгожы, хоць мае цёмную афарбоўку пер'я. На шыі яго апярэнне чорнае і цёмна-шэрае са стракацінкамі і цёмна-зялёным бляскам на валлі, з белымі на брушку. На падбародку ў пеўня чорнае пер'е падоўжана і ўтварае так званую «бараду». У час токавання глушэц распускае крылы і хвост веерам.

Самка ў адрозненне ад пеўня мае рыжавата-бурае апярэнне з буйнымі чорнымі і белымі стракацінкамі, а на грудзях — рыжавата-светлую пляму.

Глушцы распаўсюджаны вельмі шырока і займаюць усю лесатаежную зону ад захаду да ўсходу. Паўсюдна яны распаўсюджаны і ў Беларусі.

Улюбёныя месцы жыцця глушцоў — сасоннікі, пераважна забалочаныя сасновыя бары, сфагнавыя балоты, багатыя на журавіны, чарніцы, брусніцы, буякі, маліну. У Белавежскай пушчы ўлюбёнымі месцамі токавання глушцоў з'яўляюцца сфагнавыя сасоннікі.

Глушцы кормяцца не толькі ягадамі. У асенні перыяд іх можна сустрэць на асінах, дзе яны здзюбваюць пасохлае асінавае лісце, а ў зімовы час пераходзяць на кармленне ігліцай. Глушцы, як і іншыя курыныя, дзюбаюць дробныя каменьчыкі, якія памагаюць ім перацірáць грубую ежу. Птушкі, якія не запасаюць у страўніку каменьчыкаў на зімовы перыяд, звычайна гінуць.

З канца сакавіка і да пачатку мая ў глушцоў шлюбны перыяд. У гэты час яны зляпаюцца на такавішчы. Тады і можна пачуць глушцовую песню «тэк! тэк! тэк! тэке! тэке!», якая пераходзіць у суцэльнае сіпенне. Пры выкананні апошняй часткі сваёй песні глушцы не чуюць.

Мне даводзілася чуць глушцовую песню і ў асенні перыяд, у верасні, пры ўліку аленяў у перыяд рову.

У красавіку самка пад кустом ядлоўцу або пад елачкай робіць гняздо, куды адкладвае 8—12 яек брудна-жаўтаватага колеру. Наседжвае прыкладна 24 суткі. Птушаняты глушцоў маюць свае асаблівасці. Абсохнуўшы, яны могуць бегаць, і напачатку кормяцца жывёльнай ежай, паядаючы насякомых, асабліва лічынкі і яйкі мурашак, якія дапамагае ім здабываць глушчыха.

Аднак у апошнія гады колькасць глушцоў паўсюдна падае. Адной з асноўных прычын гэтага з'яўляецца неразумнае ўмяшанне чалавека ў жыццё птушак. Нярэдка высякаюцца лясы, якія з'яўляюцца месцам токавання глушцоў, а значыць і месцам спарвання. Яшчэ бытуе памылковая думка, што, калі ссекчы дрэва, на якім такуе глушэц, дык ён пераляціць на іншае. Аднак высякаюцца не дрэвы, а цэлыя глушцовыя «такавішчы».

Так у Ясеньскім лясніцтве Белавежскай пушчы ў сумежных кварталах з лясгасам было размешчана глушцовае такавішча, куды зляталася каля 30 глушцоў (1960 г.). Але ў сувязі з механізаванымі работамі ў лясгасе, якія праводзіліся побач з такавішчам на працягу некалькіх гадоў, сюды пачало прылятаць не больш як тры-пяць птушак. Пасля заканчэння работ у лясгасе гэтае такавішча пачало ўзнаўляцца, і сёлета там было ўлічана 13 глушцоў.

Непамерны выпас жывёлы, збор ягад і грыбоў, сенакашэнне таксама адмоўна ўплываюць на колькасць глушцоў. Дастаткова сагнаць некалькі разоў глушцовы вывадак, як ён распадаецца, колькасць яго становіцца меншае ці гіне зусім.

У глушцоў даволі шмат ворагаў: ястрабы-цецеравятнікі, лісіцы, янотападобныя сабакі, куніцы, рысі, а таксама дзікі, якія разбураюць кладкі яек глушцоў. У снежную зіму 1970 г. быў выпадак, калі дзік злавіў і з'еў старога глушца.

Колькасць драпежнікаў, асабліва ў месцах токавання глушцоў, павінна рэгулявацца. У месцах жыцця гэтых птушак можна правесці нямала карысных мерапрыемстваў. У Белавежскай пушчы ўсякая дзейнасць чалавека ў месцах такавання глушцоў забаронена. А ў Ясеньскім лясніцтве дадаткова ўстаноўлены шыльды з надпісам: «Асабліва ахоўваемы ўчастак — глушцовае такавішча». Акрамя гэтага, там зроблены пырхалішчы і галечнікі, а летась пабудавана глушцовая кармушка.

На наш погляд, варта праводзіць догляд глушцовых такавішчаў там, дзе яны зарастаюць густым ельнікам і хмызамі. Глушцы, як правіла, выбіраюць для такавання больш адкрытыя мясціны.

У гаспадарках, дзе на глушцоў вядзецца паляванне, яно павінна быць забаронена на такавішчах, на якіх збіраецца не больш як 5 пеўняў. А на такавішчах, на якіх спявае больш як 5 глушцоў, норма адстрэлу не павінна перавышаць 20—25 працэнтаў.

Прытрымліваючыся ўсіх правіл аховы глушцоў, пры наяўнасці біятэхнічных мерапрыемстваў колькасць гэтых птушак у нашай рэспубліцы можна значна павялічыць.

**Ф. САЕВІЧ,**
**ляснічы Ясеньскага лясніцтва**



В. А. ВАКУЛА

шая недакладнасць уяўлення пра яе), сцяна пушчы, пасярэдзіне якой узвышаліся сцены будынкаў адміністрацыйнага комплексу.

Я не буду падрабязна апісваць гэты комплекс, а толькі скажу, што я абышоў яго некалькі разоў, уважліва чытаючы шыльды і вывучаючы усе хады і выхады. Самае большае ўражанне на мяне зрабіла самая простая (самаробная) шыльдачка: гасцініца на рамонце.

«Дрэнная прыкмета,— падумаў я,— напэўна, няма дырэктара».

Але дырэктар быў. Па шэпту, якім размаўлялі ў прыёмнай, я зразумеў, што дырэктар вельмі заняты.

Пасля абеду дырэктар запаведна-паляўнічай гаспадаркі «Белавежская пушча» Сцяпан Баляслававіч Качаноўскі быў менш заняты і, азнаёміўшыся з мэтай майго прыезду, схапіў тэлефонную трубку і набраў нумар: «Віктар Антонавіч? Прыязджай да мяне!»

# ПАЛЯЎНІЧЫ, ЯКОМУ НЕ ПАТРЭБНА СТРЭЛЬБА

У Белавежскую пушчу я ехаў спякотным ліпеньскім днём. Ехаў аўтобусам з Брэста і ехаў, прызнацца, упершыню. Упершыню не таму, што раней не выпала, як прынята апраўдвацца ў такіх выпадках, а зусім па іншай прычыне. Па-мойму, захацеў — і «выпадзе», тым больш, пры сучасным транспарце. Калі ўсё перагледзець і ўсюды пабыць адразу, дык нічога не застанецца на потым. А «потым» таксама ж захочацца нешта ўбачыць! Вось і атрымаецца, што ты, надта спяшаючыся пабачыць усё і спазнаць, сам сябе абакраў, нічога не пакінуўшы на будучае.

Са мной гэтага не здарылася. Прынамсі, да ліпеня 1975 года была ў мяне, так сказаць, у запасе Белавежская пушча.

Ці такой уяўлялася мне яна, як была ў сапраўднасці? Цяжка сказаць... Мусіць, не. Уяўленне пра яе склалася ў далёкія дзіцячыя гады, калі ў мяне была амаль казачная фантазія і я верыў у чарадзейныя казкі. Значыць, расчараванне? Не.

У Камянюкі (вялікія камяні) я прыехаў апоўдні. За Камянюкамі пачыналася цёмная, на самой справе зялёная (вось пер-

Назіральная вышка



Праз дзесяць-пятнаццаць хвілін прыехаў Віктар Антонавіч. Хутка ўвайшоўшы ў прыёмную, ён спытаў: «Хто шукае мяне? Вы?» Так пазнаёміўся я з галоўным паляўніцтвазнаўцам Белавежскай пушчы Віктарам Антонавічам Вакулам. І мы, не адкладаючы тое, што маглі зрабіць сёння, «прыступілі да работы». Тэма нашай гутаркі была такая: «Біятэхнічныя мерапрыемствы гаспадаркі на 1975/76 год».

Папярэджваю, будуць лічбы і немалыя — у межах соцень тысяч. І каб добра ўявіць, якую «матэрыяльную» дапамогу атрымліваюць ад чалавека дзікія жывёлы пушчы, пазнаёмімся з гэтымі лічбамі.

З 443 тысяч гектараў, якія займае Белавежская пушча, 87 тысяч гектараў знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі (36 361 га ў Гродзенскай вобласці і 51 082 га ў Брэсцкай), якія размеркаваны паміж 13 лясніцтвамі. Лясны масіў шырынёй ад 10 да 30 км цягнецца з поўначы на поўдзень амаль на 70 кіламетраў.

У Белавежскай пушчы, па ўліку на 1 студзеня мінулага года, прапісана больш як 2 тысячы высакародных аленяў, 1 400 дзікоў, 700 казуль, 73 ласі, 300 лісаў, 30 куніц, 12 ваўкоў, 34 рысі, 87 зуброў і шмат іншых лясных насельнікаў, не кажучы пра птушак.

Што ж (я маю на ўвазе не драпежнікаў, а карысных дзікіх жывёл) атрымліваюць яны на абед ад чалавека, апроч таго, што ім нарыхтавала маці-прырода?

225 гектараў тэрыторыі Белавежскай пушчы адведзена пад кармавыя паляны. Акрамя гэтага, каля 800 га займаюць палеткі бульбы, жыта, ячменю, аўса, салодкага лубіну, тапінамбуру (земляной грушы) і шматгадовых раслін.

На зіму 1975-76 г. нарыхтавана 500 тон сена, звыш 100 тон гранул з вітаміннай мукі, 4250 снапоў аўса, 183 тоны зерня, 121 тысяча венікаў з галінак тапінамбуру, 10 тон кукурузы, 130 — бульбы і 50 тон жолуду.

У гаспадарцы — звыш 70 падкормачных пунктаў, каля 200 кармушак для аленяў.

У першым-чацвёртым кварталах праводзіцца адстрэл драпежнікаў і шкодных жывёл. Норма адстрэлу — 3 010 заліковых

Саланец у пні



адзінак (сарока і варона — па 2 заліковыя адзінкі, ястраб-цецеравятнік — 10, воўк — 100, рысь — 500 адзінак і гэтак далей).

Першы мой дзень знаходжання ў Белавежскай пушчы закончыўся ўладкаваннем у гасцініцу (старую, што знаходзіцца ў Камянюках) і вечаровай прагулкай па беразе невялікай балотнай рачулкі, якая там працякае.

На другі дзень Віктар Антонавіч заехаў па мяне і мы накіраваліся ў пушчу. Ён вазіў мяне па асфальтавых дарожках (асфальтавыя дарожкі ў пушчы? Нават мая дзіцячая фантазія не прадбачыла гэта), паказваў і расказваў, а я распытваў і слухаў. І чым больш мы размаўлялі, тым лепш разумелі адзін аднаго, а чым лепш разумелі адзін аднаго, тым больш хацелася размаўляць. І так непрыкметна расказалі адзін аднаму пра сябе. Праўда, тое, што я расказваў, не ўяўляе такой цікавасці, як расказ Віктара Антонавіча. Ён нарадзіўся і вырас у пушчы і бачыў сваімі вачыма ўсё, пра што я нават не марыў. Вучыўся і то ў Белавежскай школе, у вёсцы Хвойнік. Апроч агульнаадукацыйнай школы, скончыў шасцімесячныя курсы ляснічых у Барысаве (1951), Полацкі тэхнікум (1965) і нарэшце Мінскі тэхналагічны інстытут імя С. М. Кірава. Працаваў у Каралева-Мастоўскім лясніцтве памочнікам лясніччага, а потым — лясніччым у Ясеньскім і Пераровўскім лясніцтвах. З 1965 года Віктар Антонавіч Вакула — галоўны паляўніцтвазнаўца Белавежскай пушчы.

«Паважаю людзей, якія любяць прыроду,— прызнаўся Віктар Антонавіч.— Весялей робіцца на душы, калі сустракаеш аднадумцаў, чулых, бескарыслівых людзей, шчыра зацікаўленых у захаванні прыгажосці і багацця нашай прыроды».

Віктар Антонавіч паказаў мне паляну, своеасаблівую пушчанскую цэнтральную плошчу, на якой працаўнікі Белавежскай пушчы адзначаюць свае свята — Дзень работнікаў лесу — са спаборніцтвамі, гульнямі, мастацкай самадзейнасцю і вясёлым застоллем. Мы пабылі на адным з падкормачных пунктаў, пасядзелі на вышцы, з якой вядуцца назіранні за насельнікамі пушчы. Мы наведалі зубрагадавальнік, пастаялі каля паветкі з дзікімі коньмі, якіх называюць тарпанамі,—непасрэднымі продкамі нашых коней, палюбаваліся дубамі, пра якія (я маю на ўвазе не менавіта гэтыя дубы, а падобныя на іх воласты, што пражылі на свеце па чатырыста-пяцьсот гадоў) народны паэт Беларусі Якуб Колас пісаў: «...зірнеш уверх — шапка валіцца».

Асаблівa ўразіла возера (плошча 360 га), у якім разам з гарлачыкамі плаваюць... пні. Выбіраючы грунт, іх пакінулі для таго, каб вадаплаўныя птушкі, якія засяляць яго, мелі дзе гнездзіцца і хавацца.

— Мусіць, няма такога паляўнічага,— заўважыў я,— у якога не загарэліся б вочы і не задрыжэлі б рукі, калі ён убачыць гэтае возера.

— Возера — запаведнае. Каб не трывожыць птушак, рыбу і то адлоўлівае адзін чалавек. А той, хто атрымлівае задавальненне ад пальбы па жывых мішэнях,— не паляўнічы. Сапраўдны паляўнічы павінен любіць жывую прыроду, а страляць толькі па неабходнасці.

Хто гэтага не разумее! Інача і быць не павінна... Прапісная ісціна. Аднак...

Але паслухаем Віктара Антонавіча:

— Я таксама паляўнічы, але стрэльба мне не патрэбна. Я ніколі яе не нашу з сабой. Каб стаць паляўнічым...

— Трэба атрымаць паляўнічы білет і купіць стрэльбу,— падказваю я.— Такім чынам у шэрагі паляўнічых трапляе нямала браканьераў. Ахвотнікаў шмат, а гэтыя шэрагі і так занадта доўгія. Што рабіць?

Мы згаджаемся, што патрэбны новыя правілы прыёму ў таварыства паляўнічых і рыбаловаў і, па-другое, адразу ж выключаць з таварыства кожнага, хто будзе абвінавачаны ў парушэнні правіл палявання.

Так паступова мы наблізіліся да пытання, якое хвалюе не толькі паляўнічых: ці трэба было адкрываць вясновае паляванне? Віктар Антонавіч сказаў:

— Я — супраць! Яго абавязкова трэба закрыць, прызнаўшы, што эксперымент быў няўдалы. На жаль, не ўсе, ад каго гэта залежыць, прытрымліваюцца такой думкі.

Да размовы аб мэтазгоднасці вясновага палявання я быў гатовы і не раз чуў спрэчкі і прыхільнікаў гэтага эксперыменту і іх праціўнікаў. Навука не адмаўляе магчымасць такога палявання перад гнездавым перыядам птушак (на вельмі кароткі тэрмін). Але ўся цяжкасць у тым, як ажыццявіць яго на патрэбным узроўні. Колькі было выпадкаў, пра якія паведамлялася нават у друку, што дні адкрыцця паляўнічага сезонаператвараліся ў дні знішчэння ўсяго жывога. Якая пасля гэтага можа быць гаворка пра адкрыццё вясновага палявання пры такой культуры і арганізацыі гэтых мерапрыемстваў? І, галоўнае, чым выклікана такая неабходнасць? Аказваецца, жаданнем культурных паляўнічых атрымаць эстэтычную асалоду. А куды ж на гэты час падзець некультурных паляўнічых і звычайных браканьераў, якія маюць паляўнічыя білеты і стрэльбы?

Мне здаецца (і Віктар Антонавіч цалкам падтрымаў мяне), што такую ж, калі не большую, асалоду можна атрымаць, палюючы з фотаапаратам. Навошта абавязкова забіваць? Каб у халадзільніку ляжала свежае мяса?

Я падумаў, як добра, што такую адказную пасаду ў запаведна-паляўнічай гаспадарцы «Белавежская пушча» займае менавіта Віктар Антонавіч Вакула — сумленны чалавек і сапраўдны паляўнічы.

*Я. МІКЛАШЭЎСКІ,*
**спецыяльны карэспандэнт «Роднай прыроды»**

Кармушка



## АДЗІНЫ ПАРАДАК НАБЫЦЦЯ, УЛІКУ І ЗАХОЎВАННЯ ПАЛЯЎНІЧЫХ РУЖЖАЎ

Савет Міністраў СССР разгледзеў пытанне аб увядзенні на тэрыторыі краіны адзінага парадку набыцця, уліку і захоўвання паляўнічых ружжаў і прыняў па гэтаму пытанню адпаведную пастанову.

Устаноўлена, што продаж гладкаствольных і наразных паляўнічых ружжаў грамадзянам, а таксама прадпрыемствам, арганізацыям і ўстановам праводзіцца па дазволу органаў унутраных спраў, пры гэтым грамадзянам паляўнічыя ружжы могуць быць прададзены толькі пры прад'яўленні паляўнічага білета.

Паляўнічыя ружжы належаць рэгістрацыі ў органах унутраных спраў не пазней месяца пасля іх набыцця. Перарэгістрацыя такіх ружжаў ажыццяўляецца органамі ўнутраных спраў раз у тры гады.

Усе паляўнічыя ружжы, набытыя (незалежна ад крыніц набыцця) да прыняцця ўказанай пастановы, павінны быць зарэгістраваны ў органах унутраных спраў да 1 студзеня 1977 года.

Міністэрству ўнутраных спраў СССР даручана зацвердзіць у 3-месячны тэрмін інструкцыю аб парадку набыцця, уліку, захоўвання і выкарыстання паляўнічых ружжаў і боепрыпасаў.

Кантроль за набыццём, захоўваннем, выкарыстаннем і рэгістрацыяй (перарэгістрацыяй) паляўнічых ружжаў, а таксама выдача дазволу на іх набыццё і захоўванне ўскладзены на Міністэрства ўнутраных спраў СССР і яго органы на месцах.

Саветам Міністраў саюзных рэспублік прапанавана па ўзгадненню з МУС СССР разгледзець і ва ўстаноўленым парадку вырашыць пытанне аб адказнасці за парушэнні правіл набыцця, захоўвання, выкарыстання і рэгістрацыі (перарэгістрацыі) паляўнічых ружжаў.

3 Зак. 808



А АПОШНІЯ гады паляўнічая гаспадарка вобласці дасягнула значных поспехаў: палепшылася ахова ўгоддзяў, выраслі памеры біятэхнічных мерапрыемстваў, якія садзейнічаюць паспяховаму ўзнаўленню фауны, павялічыўся выхад прадукцыі паляўнічай гаспадаркі з адзінкі плошчы.

Сёння нікога не трэба пераконваць у неабходнасці падкормкі дзікіх звяроў зімою. Гутарка ідзе аб якасці гэтай падкормкі. Працаўнікоў паляўнічай гаспадаркі хвалюе не толькі выкананне планаў адстрэлу, але і пытанне, калі і як правесці здабычу часткі пагалоўя дзікіх жывёл без шкоды для папуляцыі.

Праведзены ўлік звяроў сведчыць, што на тэрыторыі вобласці налічваецца каля 7 тысяч ласёў, 7,5 тысячы дзікоў, 4 тысячы баброў, 1,5 тысячы казуль. У мінулым сезоне паляўнічыя здабылі 689 ласёў, 1232 дзікі. Дзяржаве здадзена 1357 цэнтнераў мяса дзічыны, прычым 76 працэнтаў пайшло на экспарт.

Аднак у вядзенні паляўнічай гаспадаркі ёсць яшчэ нямала задач, над вырашэннем якіх трэба шмат і настойліва працаваць. Найбольшым злом застаецца браканьерства. За 1974 год у вобласці выяўлена 165 выпадкаў парушэнняў «Палажэння аб паляўнічай гаспадарцы Беларускай ССР». Найбольш настойліва барацьбу з браканьерамі вядуць работнікі лясной гаспадаркі. Яны выявілі 102 выпадкі парушэнняў правіл палявання. Работнікі лясной аховы прымяняюць калектыўныя метады барацьбы, выязджаючы на ахову ўгоддзяў рэйдавымі брыгадамі.

А між тым, браканьеры наносяць велізарную шкоду паляўнічай фауне. Работнікі паляўнічай гаспадаркі падлічылі, што гэтыя «драпежнікі» кожны год губяць на тэрыторыі рэспублікі не менш як 300 ласёў і значна больш дзікоў. Па іх віне значная доля пушніны трапляе ў рукі спекулянтаў.

У мінулым сезоне паляўнічыя здабылі і здалі дзяржаве пушніны на 64 тысячы рублёў, што на 8 тысяч рублёў больш, чым у 1973 годзе. Аднак гэты рост дасягнут за кошт продажу шкурак кратоў і вавёрак. Па астатніх жа найбольш каштоўных відах нарыхтоўкі працягвалі зніжацца і склалі толькі 278 шкурак куніцы, 321 — лісіцы, 66 — норак, 16 — выдры і 22 — андатры. Органы міліцыі, работнікі лясгасаў і таварыства паляўнічых і рыбаловаў аслабілі кантроль за рынкамі, дзе спекулянты гандлююць нават шкуркамі баброў.

Таму паляўнічая грамадскасць з задавальненнем сустрэла прыняцце ў снежні 1974 года Прэзідыумам Вярхоўнага Савета БССР указа, які павышае адказнасць за парушэнне правіл палявання, ухіленне ад абавязковай здачы дзяржаве пушніны, яе незаконны продаж, скупку і перапрацоўку.

Важнейшай задачай мінулага сезона было выкананне плана адстрэлу дзікіх капытных і здача мяса дзяржаве. Адстрэл праходзіў у нялёгкіх умовах надвор'я. З-за адсутнасці нарэзной зброі і прымянення гладкаствольных ружжаў, паляванне з якімі на капытных у шэрагу краін даўно забаронена, адстрэл характарызаваўся нізкай прадуктыўнасцю і суправаджаўся вялікай колькасцю падранкаў. Шмат цяжкасцей узнікла пры здачы здабытых звяроў з-за дрэннай арганізацыі прыёму туш на камбінатах.

Аднак галоўная прычына марудных тэмпаў або нават невыканання плана некаторымі райсаветамі таварыства паляўнічых і рыбаловаў крыецца ў няўмелай арганізацыі промыслу, а іменна ў дапушчэнні да палявання непамерна вялікай колькасці маласілікіх брыгад (у сярэднім менш як 10 чалавек). Кантроль за дзейнасцю такіх брыгад больш цяжкі, а самі брыгады, атрымаўшы 1—2 ліцэнзіі на ўвесь сезон, не зацікаўлены ў своечасовай здачы здабытых звяроў, пакольк і закрыўшы ліцэнзію, яны пазбаўляюцца права на далейшае паляванне.

Сярэдняя вага ласёў, здабытых у 1974 годзе, склала ўсяго 152 кілаграмы. Гэта сведчыць аб перавазе ў статках маладых асобін ва ўзросце 2—3 гадоў. На працягу шэрагу гадоў паляўнічыя імкнуліся адстрэльваць найбольш буйных жывёлін, забіраючы тым самым найбольш каштоўную частку статка. Навуцы ж вядома, што такая ўзроставая структура пагалоўя, пры якой пераважаюць маладыя звяры, неспрыяльная для іх узнаўлення, бо найбольш пладавітымі аказваюцца дарослыя ласіхі ва ўзросце 4—8 гадоў. Яны часцей прыносяць па двое цялят. Да таго ж найбольш моцнае патомства атрымліваецца ад дарослых быкоў.

Мінула чатыры гады з таго часу, як была ўведзена аплата працы паляўнічых, якая не залежыць ад вагі здабытых дзікіх звяроў. Аднак у шэрагу раёнаў вобласці вага здабытых ласёў значна перавышае сярэднеабласны паказчык. Гэта значыць, што адстрэл найбольш буйных асобін працягваецца. А значыць, працягваецца непажаданая селекцыя. Гэтую памылку неабходна папраўляць і імкнуцца да больш раўнамернага адстрэлу ўсіх узроставых груп звяроў, у тым ліку і маладых.

Паляўнічую грамадскасць трывожыць нарастанне колькасці ваўкоў у паляўнічых угоддзях. У 1970 годзе ў вобласці было здабыта 32 ваўкі, у 1971 — 61, у 1972 — 82, у 1973 — 119, а ў 1974 — 152. Улічваючы, што знішчаецца ў асноўным кожны трэці драпежнік, мінулай зімой ва ўгоддзях вобласці засталося звыш 300 ваўкоў. За лета іх колькасць павялічылася ўдвая. Якія ж «выдаткі» нясе паляўнічая гаспадарка, каб пракарміць такую колькасць драпежнікаў. Таму абавязак паляўнічых — прыкласці ўсе намаганні, каб прыкметна паменшыць колькасць ваўкоў у нашых угоддзях.

Ва ўмовах інтэнсіфікацыі паляўнічай гаспадаркі ўзрастаюць патрабаванні да культуры паляўнічага. І паляпшэнне выхаваўчай работы, на наш погляд, з'яўляецца галоўнай задачай райсаветаў таварыства паляўнічых і рыбаловаў на бліжэйшую будучыню.

Культурны паляўнічы сам не дапусціць парушэння правіл палявання і не дазволіць гэтага іншаму. Ён не адмовіцца ад удзелу ў рабоце пярвічнага калектыву па правядзенню біятэхнічных мерапрыемстваў. А на колькі багацей сталі б нашы ўгоддзі, калі б кожны член таварыства аддаў належную долю сваёй працы для іх добраўпарадкавання! Культурны паляўнічы не будзе страляць на адлегласці «пакуль бачу», не выйдзе ў поле з беспародным сабакам, бо паляўнічая этыка для яго — непарушны закон.

У вобласці налічваецца 14 тысяч паляўнічых. Зыходзячы з рэкамендуемага разліку, каб на аднаго паляўнічага прыпала 250 гектараў угоддзяў, нам належыць скараціць лік членаў таварыства амаль на тысячу чалавек. Гэта павысіць патрабаванні да маральнага аблічча паляўнічага. Пакуль жа не ўсе райсаветы таварыства дастаткова прынцыповыя ў гэтым пытанні. У 1974 годзе сярод 165 браканьераў было 112 членаў таварыства паляўнічых і рыбаловаў. А выключана з таварыства ўсяго 44. І гэта ва ўмовах, калі амаль 700 чалавек з'яўляюцца кандыдатамі ў члены таварыства. І многія чакаюць прыёму па некалькі гадоў. Таварыству трэба больш рашуча вызваляцца ад тых, хто не ўдзельнічае ў правядзенні біятэхнічных і паляўнічагаспадарчых мерапрыемстваў.

З кожным годам усё больш паляўнічых выходзяць на паляванне калектыўна. Аднак культура правядзення такіх паляванняў застаецца ў зародкавым стане: адсутнічае жараб'ёўка пры расстаноўцы на нумары — рытуал, які ўпрыгожвае паляванне. Не наладжваецца ганаровае абвяшчэнне лепшага стралка. Паляўнічыя не ведаюць самых простых сігналаў паляўнічага ражка. У выніку грэбавання элементарнымі правіламі тэхнікі бяспекі пры стральбе па няясна бачнай цэлі, зыходу з нумара да заканчэння палявання, язды на транспарце з неразраджанай зброяй адбываюцца няшчасныя выпадкі.

Уздыму культуры і этыкі ў паляўнічых калектывах, відавочна, садзейнічала б адпаведная форма вопраткі гэтых людзей, аб якой варта было б падумаць кіраўніцтву Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў. Такая форма дазваляла б з'едразу пазнаць паляўнічага ва ўгоддзях, што дапамагала б змагацца з такім злом, як браканьерства. Простая ў карыстанні, удала пашытая, такая вопратка, напэўна, не залежвалася б на прылаўках магазінаў. Думаецца, што ўвядзенне такой формы падтрымае значная большасць паляўнічых рэспублікі.

# РОЗДУМ ПАСЛЯ



Фота У. Грыбава

Важнай састаўной часткай культуры палявання з'яўляецца трафейная справа, узровень якой належыць рэзка падняць. У нас пакуль што абыякавыя адносіны да паляўнічых трафеяў: рассякаюцца ласіныя рогі, якія маглі б стаць дзяржаўным здабыткам і экспанавацца на міжнародных выстаўках, выломліваюцца іклы дзікоў, якія маглі б упрыгожыць любы дом паляўнічага. Ад здабытых у 1974 годзе рысяў толькі адзін чэрап захаван і зарэгістраван у якасці трафея.

Паляўнічых турбуе скарачэнне колькасці дробнай дзічыны: зайцоў, цецерукоў, шэрых курапатак, вадаплаўных птушак, якія з'яўляюцца найбольш масавымі аб'ектамі палявання. Вельмі марудна расце колькасць казуль. Многія звязваюць гэтую з'яву з інтэнсіфікацыяй гаспадарчай дзейнасці чалавека, якая вядзе да скарачэння месц харчавання гэтых звяроў. Павышаны паморак дзічыны наглядаецца ў выніку хімізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці. Усё гэта так. Але прыклады нашых суседзяў, краін сацыялізму, сведчаць, што і ў сучасных умовах можна дасягнуць высокай шчыльнасці многіх відаў дзічыны. Рост пагалоўя дзічыны будзе залежаць ад увагі да патрэб паляўнічай гаспадаркі з боку асноўных землекарыстальнікаў — калгасаў, саўгасаў. Сельскагаспадарчыя і лесакультурныя работы павінны весціся з найменшай шкодай для паляўнічай фауны, з улікам інтарэсаў паляўнічай гаспадаркі. Павінна стаць правілам забарона выпасу дамашняй жывёлы ў лесе, строгі кантроль за захаваннем і выкарыстаннем хімічных прэпаратаў. Аднак галоўнае ўсё ж будзе заключацца ў тым, ці стане сам паляўнічы клапатлівым гаспадаром, ці будзе ахоўваць паляўнічую фауну, ці пойдзе на стрэл, які прагучаў у дзень, калі забаронена паляванне, ці аддасць свой выхадны будаўніцтву кармасховішча, падкормачнай пляцоўкі, ці зразумее, што будучае паляўнічай гаспадаркі знаходзіцца ў яго руках.

Такіх людзей, беззапаветна адданых сваёй справе, прынцыповых у ахове інтэрэсаў паляўнічай гаспадаркі на Віцебшчыне нямала. Гэта паляўніцтвазнаўца Бабінавіцкай паляўнічай гаспадаркі А. Я. Бруеў, галоўны ляснічы Браслаўскага лясгаса П. Е. Сітнікаў, старшы дзяржінспектар па ахове прыроды Полацкага раёна А. І. Мядзведзеў, старшыня Летчанскага пярвічнага калектыву паляўнічых і рыбаловаў Е. А. Аляшкоўскі, вядомы ўсім віцебскім сабакаводам эксперт-кінолаг Л. М. Асташэвіч і многія іншыя. Іх праца з'яўляецца яскравым прыкладам служэння справе — узбагачэнню прыроды.

Для работы ў паляўнічай гаспадарцы патрэбны энтузіясты, бо тут не заўсёды вынікі працы кідаюцца ў вочы, не адразу вяртаюцца выдаткі, нялёгка пераадольваюцца бар'еры неразумення важнасці работы спецыяліста паляўнічай гаспадаркі. Але ж значэнне палявання як формы ўзаемаадносін з прыродай і рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў з году ў год расце.

**У. МУРАВІЦКІ,**

**старшы інжынер-паляўніцтвазнаўца ўпраўлення лясной гаспадаркі Віцебскага аблвыканкома**

# СЕЗОНА

# ПАЛЯВАННЕ З НОРНЫМІ САБАКАМІ

**Паляванне на пушнога звера, асабліва на лісіц чырвоных і янотаў, пры дапамозе норных сабак — здабычлівае і захапляючае. Аднак у нашай рэспубліцы яно пакуль не атрымала шырокага распаўсюджання.**

**З усіх парод гэтых сабак у Беларусі, і асабліва ў паляўнічых Мінска, найбольш распаўсюджаны жорсткапоўсцевыя і гладкапоўсцевыя фокстэр'еры. Радзіма фокстэр'ераў — Англія. У нашых жа кліматычных умовах яны добра прыжыліся і лёгка пераносяць летнюю спякоту і зімовы холад. Іх можна ўтрымліваць у дварах і ў кватэры. Яны вельмі злыя да звера і абыходлівыя з людзьмі, верныя свайму гаспадару, добра паддаюцца агульнай і спецыяльнай дрэсіроўцы, вынослівыя ў паходах.**

**На паляванні фокстэр'еры прымяняюцца часцей за ўсё на звяроў, якія хаваюцца ў норах, — лісіц, янотаў, тхароў, выдру. Фокстэр'ер адносіцца да вузкаспецыялізаваных сабак, але пры добрай дрэсіроўцы становіцца універсальным — добра ідзе за вадаплаўнымі і баравымі птушкамі, смела праследуе дзіка. Фокстэр'ер хутка знаходзіць зайца і з галасам імкнецца яго дагнаць, хутка адшуквае падранка, ідзе, не збіваючыся, па следу.**

**У паляўнічых Беларусі налічваецца 137 фокстэр'ераў. Палавіна іх знаходзіцца на ўліку ў Мінскім гарадскім савеце паляўнічых і рыбаловаў. Разумнае выкарыстанне гэтых сабак павінна кожны год прыносіць вялікую карысць нашым паляўнічым.**

**Зрабіць такі вывад дае падставу той факт, што ў паляўнічых угоддзях Беларусі налічваецца звыш сарака тысяч чырвоных лісіц, футра якіх уяўляе немалую каштоўнасць. Заўважым, што пры вялікай шчыльнасці папуляцыі, лісіцы наносяць адчувальную шкоду паляўнічай фауне. Тое ж трэба сказаць і пра янотаў. Гэтыя звяркі знішчаюць даволі часта зайцоў і маладняк птушак, якія гнездзяцца на зямлі. Таму абавязак кожнага паляўнічага здабываць іх. Аднак асабліва гэтым павінны займацца тыя, хто мае фокстэр'ераў.**

**Паляванне з фокстэр'ерам на лісіцу або янота амаль заўсёды дае добры вынік. Вядома, пры ўмове, калі яно правільна арганізавана. Неабходна толькі раней ведаць месцы размяшчэння нораў. А ў гэтым вам заўсёды дапамогуць пастухі, леснікі, мясцовае насельніцтва.**

**Фокстэр'ер смела залазіць у нару, душыць звера і выцягвае яго адтуль.**

**Кожнага паляўнічага сабаку неабходна рыхтаваць да палявання, сістэматычна трэніраваць, даваць магчымасць сустракацца са зверам.**

**У паляўнічай гаспадарцы Мінскага гарадскога савета Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў непадалёк ад вёскі Угляны ёсць штучная лісіная нара. Для прытраўлівання і выпрабавання норных сабак у спецыяльных вальерах утрымліваюцца тры лісіцы і янот. Якіх даглядае егер М. П. Жабчыц.**

**У выхадныя дні, звычайна, тут праводзіцца прытраўліванне маладых сабак і праверка іх умення адшукваць падсадных звяроў. Работу сабак ацэньвае спецыяльная экспертная камісія. Мінскі гарадскі савет БТПР запрашае ўсіх аматараў, якія маюць фокстэр'ераў, прытравіць сабак і выпрабаваць іх на адшукванні звяроў.**

**С. КРЖАЧКОЎСКІ,**

**эксперт-кінолаг**

# ЛАНДШАФТ І АБЛІЧЧА ВЁСКІ

**А. ГОЛУБЕЎ, М. БЯСПАЛЫ,**
**старшыя інжынеры-эканамісты**

Вывучэнне ўплыву ландшафтаў на рассяленне вёсак намі праводзілася ў Віцебскай вобласці. Гэтая вобласць адрозніваецца частай зменай глеб па механічнаму складу, ступені ападзолення і забалочанасці. Характэрнай асаблівасцю зямель з'яўляецца зрэзанасць, некампактнасць размяшчэння і дробная контурнасць ворыва і іншых угоддзяў. Сярэдні памер ворнага контуру складае каля 4 гектараў.

Такія прыродныя ўмовы вызначылі памеры землекарыстання гаспадарак, а таксама населеных пунктаў, аказаўшы прамое ўздзеянне на характар сельскага рассялення. Вынікам гэтага ўплыву на Віцебшчыне з'яўляецца дробнавясковая сістэма. З-за шматлікасці пунктаў пад імі занята значная частка тэрыторыі вобласці. І як вынік — нізкая шчыльнасць забудовы — 2—3 аднакватэрныя дамы на гектар плошчы.

Вывучэнне матэрыялаў планіроўкі і забудовы пасёлкаў дазволіла вызначыць тры спосабы размяшчэння перспектыўнага будаўніцтва: у межах існуючага населенага пункта, на свабоднай ад забудовы тэрыторыі і камбінаваны. Першы спосаб можа быць прыменены ў буйных населеных пасёлках прамавугольна-квартальнай, радыяльна-кругавой ці змешанай планіроўкі. Другі — калі населены пункт выносіцца на новае месца. Трэці — у населеных пунктах з лінейна-выцягнутай формай тэрыторыі, калі ў мэтах кампактнага размяшчэння перспектыўнага будаўніцтва ўчастак для яго выбіраецца часткова ў межах існуючага пасёлка, а часткова на прылеглай да яго свабоднай тэрыторыі.

Мэтазгоднасць прымянення першага і трэцяга спосабаў размяшчэння будынкаў заключаецца ў тым, што, па-першае, скарачаецца адвод зямлі для новага будаўніцтва, і, па-другое, ствараецца магчымасць уключыць наяўныя капітальныя будынкі ў склад забудовы населенага пункта.

У цеснай сувязі з размяшчэннем населеных пунктаў знаходзіцца размяшчэнне вытворчых цэнтраў, у склад якіх уваходзяць жывёлагадоўчыя фермы, рамонтна-механічныя майстэрні, складскія памяшканні і іншыя збудаванні. Натурныя абследаванні паказалі, што значная большасць ферм, складскіх памяшканняў, брыгадных і рамонтных двароў размяшчаецца ў непасрэднай блізкасці да населеных пунктаў ці ў жылой зоне.

Пры распрацоўцы схем і праектаў забудовы пасёлкаў вытворчыя цэнтры павінны мець неабходны санітарны разрыў ад жылой тэрыторыі, бо ахова вёсак ад адходаў з'яўляецца адным з абавязковых санітарна-гігіенічных патрабаванняў. Пры гэтым буйныя спецыялізаваныя комплексы павінны выносіцца на значныя адлегласці ад пасёлкаў. Напрыклад, санітарна-ахоўная зона паміж свінаводчым комплексам на 24 тысячы галоў і населеным пунктам павінна быць не менш як 1,5 кіламетра. Свабодная ж тэрыторыя зоны можа быць выкарыстана пад драўнінна-кустоўнікавыя насаджэнні, сады і агароды.

Вядома, што планіроўка населенага пункта пачынаецца з яго архітэктурнай задумы, асэнсавання ўзаемасувязі з ландшафтам. Удала знойдзеная ўзаемасувязь адкрытай прасторы і архітэктурных форм абумоўлівае цэласнасць аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі пасёлка. Напрыклад, лясны масіў і маляўнічыя берагі Заходняй Дзвіны прадвызначылі размяшчэнне цэнтральнай сядзібы калгаса «Новыя Гараны» Полацкага раёна. Кампазіцыя пасёлка — грамадскі цэнтр, які аб'ядноўвае тры вуліцы: галоўную — уезд у пасёлак, вуліцу-бульвар, якая злучае цэнтр з ракой, і вуліцу ўздоўж лесу.

У аснову распрацоўкі праекта планіроўкі цэнтральнай сядзібы саўгаса «Банонь» пакладзена ідэя раскрыцця пасёлка на возера, якое з'явілася асноўным кампазіцыйным элементам. Вакол возера размешчана жылая забудова з грамадскім цэнтрам. У пасёлку ўсяго дзве вуліцы. Адна з іх з'яўляецца працягам гарпасялковай вуліцы і вырашана прамалінейна, другая — паўтарае абрысы рэльефу і канфігурацыю возера.

Аднак у шэрагу выпадкаў пры праектаванні не ўлічваюцца ў поўнай меры прыродныя ландшафты. Не лепшым чынам спраектаваў «Віцебскграмадзянпраект» цэнтр пасёлка Заронава Віцебскага раёна. Тут аб'екты грамадскага прызначэння размешчаны ўздоўж транспартнай магістралі Віцебск—Полацк і не маюць неабходнай узаемасувязі з маляўнічым возерам, якое знаходзіцца непадалёк.

Пры планіроўцы сельскіх населеных пунктаў паўстае пытанне рацыянальнага выкарыстання зямлі.

Так, згодна з праектам планіроўкі, які распрацаван «БелНДІГіпрасельбудам» для Шумілінскага раёна, плошча пад існуючымі пунктамі і вытворчымі цэнтрамі складае 3 тысячы гектараў. А ў перспектыве будзе занята толькі 1,8 тысячы гектараў. Скарачэнне плошчаў адбудзецца за кошт памяншэння колькасці населеных пунктаў, больш кампактнага іх размяшчэння і павелічэння колькасці паверхаў жылых пабудоў. У выніку ў сельскагаспадарчы абарот будзе ўцягнута ў раёне 1,2 тысячы гектараў.

Праект планіроўкі цэнтральнай сядзібы саўгаса «Новыя Вайханы» Гарадоцкага раёна, распрацаваны «БелНДІГіпрасельбудам», адводзіць для жылой і вытворчай зоны 36 гектараў зямлі. Цяпер плошча пад населенымі пунктамі і вытворчымі цэнтрамі складае 78 гектараў.

Такім чынам, прымаючы пэўнае архітэктурна-планіровачнае рашэнне, неабходна ўлічваць канкрэтную праектную сітуацыю, маляўнічасць прыродных ландшафтаў. Толькі тады праектаванне сельскіх населеных пунктаў дасць магчымасць захаваць прыроднае асяроддзе і выкарыстаць мясцовасць з найбольшым эфектам.

## СРОДАК АХОВЫ—СРОДАК ЗНІШЧЭННЯ

Для захавання ядахімікатаў у гаспадарках Пружанскага раёна ёсць 35 спецыяльна пабудаваных і прыстасаваных складаў. Планам прадугледжана да канца года ўзвесці яшчэ два — у калгасе імя Калініна і на эксперыментальнай базе «Пружаны». Гэтым самым будзе паўсюдна закончана ўпарадкаванне памяшканняў для захоўвання ядахімікатаў.

На жаль, у пяці гаспадарках з-за нязначных недаробак санітарная служба раёна не можа выдаць пашпарты на дазвол эксплуатаваць склады для ядахімікатаў. Так, у саўгасе «Ліноўскі» ўзвезден добры мураваны склад, але ён не агароджаны, сюды маюць доступ людзі, жывёла.

У мінулым годзе на пабудаванай базе Сонечнага аддзялення «Сельгастэхнікі» была абсталявана спецыяльная эстакада для мыцця аўтамашын, на якіх перавозяць ядахімікаты. А тэхніку, якая прымяняецца пры работах з ядамі, мыюць дзе папала. Так, 4 верасня ў вёсцы Слабудка тры трактарысты спрабавалі мыць свае машыны ў вадаёме пясчанага кар'ера, дзе можна бачыць з вудамі дзяцей. Такое ж становішча з мыццём тэхнікі і ў астатніх гаспадарках.

Абясшкоджванне ад ядаў спецадзення і спецабутку, а таксама мыццё іх нідзе не наладжаны. Пажадана было б мець у раёне хаця б адну пральню для гэтай мэты. Яе можна было б арганізаваць на базе райаб'яднання.

Вядома, што на тары застаюцца рэшткі яду. Таму да яе павінен быць закрыт доступ людзей, жывёлы. Але яшчэ здараюцца выпадкі абыякавых адносін да захавання тары ад ядаў. Так, на птушкафабрыцы памяшканне з тарай не замыкаецца. У калгасе «Іскра» тара з кардону валяецца ля склада.

Вызваленую ад ядаў металічную тару належыць вярнуць пастаўшчыку праз базу райаб'яднання. Але як там не прымаюць. У выніку ў калгасе «Іскра» накапілася 18 пустых бочак. Такое становішча і ў многіх іншых гаспадарках раёна.

Трывожыць і тое, што па-ранейшаму ў гаспадарках абыякава адносяцца да вывешвання на складах знакаў, надпісаў, шыльдачак. Такія надпісы ўсе гаспадаркі — карыстальнікі ядахімікатаў атрымліваюць ад упраўлення сельскай гаспадаркі райвыканкома, санітарна-эпідэміялагічнай станцыі, станцыі па ахове раслін. На жаль, вельмі рэдка бачыш на складзе надпіс «Склад ядахімікатаў» і вядомы знак аб пагрозе небяспекі.

У выніку нядбайнага і няправільнага прымянення ядахімікатаў ёсць выпадкі знішчэння не толькі шкодных, але і карысных насякомых і раслін. Леташняй вясной пры апрацоўцы раслін ядахімікатамі ў калгасе імя Чапаева загінула больш як 50 пчаласем'яў, а ў саўгасе «Светлы шлях» пашкоджана лесаахоўная паласа трохгадовага ўзросту.

Буйнейшае адкрыццё сучаснасці — ядахімікаты пры дрэнна прадуманым захоўванні і ўжыванні могуць ператварыцца ў сур'ёзную пагрозу ўрадлівасці зямлі і існаванню жывых арганізмаў.

**М. ГЛУШЧАНКА,**
**старшы інспектар Дзяржкамітэта СМ БССР па ахове прыроды па Пружанскаму раёну**



# АХОВА ЛЕСУ АД ШКОДНІКАЎ

Узрастаючая водаахоўная, глебаахоўная і санітарна-гігіенічная роля лесу, патрэбы народнай гаспадаркі ў драўніне ставяць перад лесаводамі шматгранныя задачы па ахове лясоў ад шкоднікаў і хвароб, якія наносяць вялікую страту лясной гаспадарцы. Толькі ад успышкі масавага размнажэння звычайнага і жаўтаватага сасновых пілільшчыкаў, што ахапіла ў 1961 г. 87,7 тыс. га лесанасаджэнняў, страты на прыросце драўніны з-за аб'ядання ігліцы склалі каля аднаго мільёна кубічных метраў, або каля чатырох мільёнаў рублёў. Таму зараз і надаецца такая вялікая ўвага пытанням ўзмацнення і ўдасканалення лесаахоўнай службы.

Пачынаючы з 1967 г., лесаахоўная служба ў нашай рэспубліцы стала на якасна новую ступень: пры МЛГ БССР арганізавана рэспубліканская станцыя па барацьбе са шкоднікамі і хваробамі лесу з сеткай пунктаў уліку і прагнозаў пры абласных упраўленнях лясной гаспадаркі. Такім чынам, замест шасці інжынераў-лесапатолагаў (па аднаму на вобласць), якія працавалі раней, з 1967 г. у службе лесааховы занята 23 спецыялісты (5 на лесаахоўнай станцыі і па 3 на кожным пункце ўліку і прагнозаў). Такое ўзмацненне службы лесааховы кадрамі пры цэнтралізаваным кіраўніцтве дало магчымасць правільна арганізаваць нагляд, улік і прагноз шкоднікаў і хвароб лесу.

Асноўнай задачай станцыі з часу яе стварэння з'яўляецца арганізацыя і правядзенне мер барацьбы са шкоднікамі і хваробамі лесу. Улічваючы тое, што зараз усё большае значэнне надаецца ахове прыроды, прадухіленню забруджвання навакольнага асяроддзя шкоднымі элементамі, у тым ліку ядахімікатамі, МЛГ БССР пайшло па шляху аптымальнага выкарыстання натуральных рэгулятараў колькасці шкоднікаў. Хімічныя сродкі барацьбы сталі ўжывацца ў выпадку крайняй неабходнасці шляхам накіраванага спалучэння натуральных і штучных фактараў знішчэння колькасці шкоднікаў, што адпавядае сучасным патрабаванням інтэграванай барацьбы. Поспех такой барацьбы залежыць, у першую чаргу, ад своечасовага выяўлення ачагоў шкодных насякомых і хвароб лесу.

Па выніках агульнага, рэкагнасцыровачнага і дэтальнага наглядаў, рэгулярных лесапаталагічных абследаванняў лесанасаджэнняў станцыяй штогод складаецца прагноз найбольшых шкоднікаў лесу ў БССР, у якім паказваецца распаўсюджванне шкодных насякомых у насаджэннях рэспублікі, даецца характарыстыка ачагоў шкоднікаў і тэндэнцыя змянення іх колькасці ў часе, указваюцца першачарговыя аб'екты для правядзення мер барацьбы з імі і ўзмацнення лясгасамі агульнага і рэкагнасцыровачнага наглядаў.

Пастаянна ў лясгасах рэспублікі спецыялістамі станцыі і пунктаў уліку і прагнозаў праводзяцца заняткі па лесаахове. Гэта дало свае вынікі. З лясгасаў сталі паступаць тэрміновыя данясенні пра з'яўленне шкоднікаў і хвароб лесу. За 7 гадоў паступіла 268 такіх сігналаў. Лясной аховай своечасова былі знойдзены ачагі такіх небяспечных шкоднікаў, як няпарны шаўкапрад у 1968 г. (Чачэрскі лясгас Гомельскай вобласці), залатагузка ў 1969 г. (Гродзенскі лясгас), сасновы шаўкапрад у 1970 г. (Пінскі лясгас Брэсцкай вобласці), звычайны сасновы пілільшчык у 1973 г. (Камарынскі, Першамайскі і Рэчыцкі лясгасы Гомельскай вобласці), што дало магчымасць падрыхтавацца і правесці барацьбу з імі.

Дэталёвае абследаванне выяўленых ачагоў шкоднікаў і хвароб лесу — найбольш важны этап работы станцыі па нагляду. За васьмігадовы перыяд агульная плошча абследаваных спецыялістамі станцыі ачагоў шкоднікаў і хвароб лесу склала каля 62 тыс. гектараў.

Улік шкоднікаў у абследваемых ачагах вядзецца на ўсіх стадыях іх развіцця з абавязковым правядзеннем аналізу сабраных насякомых на жыццяздольнасць. Пры гэтым вызначаецца роля энтамафагаў, хвароб насякомых, птушак, грызуноў, антыбіёзу (фізіялагічнай устойлівасці насаджэнняў) і іншых біятычных фактараў, што дае магчымасць зрабіць выснову пра эфектыўнасць натуральных рэгулятараў колькасці шкоднікаў. Асабліва значэнне надаецца ўліку энтамафагаў, якія могуць значна знізіць колькасць шкоднікаў. Гэта дазваляе правільна вырашыць пытанне пра неабходнасць барацьбы з імі.

Там, дзе пагроза аб'ядання насаджэнняў вялікая, а роля біятычных фактараў неістотная, мы выкарыстоўваем знішчальныя меры барацьбы, якія памагаюць рэзка знізіць колькасць шкоднікаў у год апрацоўкі і прадухіліць пашкоджанні. Так, у ачагу звычайнага сасновага пілільшчыка ў Рагачоўскім лясгасе (Гомельская вобласць) колькасць шкоднікаў у 1970 г., нягледзячы на параўнаўча высокую заражанасць яйкакладак пілільшчыка яйкаедам ахрызахарэла руфорум (да 70 працэнтаў), аказалася высокай, і лічынкі, якія выйшлі, стварылі пагрозу аб'ядання ігліцы дрэў (да 80 працэнтаў). Таму пад кіраўніцтвам станцыі там была праведзена суцэльная авіяцыйная апрацоўка насаджэнняў хларафосам на плошчы 80 га. У выніку ачаг шкоднікаў быў ліквідаваны і лес выратаваны.

У ачагу сасновага шаўкапрада (на тэрыторыі Пінскага лясгаса) насаджэнні аказаліся неэнтамаўстойлівымі (інтэнсіўнасць выдзялення смалы з ігліцы складала менш чым 1,4%), а актыўнасць натуральных рэгулятараў колькасці шкоднікаў у 1970 г. была нізкая (паразітызм кукалак і яек шкоднікаў не перавышаў 6%, і вясною 1971 г. гэты шкоднік пагражаў стопрацэнтным аб'яданнем насаджэнняў. Праведзеная там пры ўдзеле аддзела біялагічных метадаў аховы лесу БелНДІЛГ авіяцыйная апрацоўка насаджэнняў бакпрэпаратамі дазволіла прадухіліць аб'яданне лесу, і ачаг знік.

У знішчэнні пілільшчыкаў у Камарынскім і Рэчыцкім лясгасах у 1973—1974 гадах асноўную ролю адыграў цэлы комплекс біятычных фактараў, якія дзейнічалі на ўсіх стадыях развіцця шкоднікаў. Значная частка коканаў пілільшчыка загінула ад дзеяння паразітаў, грызуноў і хвароб, а яйкаед ахрызахарэла руфорум заразіў яйкакладкі шкоднікаў у 1973 г. на 35—55 працэнтаў, а ў 1974 — на 90—100 працэнтаў. У выніку эфектыўнага дзеяння натуральных ворагаў пілільшчыкаў колькасць іх у ачагах на асноўнай плошчы знізілася да магчымай, і авіяхімбарацьба са шкоднікамі на агульнай плошчы 1700 га была адменена. Замест яе правялі частковую наземную хімапрацоўку найбольш заселеных шкоднікамі ўчасткаў.

Біялагічнае абгрунтаванне мер барацьбы дало вялікі станоўчы эфект не толькі з пункту гледжання лесааховы і аховы прыроды, але і з эканамічнага боку. За перыяд з 1970 па 1974 год у выніку біялагічна абгрунтаванага адмаўлення ад суцэльных авіяхімічных апрацовак у ачагах звычайнага сасновага пілільшчыка ў Бабруйскім, Рэчыцкім і Камарынскім лясгасах было сэканомлена каля 30 тысяч рублёў.

Улічваючы сучаснае патрабаванне інтэграванай барацьбы, станцыя вялікае значэнне надае прытрымліванню «Санітарных правіл у лясах СССР», арганізацыі і правядзенню лясгасамі мерапрыемстваў прафілактычнага характару — стварэнню ўмоў для гнездавання птушак, рассяленню карысных відаў мурашак і фарміраванню ўстойлівых да шкоднікаў і хвароб лесанасаджэнняў шляхам правільнага правядзення лесакультурных работ, высечак, догляду і іншых лесагаспадарчых мерапрыемстваў.

У ачагі і лесанасаджэнні з павышанай колькасцю шкоднікаў лясгасы штогод прыцягваюць карысных насякомаедных птушак і перасяляюць рыжых лясных мурашак. Падбор найбольш важных аб'ектаў для правядзення гэтых мерапрыемстваў ажыццяўляецца станцыяй і пунктамі ўліку і прагнозаў. У 1970—1974 гадах лясгасамі рэспублікі развешана каля 8500 штучных гнёздаў для птушак на агульнай плошчы 19 000 га і перааселена 45 600 мурашнікаў на агульнай плошчы 10 500 га. Станоўчыя вынікі праведзеныя прафілактычныя мерапрыемствы далі, безумоўна, не адразу, а праз пэўны час.

У заключэнне варта сказаць, што комплекснае вырашэнне пытання аховы лясоў ад шкоднікаў і хвароб на аснове правільнага правядзення лесаводчых мерапрыемстваў, аптымальнага выкарыстання біятычных фактараў і мэтанакіраванага іх спалучэння са знішчальнымі лесаахоўнымі мерапрыемствамі — залог поспеху ў барацьбе за непашкоджаныя і здаровыя лясы.

**Б. АНІШЧАНКА,**
**дырэктар рэспубліканскай станцыі па барацьбе са шкоднікамі і хваробамі лесу МЛГ БССР**

# БАРАНАВІЦКІ ПЧОЛАГАДАВАЛЬНІК



Вулейкі, у якіх вырошчваюць пчаліных матак — Фота аўтара

**А. РЫБАЛЬЧАНКА,**

**галоўны заатэхнік Упраўлення пчалярства МСГ БССР**

Баранавіцкі пчолагадавальнік знаходзіцца паміж вёскамі Заполле і Цюкантавічы на адлегласці аднаго кіламетра ад шашы Баранавічы — Навагрудак. Гэтая спецыялізаваная на вывадзе пчаліных матак гаспадарка створана на тэрыторыі былога панскага маёнтка. Зямельная плошча гаспадаркі — 59 гектараў. 25 га займае ворная зямля, 17 га — лясныя насаджэнні, 6 га — фруктовы сад, 4 га — сенажаці і пашы. Астатняя плошча адведзена пад прысядзібныя ўчасткі і іншыя сельскагаспадарчыя аб'екты.

Жылыя і вытворчыя пабудовы цэнтральнай сядзібы хаваюцца пад кронамі магутных клёнаў і ліп, кучаравых верб, рабін і акацый. А навокал — палеткі калгаса «Новы шлях», на якіх вырошчваюцца і такія меданосныя культуры, як грэчка, канюшына, гарчыца, баркун. У навакольных лясах шмат чарніц, суніц, кустоў арэшніку, крушыны, маліны і меданоснага шматтраўя.

Пра тое, што ў гэтых мясцінах выгадна разводзіць пчол, сведчаць такія факты. Калгас «Новы шлях» штогод высявае грэчку і намалочвае з кожнага гектара па 17—19 цэнтнераў зерня гэтай культуры. Сам пчолагадавальнік, акрамя насення меданосаў, якія ён пачаў вырошчваць, ва ўраджайныя гады здымае са свайго саду да 30 тон лепшых гатункаў яблык, груш, ягад. Акрамя гэтага, пчолагадавальнік і калгас «Новы шлях» атрымліваюць ад пасек непасрэдную прадукцыю пчалярства — мёд, воск і пропаліс.

У 1975 годзе ў Баранавіцкім пчолагадавальніку было атрымана 1360 плодных матак, 4321 няплодная і 300 пчолаадводкаў у чатырох- і шасцірамачных пакетах. Атрымана 0,5 тоны мёду. Да канца года ў пчолагадавальніку налічвалася 600 асноўных пчаліных сем'яў (у 1975 годзе пасекі гадавальніка павялічыліся на 100 пчаласем'яў) і 10 працэнтаў запасных матак.

Асноўная прадукцыя пчолагадавальніка — пчаліныя маткі і пчолаадводкі раяніраванай у рэспубліцы краінскай пароды пчол. Гадавальнік рэалізуе яе калгасам, саўгасам і пчалярам-аматарам. Частка племяннай прадукцыі па заяўках накіроўваецца за межы рэспублікі. Шэсцьсот вуллёў з асноўнымі сем'ямі і некалькі дзесяткаў з пчолаадводкамі размешчаны на чатырох пасеках пчолагадавальніка.

На цэнтральнай сядзібе і ў вёсцы Красевічы пасекі цалкам спецыялізаваны на вывадзе пчаліных матак. Дзве пасекі даюць мёд і фарміруюць ад лепшых сем'яў адводкі для продажу.

У першай палавіне лета, у перадроевы перыяд, таварныя адводкі ва ўмовах вандровак засяляюць у фанерныя скрынкі-пакеты. Гэта лёгкая тара прыстасавана спецыяльна для паштовай перасылкі і перавозкі жывых пчол любым відам транспарту на самыя далёкія адлегласці.

Пошта дастаўляе заказчыкам і пчаліныя маткі ў драўляных клетачках. Спецыяльны корм «кандзі», пакладзены ў кармавое аддзяленне маленькай пасылкі, дае магчымасць матцы і васьмі-дзесяці пчолам, якія суправаджаюць яе, пражыць, не галадаючы, да 10 дзён.

Большая частка штучна атрыманых пчаліных матак, якія накіроўваюцца спажыўцам,— няплодныя. Спарваючыся з трутнямі іншай пароды або няроднаснымі сабе, такія маткі даюць патомства з павышанай жыццядзейнасцю, без чаго нельга дасягнуць устойлівага росту мядовай прадуктыўнасці пчаліных сем'яў і выпрацаваць у пчол, завезеных у нашу рэспубліку, здольнасць бясшкодна пераносіць не ўласцівыя для іх умовы зімоўкі.

У 1971 годзе было рэалізавана 442, у 1972 — 499 і ў 1973 — 1048 плодных матак і адпаведна — 3088, 2800 і 2694 няплодных. Такім чынам, попыт на плодных матак расце. Чым гэта выклікана? Неабходнасцю пераходу многіх калгасных і саўгасных пасек на раяніраваную ў рэспубліцы краінскую пароду пчол. Чыстапародныя маткі-краінкі шырока выкарыстоўваюцца для павелічэння памераў пасек, стварэння племянных груп пчаліных сем'яў і захавання іх у час зімоўкі як запасных на выпадак страты матак у асноўных сем'ях.

Чым славіцца краінская парода пчол? Краінскія пчолы, завезеныя ў Беларусь з Аўстрыі, міралюбныя, добра будуюць васковыя соты, высокапрадуктыўныя на медазборах з квітнеючых садоў, палявых сельскагаспадарчых культур і лугавога шматтраўя. Пчаліныя маткі гэтай пароды пчол за адны суткі здольны адкладваць у ячэйкі сотаў звыш 2,5 тысячы яек, што дазваляе пры спрыяльных умовах нарошчваць да асноўнага медазбору вялікую колькасць рабочых пчол — зборшчыц нектару. Знаходзячыся ў роевым стане, слаба прапаліцуюць гняздо, не спыняюць летні дзейнасці па збору нектару і кветкавага пылку, пабудове сотаў, і таму іх няцяжка выводзіць з роевага стану.

Баранавіцкі пчолагадавальнік атрымлівае нямала станоўчых водгукаў ад пчаляроў як грамадскіх, так і аматарскіх пасек, якія набылі пчаліныя маткі краінскай пароды.

Пры наяўнасці добрага надвор'я ў лепшых сем'ях можна заўсёды зняць за сезон дзве, а то і тры магазінныя надстаўкі, запоўненыя мёдам. А што да міралюбнасці гэтых пчол, дык з імі можна працаваць, нават малавопытнаму пчаляру, без сеткі і курача.

Тэхналогія вываду пчаліных матак краінскай пароды і іх апладнення ўключаюць у сябе шэраг асноўных элементаў:

1. Вылучэнне племяннай групы. У яе

павінна ўваходзіць да 40 працэнтаў пчаліных сем'яў — самых высокапрадуктыўных, лепшых па зімаўстойлівасці і іншых якасцях.

2. Падрыхтоўчыя лабараторныя работы да маткавываднога сезона.

3. Падрыхтоўка саміх пчаліных сем'яў і работа з імі ў адпаведнасці з іх прызначэннем.

4. Падрыхтоўка да дзеяння нуклеуснага парку і яго абслугоўвання.

5. Праверка пчаліных матак на пладнасць.

6. Адбор і адпраўка матак заказчыкам.

Гэты немалы аб'ём работ павінен выконвацца строга па рабочаму графіку маткавода. Адна матка, якая выйдзе без яго кантролю, можа забіць сваім джалам іншых матак, гатовых да выхаду з маточнікаў, і звесці на нішто працу, укладзеную на атрыманне гэтай партыі пчаліных матак. На двух прывівачных рамках у адной сям'і — выхавацелькі можа адначасова выспяваць да 60 пчаліных матак. Такая біялогія пчалінай сям'і. Штучны вывад пчаліных матак і арганізацыя іх апладнення патрабуюць ад пчаляроў не толькі вялікага ўмення, але і старання.

Гэтымі якасцямі валодаюць загадчык пчолагадавальніка Валянцін Кунцэвіч і пчаляр Канстанцін Хвалько. Багаты вопыт вывядзення пчаліных матак яны пераймалі ў маткаводаў Грузіі, Кубані, Малдавіі, Стаўрапаля, Узбекістана, дзе пабывалі ў экскурсійных паездках.

Новая прамысловая тэхналогія атрымання плодных і няплодных пчаліных матак укараняецца на пчолагадавальніках Беларусі пры іх непасрэдным удзеле. Ледзь прыкметную лічынку, якая вылупіцца з яйка, адкладзенага маткай у ячэйку сотаў, яны па-майстэрску пераносяць у штучна зробленую васковую місачку, каб атрымаць з яе няплодную матку. А каб яна стала плоднай, яе са жменяй пчол засяляюць потым у маленькі вулей — нуклеус, сістэматычна падкормліваюць густым сіропам і, такім чынам, ствараюць умовы для яе канчатковага палавога выспявання і вылету на спарванне з трутнямі бацькоўскіх пчаліных сем'яў.

Баранавіцкі пчолагадавальнік пакуль не можа даць тую колькасць пчаліных матак і пчолаадводкаў, якая неабходна зараз. Аднак у бліжэйшыя гады патрабаванні пчаляроў будуць цалкам задаволены за кошт выкарыстання рэзерваў, якія «абяцае» выявіць новая тэхналогія.

З мэтай якаснага паляпшэння краінскай пароды пчол у гадавальніку праводзіцца селекцыйная работа. Ёю займаюцца супрацоўнік лабараторыі пчалярства Беларускага НДІБПҐ кандыдат біялагічных навук Е. Старасценка. Большая частка работы ўжо выканана. Выяўлена чатыры дзесяткі самых высокапрадуктыўных пчаліных сем'яў. Ад іх атрыманы маладыя маткі і зроблена іх падсадка ў сем'і.

Цяпер неабходна выявіць, якія з іх устойліва перадаюць патомству свае каштоўныя якасці, і пачаць закладку ліній і планамернае размнажэнне адселекцыяніраванага матэрыялу раянірavaнай у рэспубліцы краінскай пароды пчол.

# УПЛЫЎ ПАВОДКІ НА ГЛЕБАВЫХ БЕСПАЗВАНОЧНЫХ

У другім нумары «Роднай прыроды» за гэты год была надрукавана карэспандэнцыя М. Аса «Змяненні фауны, выкліканыя паводкай», у якой аўтар выказваў трывогу з прычыны страт, якія панесла прырода паўднёва-заходніх раёнаў Беларусі ў выніку анамальнай восеньскай паводкі мінулага года. У карэспандэнцыі выказана меркаванне, што доўгае знаходжанне ў халоднай вадзе і прамерзлай мокрай глебе насякомых і чарвякоў-глебаўтваральнікаў павінна адмоўна адбіцца на іх складзе і колькасці.

Спецыяльныя даследаванні па пытанню ўплыву восеньскіх паводак на глебавую фауну адсутнічаюць па прычыне выключнасці гэтай з'явы. Аднак доўгія вясеннія паводкі ў поймах рэк Палесся з'яўляюцца звычайнай, нават заканамернай з'явай. Назіранні за іх уплывам на фауну могуць даць пэўны адказ і на некаторыя пытанні, закранутыя ў карэспандэнцыі М. Аса.

Даследаваннямі шэрагу аўтараў высветлена, што вясеннія разлівы не робяць згубнага ўздзеяння на глебавую фауну. Так, напрыклад, Е. Маскачова (1957), вывучаючы ўплыў вясновага разліву на выжываемасць і склад фауны панцырных кляшчоў пойм прытокаў Дняпра (Магілёўская вобласць), высветліла, што разлівы рэк не вядуць да гібелі кляшчоў, а значыць, не ахоўваюць жывёлу, якая пасвіцца ў пойме, ад заражэння гельмінтамі-анаплацефалятамі, прамежкавымі гаспадарамі якіх з'яўляюцца панцырныя кляшчы.

Тэрміны выжывання пад вадой розных стадый развіцця іксодавых кляшчоў неаднолькавыя. У значнай меры яны залежаць ад тэмпературы вады і павялічваюцца з яе паніжэннем. Але, нават у параўнаўча цёплай вадзе (ад 7 да 24° С), некаторыя стадыі развіцця жывёльнага кляшча, па дадзеных Гусева і Сузько (1950), вытрымліваюць затапленне тэрмінам 20 і больш дзён.

Параўнаўча доўга выжывае пад вадой большасць відаў глебавых беспазваночных, прытым, менавіта пры нізкіх тэмпературах. Наадварот, пры тэмпературы, блізкай да аптымальнай для дадзенага віду, гібель затопленых беспазваночных, якія жывуць у глебе, наступае вельмі хутка.

Ускоснымі доказамі здольнасці буйных глебавых беспазваночных (мезафауны) да выжывання ва ўмовах затаплення з'яўляюцца матэрыялы па глебавай фауне пойменных біятопаў Прыпяцкага ландшафтна-гідралагічнага запаведніка, сабраныя студэнтамі і супрацоўнікамі кафедры заалогіі Гомельскага дзяржаўнага універсітэта ў 1973—1974 гадах. Гэтыя даследаванні паказалі, што глебавая мезафауна пойменных біятопаў Прыпяці, нягледзячы на рэгулярнае затапленне, у цэлым багатая як у якасных, так і ў колькасных адносінах.

Колькасць прадстаўнікоў гэтай групы ў глебе пойменных дуброў і лугоў, якія пастаянна затапліваюцца, практычна аднолькавая (14,9 і 15,0 экземпляра на адзін квадратны метр). У зарасніках трыснягу яна яшчэ вышэйшая — 21,6 экземпляра на 1 $м^2$. Агульная іх вага (біямаса) складае ў пойменных дубровах 10,5, у зарасніках вербняку — 14,8, на пойменных лугах — 17,1 грама на 1 $м^2$. Прытым, да 57,4% па колькасці асобін і да 73,6% біямасы прыпадае на долю дажджавых чарвякоў, шчыльнасць якіх складае ад 4,9 экземпляра на 1 $м^2$ на пойменных лугах да 12,4 экземпляра ў глебе вербняковых зараснікаў.

Для параўнання адзначым, што ў глебе незатапліваемых сасоннікаў таго ж Прыпяцкага запаведніка біямаса глебавых беспазваночных складае ўсяго 1,7 г на 1 $м^2$, дуброў — 5,1, драбналістых лясоў — 8,2 г на 1 $м^2$, гэта значыць, прыкметна ўступае біямасе біятопаў, якія рэгулярна затапліваюцца.

Тым не менш, пытанне пра змяненні глебавай фауны ў выніку восеньскай паводкі не можа лічыцца вырашаным канчаткова да атрымання прамых, параўнаўчых дадзеных. Для высвятлення гэтага пытання мы спадзяёмся выкарыстаць вынікі параўнання глебавай фауны мінулага і гэтага года ў раёне стацыянарных пробных пляцовак, закладзеных у лясах Прыпяцкага запаведніка Цэнтральным батанічным садам АН БССР. Матэрыялы даследаванняў мінулага года (да паводкі) ужо апрацаваны. У чэрвені — ліпені ўлікі былі паўтораны. Апрацоўка дадзеных дазволіць студэнтам, членам студэнцкай навуковай лабараторыі пры кафедры заалогіі Гомельскага дзяржуніверсітэта, даць канчатковы адказ на гэтае пытанне.

**Б. САВІЦКІ,**
**доктар біялагічных навук,**

**Т. КЛІМЕНКА,**
**студэнтка біёлага-глебавага факультэта Гомельскага дзяржуніверсітэта**

# ЛЕС ЦІ ПАСЫНАК?

Лес, у чыіх бы руках ён ні знаходзіўся, застаецца ўсё тым жа прыродным аб'ектам з уласцівымі для яго фізічнымі якасцямі і законамі біялогіі. Як у дзяржаўных лясах, так і ў калгасных дзейнічаюць адны і тыя ж крытэрыі для вызначэння памераў лесакарыстання і асноў вядзення лясной гаспадаркі.

Дзяржава, надзяліўшы калгасы лесам, устанавіла і дакладна акрэсленыя абавязкі перад імі. На жаль, «Палажэнне аб калгасных лясах», зацверджанае Саветам Міністраў СССР у 1968 годзе, часта парушаецца. Сельскія гаспадаркі не выконваюць мерапрыемствы па лесаўзнаўленню, перавышаюць нормы высечак. Лес занепадае і ўрэшце рэшт абясцэньваецца. Падобнае ў значнай ступені характэрна для ўсёй рэспублікі.

Пагаворым аб калгасных лясах Міншчыны. Тут, побач са сталіцай, справы, здавалася б, павінны былі выглядаць і лепш.

Самавольныя высечкі ў калгасных лясах вобласці прымушаюць задумацца: Любанскі раён — 1076 кубаметраў, Уздзенскі — 2218, Мядзельскі — 3483. Звярніце ўвагу — Мядзельскі — зона адпачынку.

Вялікае зло — звышпланавыя высечкі. У некаторых гаспадарках яны практыкуюцца сістэматычна. Так, у калгасах «17 верасня» і «Рассвет» Валожынскага раёна, наогул, не звяртаюць увагі на нормы. Па прынцыпу, што хачу, тое і раблю. Ці калгас «Сцяг камунізму» Пухавіцкага раёна — 748 незаконна нарыхтаваных кубаметраў. Праўда, на гэты раз браканьерам давялося выплаціць штраф. І не малы: 8242 рублі.

Самавольныя і звышпланавыя высечкі ў вобласці склалі звыш 8 тысяч кубаметраў драўніны.

Сярод некаторых кіраўнікоў сельскіх гаспадарак бытуе заганнае меркаванне: лясныя ўгоддзі з'яўляюцца безумоўнай уласнасцю калгасаў. Даходзіць нават да самаўпраўства. У калгасе «1 Мая» Смалявіцкага раёна з ведама старшыні т. Мытніка і без узгаднення з аблвыканкомам (гэта яго кампетэнцыя) лясныя плошчы пачалі пераводзіцца пад іншыя віды ўгоддзяў. А старшыня калгаса «Пасека» Старадарожскага раёна т. Гайдук аддаў распараджэнне аб высечцы 158 кубаметраў драўніны... у прыдарожнай паласе.

Лясная гаспадарка ў калгасах вядзецца, як правіла, не на ўзроўні сучасных патрабаванняў. У ІІ-м пункце «Правіл вядзення гаспадаркі ў калгасных лясах» запісана: калгасны лес — частка дзяржаўнага ляснога фонду СССР. Зыходзячы з гэтага, лясная гаспадарка ў калгасах павінна весціся ў першую чаргу ў інтарэсах дзяржаўных, а не вузкаведамасных.

Каб правільна арганізаваць лясную гаспадарку, неабходна мець навукова абгрунтаваныя метады планавання карыстання лесам, цвёрда прытрымлівацца норм высечак, догляду і г. д.

Лесаўпарадкавальныя работы ў калгасах вобласці, за рэдкім выключэннем, не праведзены. У Смалявіцкім раёне толькі тры гаспадаркі правялі лесаўпарадкаванне. Аналагічнае становішча і ў іншых раёнах.

Дрэнна наладжана ахова. Калгасныя масівы захламлены на вялікіх плошчах: у Любанскім раёне — 1,5 тысячы гектараў, Дзяржынскім — 1 тысяча... Як вынік — пажары. У 1974 годзе ў калгасных лясах адбылося 74 пажары.

Прычынай частых пажараў з'яўляецца і тое, што рэгулярна не выконваецца план высечак догляду. Напрыклад, у калгасе імя Калініна Чэрвеньскага раёна ёсць 200 га хваёвага маладняку, у якім нага гаспадара, як кажуць, і не ступала.

У вобласці ёсць шмат зямлі, якая патрабуе аблясення. Скажам, у калгасе «Залужжа» Старадарожскага раёна не аблесена 72 гектары пустак.

Тэхнічнае ўзбраенне калгасных лясных гаспадарак вельмі слабае. Не хапае спецыялістаў. Таму не ўсе калгасы могуць весці лясную гаспадарку на належным узроўні.

Частка калгаснага лесу перададзена дзяржаве. Але шмат яшчэ застаецца ў гаспадарках.

Нашы лясныя рэсурсы вялікія. Аднак спатрэбіцца прыкласці шмат намаганняў, каб навесці належны парадак пры іх выкарыстанні. Прычым, марудзіць нельга. Цяперашні стан калгаснага лесу не адпавядае патрабаванням вядзення лясной гаспадаркі.

**А. ЛАМАКА,**
**старшы інжынер Мінскай абласной інспекцыі Дзяржкамітэта СМ БССР па ахове прыроды**




Зялёны кафтан наросхрыст, жоўтая кашулька і чорны гальштучак... Птушка ў такім убранні знаёма кожнаму. З'яўляецца яна каля жылля чалавека з наступленнем першых халадоў і да самай вясны трымаецца каля населеных пунктаў.

Па даверу да чалавека вялікая сініца сярод птушак не мае сабе роўных. Нават ластаўкі і шпакі, якія жывуць каля жылля чалавека, больш палахлівыя і недаверлівыя. Аднак летам і сініца стараецца трымацца далей. Зімой яна шукае дапамогі.

У моцныя маразы сініца іншы раз нават залятае ў адкрытую фортку і, калі ў пакоі цішыня, падоўгу збірае крошкі, ахвотна ласуецца маслам, салам (калі яны

# МАЕ КВАТАРАНТКІ—

несалёныя), малаком. Калі ўпакоўка падатлівая, можа прадзяўбці дзірачку.

З жывёльнай ежы яе прываблівае больш тлушч, з раслiннай — семя маслічных, асабліва семя канапель. Калі хочаце пераканацца ў гэтым, зрабіце на бачным месцы за акном кармушку. Атрымаеце задавальненне.

Злавіць сініцу няцяжка, асабліва на кармушцы, да якой яна прызвычаілася. Але, нават калі яна сама заляціць у фортку, не спяшайцеся зачыніць акно. Акліматызаваўшыся ў цёплым пакоі, сініца ў марознае надвор'е, выпушчаная на волю, замерзне ў першую ж ноч. Ваша гасціннасць будзе каштаваць ёй жыцця.

Я раскажу пра адну сініцу, якая пражыла ў мяне ўсю зіму, падкрэсліваю — без клеткі. Я «запрасіў» яе на кватэру, калі не было яшчэ снегу, але ўжо па замаразках, і выпусціў, калі снег растаў. Нязручнасць заключаецца ў тым, што сініца на кармушцы есць толькі тую ежу, якую не можа панесці. Кавалачкі сала, масла або зерне аўса ці семя канапель яна заносіць на галінку, і, заціснуўшы лапкамі, з'ядае. І дробнае смецце тут непазбежна. Фортку адчыніць можна толькі ўвечары, калі птушка засне на сваёй галінцы, спецыяльна прыстасаванай для гэтага пад столлю.

Здавалася б, наіўна чакаць ад сініцы якой-небудзь карысці ў кватэры. Але можна прывесці такі прыклад. У некаторых камунальных кватэрах, асабліва непрыстасаваных і дрэнна дагледжаных, ёсць адна асаблівасць: час ад часу невядома адкуль з'яўляюцца тараканы. Труціць іх нельга — загубіш птушку. Але гаспадыня можа не хвалявацца, адна сініца з гэтай праблемай справіцца лепш за санэпідэмстанцыю. Варта з'явіцца ў кватэры хоць аднаму таракану, як яна яго, здаецца, загадзя адчуе і выцягне з любога патаемнага кутка.

Сініца — вялікая ахвотніца купацца. Калі за ёй была заўважана такая слабасць, пачалі пакідаць для яе каструлю ці нават вядро вады, поўныя да краёў. Купацца яна можа паўгадзіны і больш, седзячы на краі, абмокваючыся і абтрэсваючыся.

Праз два-тры дні сініца так асвойталася, што садзілася мне на плячо, на галаву не толькі за сталом, але нават і тады, калі я праходзіў па пакоі. Павінен заўважыць, што ў адносінах да іншых членаў сям'і такую вольнасць яна дапускала рэдка: відаць, птушка, як і большасць жывёл, адчувае, хто найболей цікавіцца ёю і клапоціцца пра яе.

Яшчэ адна цікавая дэталь. Сініца пасябравала з кошкай. Не вельмі старая, але прызвычаеная да розных звяркоў (папераменна ў мяне жылі вавёрка, зайчык, вожык) кошка навучылася разумець слова «свой». Хоць гэта не перашкодзіла ёй з'есці чырвонага снегіра, які пражыў у мяне каля двух месяцаў (зразумела, таксама без клеткі). За снегіра яна была пакарана і мацней




засвоіла паняцце «свой». Але як у яе закіпала кроў, калі сініца набліжалася на адлегласць аднаго скачка! На першым часе давялося паказваць тую самую, знаёмую ёй, дзягу, пасля дастаткова было сказаць «свой!» і пастрашыць пальцам, каб яна супакоілася. Потым настаў момант, калі ў кошкі прапала цікавасць да птушкі.

Сініца таксама зрабіла адпаведную выснову з паводзін кошкі, і аднойчы дзюбнула яе ў нос. Я ледзь стрымаўся, каб не кінуцца на дапамогу. Але пакрыўджаная кошка распушыла хвост, фыркнула і замахнулася на сініцу лапай...

З таго часу за жыццё сініцы я быў спакойны: кошка «прыняла» яе як паўнапраўнага члена сям'і, з якім можна пагуляць, але нельга з'есці.

У сярэдзіне зімы я злавіў яшчэ адну сініцу, каб «маёй» было весялей. Праз нейкі тыдзень кошка з'ела яе. Тут была мая віна: я наіўна думаў, што кошка прымірылася з абедзвюма сініцамі. Але да першай я прывучыў яе словам «свой». І яна, дэманстратыўна, не звяртаючы ўвагі на «сваю», з'ела «чужую».

Першую сініцу яна не чапала да самай вясны.

Калі растаў снег і выбіліся з пупышак клейкія лісцікі, птушку быццам падмянілі. Яна ўжо не купалася, не садзілася на плячо, цэлымі днямі штурмавала акно, хоць за зіму, вядома, пераканалася, што праз яго не вылеціш. Мабыць, прыйшла пара размнажэння. Цёплым сонечным ранкам я вынес яе на двор. Раскрыў далонь. Некалькі хвілін яна сядзела на далоні — свабодная, але яшчэ не верыла ў сваё вызваленне.

Дні тры яна прылятала і трымалася каля акна. Відаць, каб паесці, але ўжо дзічылася. Потым знікла.

А наступнай зімой маю ўвагу прыцягнула адна сініца на кармушцы, якая адрознівалася спакоем і бяс-

# СІНІЦЫ

страшшам і была вельмі падобная на маю старую знаёмую (гэта толькі на адлегласці ўсе вераб'і аднолькава шэрыя). Іншы раз яна чаплялася за раму і падоўгу заглядвала ў кватэру. Але паўтараць эксперымент, даволі небяспечны для птушкі (хоць кошкі ў мяне тады не было), я не меў часу, і я не стаў яе лавіць.

Калі пачаліся маразы (у акне была фортка, якая з-за ўстойлівай тэмпературы ў кватэры амаль ніколі не зачынялася), адна з сініц штодзень забіралася ў кухню. Удзень іх было тут па некалькі. Аднойчы марозным вечарам прыходжу дамоў, уключаю святло і бачу... сініцу. Яна спужалася, кінулася ляцець, але... пасядзела на раме ў адчыненай фортцы і ў начную цемень кінуцца не захацела. Пашукаўшы месца, села на люстры пад столлю. Мусіць, ёй ужо даводзілася і на вуліцы грэцца каля электрычных ліхтароў. Тыдні два, пакуль стаялі маразы, яна ўдзень вылятала на двор, а нанач уладкоўвалася на люстры. Цікава вось што: спачатку, дні тры, яна спала па-зімоваму, натапырыўшы пер'е і схаваўшы галаву пад крыло. Да яе можна было ціхенька падысці, стаць на крэсла, працягнуць руку, разглядваць колькі хочаш, не дакранаючыся. Спала яна параўнальна моцна. А потым, прывыклая да цяпла, стала спаць па-летняму, не распускаючы пер'яў і не хаваючы галаву. У такім становішчы яна прачыналася адразу і не дазваляла працягваць руку.

Пры наступленні адлігі начаваць яна не прылятала. А вярталіся маразы, вярталася начаваць на люстру і мая кватарантка. З пацяпленнем яна іншы раз прылятала ў кухню паабедаць, але начаваць ужо не заставалася. А потым знікла зусім, паслухмяная клічу вясны.

**І. ДАБРАНСКІ**

# АДКУЛЬ НА ВАДЗЕ МАСЛЯНІСТЫЯ ПЛЯМЫ

**І. ЯЦУК,**
**загадчык гідрахімлабараторыі Мінскай абласной інспекцыі Дзяржкамітэта СМ БССР па ахове прыроды**

Аўтагаспадаркі і майстэрні, якія цяпер ёсць у кожным горадзе і гарадскім пасёлку, выкарыстоўваюць значную колькасць вады. Напрыклад, толькі прадпрыемствы Мінскага абласнога вытворчага аўтаўпраўлення спажываюць каля дзвюх тысяч кубаметраў вады ў суткі.

Праўда, у апошнія гады тут імкнуцца больш рацыянальна выкарыстоўваць водныя рэсурсы. Менш скідваецца сцёкавай вады. Так, у апошнія гады падключаны да гарадскіх каналізацыйных сетак аўтапрадпрыемствы ў Барысаве, Слуцку, Салігорску, Маладзечна, Валожыне. Мядзельская аўтабаза № 7 пабудавала палі фільтрацыі для ўсяго пасёлка. На шэрагу прадпрыемстваў аўтаўпраўлення — Маладзечанская аўтабаза № 2, Плешчаніцкая № 12, Чэрвеньская № 20, Барысаўская аўтакалона № 2433 — вада выкарыстоўваецца ў паўторных сістэмах.

На жаль, гэтак не ўсюды. У цэлым шэрагу аўтагаспадарак не забяспечваецца належная ахова водных рэсурсаў — не ўстаноўлены вадамеры, не наладжан улік спажываемай вады, парушаюцца санітарныя і тэхнічныя нормы эксплуатацыі свідравін.

За апошнія 2—3 гады пабудаваны мыечныя ўстаноўкі з ачышчальнымі збудаваннямі для абаротнага выкарыстання вады на аўтапрадпрыемствах Нясвіжа, Маладзечна, Чэрвеня, Барысава, Узды, Дзяржынска, Плешчаніц. І ў большасці выпадкаў гэтыя збудаванні працуюць дрэнна, што з'яўляецца вынікам няўдалых праектных рашэнняў. Помпавыя аддзяленні, як правіла, адкрытыя і сумешчаны з ачышчальнымі збудаваннямі. Дрэнны набор тэхнічнага абсталявання для ачышчэння сцёкавай вады ад масла і бруду. Няўдалыя прыстасаванні, прызначаныя для выдалення гэтых рэчываў. Яны выклікаюць сур'ёзныя нараканні кіраўнікоў аўтапрадпрыемстваў Маладзечна, Плешчаніц, Слуцка. Нізкая якасць будаўніцтва і малакваліфікаваная эксплуатацыя прывялі да таго, што прынятыя з недаробкамі абласным аўтаўпраўленнем ачышчальныя збудаванні ўжо на працягу двух гадоў не працуюць на Уздзенскай аўтабазе № 3, Дзяржынскай № 15, у Барысаўскай аўтакалоне № 2421.

Абласное вытворчае аўтаўпраўленне з'яўлялася заказчыкам будаўніцтва калектара № 9 у Слуцку. Частку калектара трэст «Слуцкбуд» паклаў няякасна, з адваротным ухілам і з разрывамі. Нягледзячы на гэта, кіраўніцтва аўтаўпраўлення настаяла на прыняцці яго ў эксплуатацыю. У выніку калектар працуе нездавальняюча. Да яго падключылі калектар піўзавода, а ў наступным годзе павінны падключыцца яшчэ мясакамбінат і аўтарамонтны завод. У такім стане калектар, вядома, не зможа прапусціць сцёкі ўсіх прадпрыемстваў.

Больш за 10 аўтагаспадарак вобласці не маюць мыечных установак з ачышчальнымі збудаваннямі. Мыццё аўтатранспарту адбываецца неарганізавана, часам паблізу вадаёмаў. Так. на Любанскай аўтабазе № 10 сцёкавая вада пасля мыцця аўтамашын без ачышчэння цячэ ў Арэсу і забруджвае яе. Такое ж становішча на Крупскай аўтабазе № 16. Мыечная пляцоўка знаходзіцца на правым беразе рэчкі Курнееўкі. Літаральна за 2—3 метры ад вады знаходзіцца гразеадстойнік, які забіты граззю, пяском і смеццем. Сцёкавая вада з пляцоўкі цячэ ў рэчку, пакрываючы ваду густой масляністай плёнкай.

У аўтагаспадарках збіраецца значная колькасць адпрацаванага масла, якое неабходна зліваць у спецыяльныя ёмістасці і здаваць на нафтабазы для рэгенерацыі. Аднак у большасці выпадкаў яго не збіраюць, і масла разліваецца па тэрыторыях гаспадарак, забруджваючы глебу. Атмасферныя ападкі змываюць яго і нясуць у бліжэйшыя вадаёмы. На тэрыторыі аўтагаспадарак і складаў паліўна-змазачных матэрыялаў Клецка, Капыля, Нясвіжа наглядаюцца пастаянныя разлівы нафтапрадуктаў.

Гэтыя і многія іншыя факты паказваюць, што Мінскае абласное вытворчае аўтаўпраўленне не прымае неабходных мер для забеспячэння выканання «Закона аб ахове прыроды ў Беларускай ССР» і пастаноў партыі і ўрада, накіраваных на рацыянальнае выкарыстанне і ахову водных рэсурсаў вобласці.

# ЯК ПАВЯЛІЧЫЦЬ КОЛЬКАСЦЬ РЫБЫ Ў АЗЁРАХ

**А. МЯДВЕЦКІ,**

**начальнік упраўлення па ахове і ўзнаўленню рыбных запасаў і рэгуляванню рыбалоўства**

Наша краіна па здабычы рыбы займае трэцяе месца ў свеце. Аднак асноўны ўлоў прыпадае на акіянічны промысел, а насельніцтва ахвотней купляе прэснаводную рыбу.

У сувязі з гэтым Міністэрства рыбнай гаспадаркі СССР распрацавала мерапрыемствы, ажыццяўленне якіх праз 10—15 гадоў павінна задаволіць патрэбы ў свежай прэснаводнай рыбе. Вырашэнне гэтай задачы будзе ісці па двух напрамках: за кошт найбольш поўнага і рацыянальнага выкарыстання натуральнай кармавой базы азёр, рэк і вадасховішчаў для прыросту рыбы і за кошт шырокага развіцця сажалкавага рыбаводства ў дзяржаўных рыбгасах, а таксама калгасах і саўгасах.

У Беларусі ўзровень здабычы рыбы яшчэ не задавальняе патрэбы насельніцтва ў гэтым каштоўным бялковым прадукце харчавання. Фізіялагічная норма спажывання рыбных прадуктаў, згодна з дадзенымі Інстытута фізіялогіі харчавання Акадэміі навук СССР, павінна складаць 20 кілаграмаў на душу насельніцтва ў год. Нашы ж вадаёмы пакуль не забяспечваюць вырошчвання такой колькасці рыбы. Таму зразумела на колькі важна дамагчыся рэзкага павелічэння рыбапрадукцыйнасці вадаёмаў Беларусі.

Спецыялісты лічаць, што ўловы ў рэспубліцы стабілізаваліся і маюць тэндэнцыю да павелічэння. Гэтаму садзейнічае ўкараненне новых Правіл рыбалоўства, якія забяспечваюць ахову рыбы ў прыродных вадаёмах у час нерасту. Важную ролю адыгрываюць і далатковыя меры па ахове рыбных запасаў: правядзенне двухмесячнікаў па ахове нерастуючай рыбы з прыцягненнем шырокіх мас грамадскасці да барацьбы з браканьерствам.

«Белрыбвод» ажыццяўляе комплекс мерапрыемстваў па ўзнаўленню рыбных запасаў у прыродных вадаёмах рэспублікі. Па рэкамендацыях вучоных ажыццяўляецца акліматызацыя каштоўных відаў рыбы, а таксама рыбаводная меліярацыя, устанаўленне лімітаў адлову каштоўных відаў рыбы, рэгуляванне рыбалоўства. Іхтыёлагі накопліваюць праграмны матэрыял для біялагічнага абгрунтавання рыбалоўства. На гэтай аснове распрацоўваюцца навуковыя правілы выкарыстання вадаёмаў.

Такая разнабаковая работа дабратворна адбіваецца на павелічэнні запасаў рыбы ў вадаёмах рэспублікі. Аднак тут ёсць і пэўныя цяжкасці.

Значная частка вадаёмаў рэспублікі зарыбляецца моладдзю каштоўных відаў рыбы, якая вырошчваецца ў гадавальніках Упраўлення рыбнай гаспадаркі пры СМ БССР. Аднак гэты метад павелічэння рыбных запасаў не заўсёды эканамічна апраўдваецца. Ён патрабуе, звычайна, працяглага часу для змянення іхтыяфауны ў лепшы бок. Справа ў тым, што шматлікія пасадкі моладзі ў азёрах Беларусі для замяшчэння мясцовых абарыгенаў пакуль не далі адчувальных дадатных вынікаў. Пасяляемыя рыбы, як правіла, не вытрымліваюць канкурэнцыі і прамога драпежніцтва з боку мясцовых відаў. Апошнія заўсёды аказваюцца больш жыццяздольнымі.

У сувязі з гэтым адшукана новая форма рыбагаспадарчага выкарыстання прыродных вадаёмаў, якая атрымала шырокае распаўсюджанне і прызнанне не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі — у Польшчы, ГДР, ФРГ, Італіі, Японіі. Яна ўключае сістэму мерапрыемстваў па змяненню іхтыяфауны прыродных вадаёмаў. Ажыццяўленне такой сістэмы дазваляе дасягнуць жаданага выніку за параўнаўча кароткія тэрміны. У нашым выпадку — гэта ператварэнне азёр у таварныя нагульныя гаспадаркі для вырошчвання каштоўных відаў рыбы. У якасці аб'ектаў нагулу рэкамендуецца выкарыстоўваць такія каштоўныя хуткарастучыя віды, як карп, пелядзь, вугор, белы амур, таўсталобік і іншыя.

Савет Міністраў БССР абавязаў Упраўленне рыбнай гаспадаркі ў 1971—1975 гадах увесці ў дзеянне азёрныя рыбныя гаспадаркі агульнай плошчай звыш 11 тысяч гектараў. Шмат дзе яны ўжо створаны. Гэта Лукомльская, якая ўключае возера Лукомль і аднайменны гадавальнік, Расонская з азёрамі Няшчэрда, Зубрыца і рыбагадавальнікам Наўліца, Багушэўская з азёрамі Жэрынскае, Серакаротня, Дзевінскае і рыбагадавальнікам Багушэўскі і іншыя гаспадаркі.

Трэба адзначыць, што таварныя рыбгасы на прыродных вадаёмах уяўляюць сабой зусім новы тып гаспадарак. Па сваёй спецыфіцы гэты тып адрозніваецца як ад сажалкавага рыбаводства, так і ад традыцыйнага промыслу. Таму такія гаспадаркі патрабуюць асаблівай увагі з боку навуковых арганізацый і рыбаловаў-практыкаў, работнікаў аховы прыроды і іншых арганізацый.

Пры належнай увазе з боку навуковых і адміністрацыйных устаноў рыбгасы на прыродных вадаёмах вельмі хутка могуць ператварыцца ў высокапрадукцыйныя рыбагадавальныя прадпрыемствы (аб гэтым сведчыць вопыт многіх краін), і забеспячэнне насельніцтва рыбай значна палепшыцца.

# VI УСЕСАЮЗНАЯ ЗААГЕАГРАФІЧНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

Заагеаграфія як навука зарадзілася ў эпоху вялікіх геаграфічных адкрыццяў, а яе станаўленне ішло паралельна з развіццём фауністычнай заалогіі і фізічнай геаграфіі. У наш час заагеаграфія стала важнейшай часткай комплекснай навукі — біягеаграфіі.

Даследаваннем праблем заагеаграфіі і асобных яе пытанняў займаюцца вучоныя ў самых розных кутках нашай краіны — ад Камчаткі да Белавежскай пушчы і ад вострава Урангеля да гор Паміра. У выніку даследаванняў сабран вялікі і цікавы фактычны матэрыял.

Для таго, каб даць ацэнку сучаснаму стану і намеціць перспектывы развіцця заагеаграфіі ў нашай краіне, сабраліся заолагі і географы ў сталіцы Малдавіі — горадзе Кішынёве на VI Усесаюзную заагеаграфічную канферэнцыю.

Такія канферэнцыі праводзяцца рэгулярна — праз кожныя чатыры гады. На апошняй, V канферэнцыі, якая праходзіла ў Казані, было прынята рашэнне чарговую заагеаграфічную канферэнцыю правесці ў Кішынёве. І гэта не выпадкова. Тэрыторыя Малдавіі, якая займае большую частку Дняпроўска-Петутскага міжрэчча, з пункту гледжання біягеаграфіі, з'яўляецца цікавым рэгіёнам. У букава-грабавых лясах-кодрах захаваліся рэліктавыя прадстаўнікі жывёльнага і расліннага свету. Чарганне стэпавых і лясных участкаў, а таксама наяўнасць поймённых азёр на невялікай тэрыторыі рэспублікі дазваляюць вылучыць Малдавію як своеасаблівы эталон для комплексных заагеаграфічных даследаванняў.

Канферэнцыя падвяла вынікі па заагеаграфічнаму раяніраванню сушы за апошнія чатыры гады і намеціла найбольш важныя і перспектыўныя напрамкі развіцця айчыннай заагеаграфіі. Канферэнцыя працягвалася з 2 па 6 верасня мінулага года. У яе рабоце прыняло ўдзел больш як дзвесце вучоных, прадстаўнікоў саюзных і рэспубліканскіх Акадэмій навук, навуковых і навукова-навучальных устаноў і запаведнікаў краіны.

Удзельнікамі канферэнцыі былі такія вучоныя, як А. Воранаў, А. Кузякін (Масква), І. Верашчагін, А. Крыжаноўскі (Ленінград), В. Папоў (Казань), У. Бальшакоў (Свярдлоўск), А. Спаскі, Г. Успенскі (Кішынёў) і іншыя.

На пленарных пасяджэннях і сімпозіумах было заслухана каля 150 дакладаў. Вучоныя абмяркоўвалі розныя прынцыпы і схемы заагеаграфічнага раяніравання сусветнай сушы з пераважным выкарыстаннем матэрыялаў па млекакормячых, птушках, рэптыліях, амфібіях і насякомых, пытанні заагеаграфічнага раяніравання антрапагенных ландшафтаў, класіфікацыю тыпаў антрапагенных фаун Палеарктыкі.

Пытанні аховы прыроды і рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў былі закрануты на сімпозіуме па прагназіраванню змяненняў і фауны пад уплывам навукова-тэхнічнага прагрэсу. У сваіх дакладах вучоныя прапаноўвалі канкрэтныя мерапрыемствы па захаванню і ўзнаўленню ландшафтаў і фауны.

Даклады прадстаўнікоў Беларусі былі прысвечаны паходжанню заагеаграфічных комплексаў асобных груп паразітаў дробных млекакормячых (І. Арзамасаў), заагеаграфічнай характарыстыцы асобных груп насякомых фауны Беларусі (Р. Малчанава, Т. Панкевіч) і асаблівасцям сучаснага распаўсюджвання асобных груп млекакормячых на тэрыторыі Беларусі (А. Курскоў).

Абмен вынікамі даследаванняў, аб'яднанне намаганняў вучоных многіх саюзных рэспублік у інтарэсах далейшага развіцця заагеаграфіі — вось галоўныя вынікі работы канферэнцыі.

Удзельнікі VI Усесаюзнай заагеаграфічнай канферэнцыі прынялі рэзалюцыю, у якой адзначаецца неабходнасць далейшага развіцця і ўзмацнення каардынацыі заагеаграфічных даследаванняў у краіне.

**А. КУРСКОЎ,**
кандыдат біялагічных навук



# АЛЬПЫ КУРАЙСКІЯ

Чуйскія горы... Вялізны раён, які пачынаецца ад граніц Манголіі і Кітая. На захадзе мяжуе з Аргуцкім прарывам — амаль недаступнай глыбокай цяснінай. Географы дзеляць гэтую сістэму на два асноўныя хрыбты — Паўднёва-Чуйскі і Паўночна-Чуйскі. Апошні называюць яшчэ хрыбтом Біш-Ірду, а альпіністы — Курайскімі Альпамі.

Алтайскае высакагор'е беларускія турысты наведвалі і раней. Аднак усе вядомыя маршруты замыкаліся ў межах Катунскага хрыбта, дзе знаходзіцца найвышэйшая адзнака Алтая і ўсёй Сібіры — двухгаловая гара Бялуха. Між тым, паходы на паўночны ўсход таксама цікавыя. Яны прынясуць асалоду не толькі навічку, але і вопытнаму падарожніку. Праўда, наконт навічкоў мы крыху перагнулі. Ні адна маршрутна-кваліфікацыйная служба слаба падрыхтаваных турыстаў сюды не пусціць. Мясціны не заселены, перавальныя шляхі даволі складаныя, бурныя рэкі, няўстойлівае надвор'е...

Але ці толькі цяжкасцямі прыцягвае гэты куток? Акрамя спартыўнага інтарэсу (ёсць многа 4-кіламетровых вышынь, якія чакаюць яшчэ сваіх адкрывальнікаў), Чуйскія горы вабяць сваёй першароднай прыгажосцю. Сто трыццаць ледавікоў! То бліскучыя ад яркага сонца, то змрочныя, прарэзаныя глыбокімі шчылінамі, з гіганцкімі разрывамі на ледападах.

Снежныя палі, палаючыя на захадзе. Імклівыя рэкі. Зялёна-блакітны Маашай і млечна-белая Актру, празрыстая Шабага і мутна-шэрая Чуя...

Уражвае горны лес. Кедры, лістоўніцы ўзбіраюцца высока, надзвычай высока, падступаючы да самага ледавіка. Гэта — Алтайская тайга. Светлая, сухая, без камароў і машкары. Многа грыбоў і ягад.

Азёры. Акадэмік Дэлане адно з іх назваў «чэмпіёнам прыгажосці». Назвы навакольных вяршынь — «Прыгажуня», «Казка» — узніклі не выпадкова.

...Наша маленькая група — пяць чалавел мінчан. Звесткі, якімі мы валодалі, былі атрыманы з літаратуры. Таму маршрут мы абралі адносна нескладаны, разведвальны. Паход пачалі з пасёлка Курай, і за два тыдні пазнаёміліся з усімі цяснінамі паўночнага схілу Біш-Ірду. Падарожжа закончылі ў Чыбіце.

Мы бачылі не толькі прыроду, дзікую і магутную. Мы бачылі, як гэта прырода вывучаецца іператвараецца чалавекам. Запомніліся сустрэчы з кіраўніком гляцыялагічнай экспедыцыі прафесарам Томскага універсітэта Тронавым. Вучоны кожны сезон адпраўляецца ў горы. Маленькая палатка, прысыпаная снегам... Вецер — і чалавек, якому ўжо 83 гады. Хіба гэта не навуковы подзвіг!

Нам надоўга запомняцца сучасны гарняцкі пасёлак Акташ і статкі славутых якаў, насельнікаў Курайскага стэпу. Паветра тут надзвычай сухое. Зімой у 50-градусны мароз снегу не бывае. Асобныя ўчасткі стэпу пакрыты арашальнымі каналамі.

**С. ТУРЭЦКІ,**
**кіраўнік паходу**

Фота аўтара

# АДКУЛЬ НАЗВА?

Летам мы падарожнічалі па Беларусі. Калі глянуць на адміністрацыйную карту рэспублікі, то ў самым кутку Гродзеншчыны, у Свіслацкім раёне, можна прачытаць назву населенага пункта — Ліхасельцы. Цікава — адкуль яна? Ветэран мясцовага калгаса Іван Салагубік расказаў нам нешта накшталт легенды:

«Было гэта даўным-даўно. Непадзлёку за ракой знаходзілася вёска Сальнікі. Сюды прыйшла бяда. Людзі пачалі паміраць адзін за адным ад нейкай таямнічай хваробы. У той час выйсце было адно — закапаць, каб задобрыць хваробу, каго-небудзь жывым у зямлю. Але сяльчане палічылі за лепшае пераехаць у іншае месца, пакінуць «чорную» вёску. Пераехалі за раку. Вось іх і назвалі ліхасельцамі».

Некалькі гадоў таму назад вёска была перайменавана ў сяло Каліноўскае — у гонар Кастуся Каліноўскага — кіраўніка паўстання 1863 года. Мясцовы калгас носіць таксама яго імя. Гаспадарка заможная. Мы з цікавасцю пазнаёміліся з яе набыткамі: добрыя ўраджаі, дамы жыхароў — адмысловыя. Вось якія яны, былыя ліхасельцы...

**М. ВІНАКУРАЎ,**
**настаўнік**




# КУРС «АХОВА ПРЫРОДЫ» Ў НАВУЧАЛЬНЫХ УСТАНОВАХ МАГІЛЁВА

З усіх форм прапаганды ленінскіх ідэй аховы прыроды і рацыянальнага выкарыстання яе рэсурсаў не больш эфектыўным з'яўляецца сістэматычнае выкладанне ў вышэйшых і сярэдніх навучальных установах курса «Ахова прыроды» з наступным залікам.

Артыкул 16 «Закона аб ахове прыроды ў Беларускай ССР» патрабуе: «З мэтай выхавання ў моладзі пачуцця ашчадных адносін да прыродных багаццяў і прывіцця навыкаў правільнага карыстання прыроднымі рэсурсамі расшырыць выкладанне асноў аховы прыроды ў школах; увесці абавязковыя курсы аховы прыроды і ўзнаўлення яе рэсурсаў у вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах з улікам іх профілю».

Згодна з загадам міністра вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР, рэктары вышэйшых навучальных устаноў павінны былі ўвесці з 1972-73 навучальнага года курс «Ахова прыроды і ўзнаўленне яе рэсурсаў» аб'ёмам 20 навучальных гадзін за кошт рэзерву навучальнага часу, які ёсць у ВНУ.

Як выконваецца гэта заканадаўства? У Магілёўскім педінстытуце толькі на геаграфічным факультэце курс аховы прыроды чытаецца ў аб'ёме 30 гадзін, а на астатніх факультэтах — скарочан да 10 гадзін. На завочным аддзяленні, апроч геафака, курс аховы прыроды не чытаецца.

У машынабудаўнічым і тэхналагічным інстытутах на выкладанне прыроды адводзіцца ўсяго 2 гадзіны ў курсе «Уводзіны ў спецыяльнасць».

З васьмі сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў горада Магілёва курс аховы прыроды не выкладаецца толькі ў музычным вучылішчы. Ва ўсіх астатніх сярэдніх навучальных установах ён выкладаецца ў аб'ёме 10 гадзін на другіх курсах з абавязковым залікам.

У бібліятэчным тэхнікуме і культасветвучылішчы працуюць двухгадовыя народныя універсітэты «Чалавек і прырода».

Ва ўсіх навучальных установах горада ёсць наглядная агітацыя на прыродаахоўную тэматыку.

Звычайна тэарэтычныя заняткі спалучаюцца з практычнай работай вучняў па азеляненню і добраўпарадкаванню сваіх тэрыторый. У медвучылішчы добра пастаўлена вопытна-эксперыментальная работа на ўчастку. Аднак сказаць, што і ў сярэдніх спецыяльных навучальных установах з чытаннем курса аховы прыроды ўсё добра, нельга.

Курс аховы прыроды выкладаюць розныя спецыялісты: два агрономы, два біёлагі, адзін хімік. Ніхто з іх не слухаў дадзенага курса, і, натуральна, кожны выкладае яго па-свойму, як умее, бо методыкі выкладання курса аховы прыроды да гэтага часу яшчэ няма. Неабходна арганізаваць курсы або семінары для выкладчыкаў аховы прыроды.

Можна сказаць, што і праграмы таксама няма. Праграма для сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, выдадзеная ў 1966 годзе, састарэла і захавалася ў некалькіх экземплярах. Яна не ўлічвае профіль розных спецыяльнасцей. Няма для гэтых устаноў і падручніка па курсу аховы прыроды.

Па ўсіх навучальных дысцыплінах ёсць навучальныя дапаможнікі — карты, схемы, табліцы, дыяфільмы і іншыя, якія адпавядаюць праграмам. А вось па ахове прыроды іх няма.

Пералічаныя недахопы даўно вядомы. Аднак вырашаюцца яны вельмі марудна. А адкладваць на потым пытанні аховы прыроды нельга.

**Н. РАТАБЫЛЬСКІ,**
**намеснік старшыні прэзідыума Магілёўскага гарсавета БТАП**

# ПАПАЎНЕННЕ ЖЫВОГА КУТКА ЗІМОЮ

**В. ЯНУШЭЎСКІ**

Што можна ўбачыць зімою ў школьным жывым кутку? Некалькі птушак, марскую свінку, некалькі акварыумаў з экзатычнымі рыбкамі — вось, бадай, і ўсё. «Не багата»,— скажаце вы. Вам адкажуць: «А каго зімою знойдзеш? Амаль усе птушкі паляцелі ў вырай, і наогул усё жывое пахавалася, паснула. Вось прыйдзе вясна — тады іншая справа». Крыўдна, калі такі адказ чуеш ад біёлага.

Мы, вядома, згодны, што існуючая праграма педінстытута яшчэ не заўсёды дае будучаму педагогу ўвесь набор неабходных практычных навыкаў і ведаў, да якіх можна аднесці і цэлы комплекс пытанняў стварэння жывога кутка і догляду яго насельнікаў і асабліва круглагадавога кантакту з навакольнай жывой прыродай. А такая магчымасць ёсць. Напрыклад, экскурсія на вадаём, у час якой можна пазнаёміцца з насельнікамі зімовага вадаёма, здабыць некалькі «экспанатаў» для жывога кутка разам з неабходнай колькасцю ежы, каб яны не загінулі з голаду ў першыя ж дні.

У час такой экскурсіі, нават калі яна праводзіцца ў лютым, дзеці змогуць засвоіць тэму «Па снежных сцяжынках». Яны ўбачаць сляды многіх жывёл і птушак, пазнаёмяцца з зімовым лесам, характарам залягання снегу, і, безумоўна, добра адпачнуць на свежым паветры. Ды і сам працэс падрыхтоўкі, правядзення адлову, транспарціроўка, размяшчэнне і далейшы догляд новых пасяленцаў жывога кутка прынясуць дзецям шмат новых турбот і дадуць новыя практычныя навыкі і веды.

Экскурсія патрабуе падрыхтоўкі як настаўніка, так і вучняў.

1. Трэба падабраць месца для экскурсіі. Яно не павінна быць вельмі далёка ад школы. Такім месцам можа быць затока ракі, яе старыца ці невялікая сажалка. Пажадана, каб настаўнік бачыў гэты вадаём летам і прыкладна памятаў размяшчэнне зараснікаў воднай раслінасці — там будзе найбольшая здабыча.

2. З сабой трэба ўзяць сачок (звярнуць увагу на мацаванне), прылады для прабіўкі лёду, прэпаравальныя ванначкі для папярэдняга разбору здабычы, пінцэты, слоікі з капронавымі накрыўкамі для транспарціроўкі здабычы, якія павінны мець прывязныя ручкі для пераноскі. Калі гэта экскурсійнае ці звычайнае вядзерца, дык яго неабходна ўцяпліць звонку. Калі гэтага не зрабіць, дык «экспанаты» могуць замерзнуць па дарозе—у вадаёме тэмпература пад лёдам заўсёды плюс 3,4° С%.

3. Папярэдне пазнаёміцца па літаратурных крыніцах з прадстаўнікамі фауны, якія могуць сустрэцца ў час экскурсіі. Добра было б правесці з вучнямі некалькі заняткаў па замалёўцы насельніцтва вадаёма і навучыць дзяцей адрозніваць па малюнках адно ад аднаго. Часцей за ўсё гэта робіцца па вызначальніку насельнікаў прэсных вод Хейсіна. Агульны матэрыял можна ўзяць з кнігі «Заалагічныя экскурсіі» Райкова і Рымскага-Корсакава.

4. Падабраць і аформіць акварыумы для жыцця навасёлаў. Калі няма акварыумаў фабрычнага ўзору, можна выкарыстаць самаробкі або набор шкляных слоікаў featureознага памеру з пяском на дне, у якіх адстаялася вада. Перад засяленнем ўсе віды акварыумаў ставяцца ў прахалодным, без ацяплення, памяшканні.

Калі ўсё гатова, пазнаёмцеся з прагнозам надвор'я на заўтра і плануйце выхад у прыроду. Склад групы, вядома, павінен быць вызначаны загадзя, колькасць — шэсць-дзесяць чалавек. На паўторныя экскурсіі можна браць і больш дзяцей. Тэмпература паветра павінна быць у межах пяці-дзесяці градусаў марозу. Ісці на экскурсію найлепш за ўсё на лыжах, а калі дабірацца транспартам, дык лыжы ўзяць з сабой.

На падыходзе да вадаёма патрэбна асцярожнасць. Пад берагам могуць

быць прамывіны ў лёдзе або палонкі. Выбраўшы месца, можна рабіць у лёдзе палонку, калі няма гатовай, і пачынаць адлоў. Не трэба дазваляць дзецям акружаць палонку з усіх бакоў, лепш, калі група вялікая, рабіць адлоў з некалькіх палонак або карыстацца некалькімі сачкамі — адны ловяць, а другія разбіраюць адлоў.

Прабіўшы ў лёдзе палонку, трэба зграбіць сачком кругавы рух па мінулагодняй расліннасці — урэчніку, разаку і інш. Сачок нельга моцна заглыбляць у іл, бо даставаць яго будзе цяжка, і здабыча будзе невялікая. Гэта можна зграбіць толькі ў канцы, калі трэба спецыяльна сабраць донных насельнікаў з верхніх пластоў ілу. Выцягнутыя расліны перакладаюцца (высыпаюцца) у прэпаравальную ванначку, дзе і робіцца адбор злоўленых жывёл у слоікі. Можна гарантаваць, што ўлоў будзе багаты і прыйдзецца стрымліваць дзіцячы азарт, каб у час спыніцца і не браць лішніх экземпляраў. Хопіць 5—6 прадстаўнікоў кожнага віду.

Пры размеркаванні ўлову нельга размяшчаць разам (і ў вялікай колькасці) драпежных і раслінаедных жывёл. Не трэба класці шмат раслін і даліваць ваду даверху. Лепш расліны пакласці ў асобную пасудзіну, і прытым толькі маладыя, бо старыя загінуць. Найлепш браць пупышкі ўрэчніку, разаку, элодэі, рагалісніку і іншых раслін, з якіх потым рэзаўюцца новыя, добра прыстасаваныя да акварыумных умоў водныя расліны.

Што можна злавіць у вадаёме? У сачок могуць трапіць плывунцы (самец і самка), дробныя плывунчыкі, ціналюбы і клапы: гладышы, грэблякі і вадзяныя скарпіёны; лічынкі ручайнікаў у доміках рознай формы і лічынкі стракоз розных відаў; павукі серабранка і радзей даламедас: разнастайныя віды бруханогіх і малюскаў (толькі звычайных відаў іх налічваецца каля 35); планарыі белая, чорная і бурая; рачкі — вослікі вадзяныя, бакаплавы, дафніі і цыклопы; лічынкі хіранамід — матылі і п'яўкі: малая ложнаконская, уліткавая і іншыя.

Часам пашанцуе на маладую калонію вадзяной губкі — бадзягі, рыбак-сяголетак — акунькоў, карпікаў, шчупачкоў, шыповак, налімаў, уюнкоў і іншых. Часам разам з ілам удаецца падняць са дна азёрную або травяную жабу, якая прыйшла ў госці да азёрнай і засталася на зіму. Ракі таксама трапляюцца.

Азёрных насельнікаў неабходна перасаджваць толькі ў халодную ваду і пераводзіць ва ўмовы жывога кутка паступова на працягу двух-трох дзён. У такой вадзе ім лягчэй дыхаць, і яны пражываюць даўжэй нават пры мінімальным корме.

Кожны акварыум пасля засялення павінен мець сваю этыкетку, а ў далейшым — асобнага свайго гаспадара і назіральніка — юната. У этыкетцы ўказваецца назва насельніка, сістэматычная прыналежнасць і асноўныя меры догляду. У асобным журнале вядзецца ўлік пасяленцаў і запісваюцца дадзеныя па іх біялогіі і значэнні ў жыцці вадаёма, наогул у прыродзе і ў жыцці чалавека. Усе насельнікі жывога кутка павінны быць выкарыстаны ў наступнай навучальнай ці пазакласнай рабоце.

# БРУЖМЕЛЬ ЯДОМЫ

Сярод шматлікай відавой разнастайнасці роду бружмелю (звыш 200 відаў) чатыры з іх даюць ядомыя плады і культывуюцца як пладовыя расліны — алтайскі, ядомы, камчацкі і Максімовіча. Для Беларусі найбольшую цікавасць уяўляе бружмель ядомы. Арэал яго натуральнага распаўсюджвання даволі шырокі і ахоплівае Усходнюю Сібір, Далёкі Усход, паўночна-ўсходні Кітай і паўночную частку паўвострава Карэя.

Бружмель ядомы — невысокі, каля паўтара метра, куст з прамастаячымі ці злёгку выгнутымі чырванавата-бурымі парасткамі і кампактнай з густымі галінамі кронай. Лісце бледна-зялёнае, дробнае, 2—3,5 см у даўжыню і 0,5—1,5 см у шырыню, апушанае з двух бакоў. Кветкі жаўтаватыя, з'яўляюцца раней, чым лісце.

Ва ўмовах рэспублікі бружмель ядомы пачынае вегетацыю вельмі рана — у першай палавіне красавіка. Вясновыя замаразкі (да −7°) на завязь пладоў не ўплываюць. Плады буйныя, да 2 см у даўжыню і 1 см у дыяметры. Даспяваюць рана — на пачатку чэрвеня, калі іншых ягад яшчэ няма.

Насельніцтва Сібіры і Далёкага Усходу бружмель выкарыстоўвае як у сырым, так і ў перапрацаваным выглядзе. Гатуюць варэнне, морс, кісель, кампот, робяць віно. Хімічны аналіз пладоў пацвердзіў перспектыўнасць гэтай расліны: утрымлівае каля 4,34% цукру, 57,3 мг/прац. вітаміну С і 0,98% кіслот.

Улічваючы ранняе даспяванне пладоў, іх вітамінную і харчовую каштоўнасць, бружмель ядомы ўяўляе цікавасць для калектыўнага садоўніцтва. Ён можа ўкараняцца на прысядзібных участках.

Некалькі слоў пра агратэхніку вырошчвання. Бружмель ядомы размнажаецца насеннем і вегетацыйна (зялёнымі і драўнянымі чаранкамі).

Пры насенным спосабе рэкамендуецца пасеў восенню. Ранняй восенню высяваць насенне не трэба, бо ўсходы не выспяваюць да пачатку зімы, і значная частка іх гіне. Веснавая сяўба патрабуе стратыфікацыі на працягу 1—2 месяцаў. Грунтэвая ўсходжасць — 70—95%.

Першыя гады бружмель расце марудна. Аднагадовыя саджанцы ледзь дасягаюць 5—6 см. За тры гады — 40—50 см. У гэтым узросце яны найбольш прыдатныя для пасадкі на пастаяннае месца.

Бружмель ядомы — расліна ценевынослівая. Яго можна садзіць у міжрадкоўях пладовага саду.

Пры размнажэнні чаранкамі, нарыхтоўку апошніх пачынаюць восенню ці на пачатку зімы. Выбіраюць добра развітыя аднагадовыя парасткі. Іх ці захоўваюць у пяску ў склепе пры тэмпературы 0+2°, ці высаджваюць ранняй вясной. Для зялёных чаранкоў выкарыстоўваюць гнуткія парасткі бягучага года адразу ж пасля адцвітання раслін. Чаранкі павінны быць з двума вузламі пупышак, і іх высаджваюць у парнікі. Тэмпература не ніжэй як +20°. Пад канец вегетацыі чаранкі ўтвараюць не толькі калюс, але і добра акараняюцца. Вясной будучага года акаранёныя чаранкі высаджваюць на градах.

Як і ўсе ягадныя кусты бружмель ядомы дрэнна пераносіць засмечанасць глебы пустазеллем, асабліва злакавым. Таму адным з важнейшых агратэхнічных мерапрыемстваў лічыцца своечасовая прапалка, асабліва пырніку.

Неабходна клапаціцца і пра абрэзку. Больш моцная абрэзка праводзіцца ўнутры кроны, меншая — звонку. Санітарная абрэзка працягваецца ўвесь вегетацыйны перыяд. Падкормка — як для ўсіх ягадных кустоў.

На заканчэнне знаёмства з бружмелем — перапрацоўка пладоў.

Варэнне. Плады заліваюць гарачым цукровым сіропам і вытрымліваюць 3—5 гадзін, пасля чаго даварваюць. На 1 кг ягад — 1,2 кг цукру.

Бружмель з цукрам. Свежыя, аднолькавай спеласці плады перабіраюць і добра мыюць. Калі вада сцячэ, ягады злёгку душаць драўляным ці фаянсавым таўкачыкам, каб была парушана толькі скурка. Потым падаграюць да 60—65 градусаў і засыпаюць цукрам (1 кг на 1,5 кг здробненых пладоў). Потым усю масу перамешваюць, награюць да 70 градусаў і расфасоўваюць у пастэрызаваныя шкляныя слоікі.

Бружмель цёрты з цукрам. Вымытыя плады праціраюць праз рэшата з нержавеючай сталі і змешваюць з цукрам. 1 кг пюрэ — 0,5 кг цукру. Масу грэюць, расфасоўваюць у гарачы шкляны посуд. Пастэрызуюць. Паўлітровы слоік — 18 мін., літровы — 25.

Ужыванне ў медыцыне. Прымяняецца пры язвах і лішаях, адвар рэкамендуецца для паласкання рота і горла. Адварам прамываюць вочы пры кан'юнктывітах. Лечаць бружмелем і ад вадзянкі.

**А. ЧАХОЎСКІ, Д. ШАПІРА,**
**кандыдаты біялагічных навук**

**Яўген КРУПЕНЬКА**

# ЗОРКІ НА РАБІНЕ

Пад рабінаю —
Мароз
Стаў,
Задраў
Угору нос.
На рабіне — гронкі,
Яркія, як зоркі.
Прыляцелі сінічкі, іх сталі зрываць,
А зоркі ўсё роўна гараць і гараць.
І вырашае
Мароз
Усур'ёз:
«Я іх замарожу, паплачуць да слёз,
А самую яркую гронку-зару,
Як замарожу, дамоў забяру».
Марозу
Да гронак
Рукой не дастаць,
Штодзень
Яму
Пад рабінай
Стаяць.
Як толькі мароз на рабіну прысеў,—
Нос, нібы гронка, пачырванеў.

# СОЙЦЫ ПАЙШОЎ ДРУГІ МЕСЯЦ...



ГЭТЫ РАСКАЗ пра жыццё сойкі, якую звалі Зосяй і якая ўжо месяц жыла сярод людзей. За гэты час у яе выраслі крылы, хвост і яна навучылася лятаць.

Задаволеная, што яе выпусцілі з вальеры, Зося мо на хвіліну прыпынілася на яблыні і імкліва паляцела да суседа Уладзіміра Пракопавіча, абляцела вакол яго хату, і, заўважыўшы, што таго няма дома, падалася адразу да другога суседа — Сцяпана Паўлавіча.

Той якраз падразаў вусы клубніц і рыхліў міжраддзе. Зосі гэта толькі і трэба было. Яна скакала каля самых яго рук, вурчэла ад задавальнення, падбірала на ўзрыхленай глебе каменьчыкі і хавала пад лісце. Але калі Сцяпан Паўлавіч працягваў руку, каб узяць Зосю, яна хуценька адскоквала ў бок, узлятала побач на яблыню, скакала з галінкі на галінку, разглядала яго і, нібыта дражнілася, насміхалася: «Ну, паспрабуй, паспрабуй мяне злавіць...»

Зося была вельмі кампанейская. Без людзей не магла пабыць і паўгадзіны. Брала з рук ежу, садзілася на плячо, але надта не любіла, калі яе бралі ў рукі.

За ўвесь дзень Зося толькі два разы прылятала дамоў, нядоўга трымалася каля хаты і знікала. Чамусьці думалася, што яна прылятала паведаміць, што жывая і здаровая.

...Пад вечар неба зацягнулі хмары. Хутка, не па-летняму, пачало цямнець, а Зося не вярталася. Знайсці яе ўвечары ў чужых садах было немагчыма.

Так, упершыню яна засталася начаваць на волі, а не ў вальеры, і невядома дзе.

Удалечыні былі відаць бліскавіцы, чуліся глухія раскаты грому. А дзе Зося цяпер, што з ёю будзе, калі навальніца прыйдзе сюды, як яна перанясе яе, бо нават удзень, калі ішоў цёплы, з вясёлкаю дожджык, яна, бедалага, мітусілася, гублялася, не ведала, што рабіць, куды схавацца, пакуль не навучылася выцягвацца ў струнку на галінцы, з паднятай угору дзюбай. Прыплюшчыўшы вочы, яна нерухома сядзела. Вада сцякала з яе, яна не прамакала наскрозь.

Праз нейкі час наляцеў вецер. Ад моцных парываў захісталіся, зашумелі дрэвы, загудзелі правады. Здавалася, што навальніца прыйшла і сюды. Але гэта была толькі ветравая хваля. Яна пракацілася і зноў стала ціха, як у цёмным падзямеллі. Не чулася нават раскатаў грому, толькі ўдалечыні з усіх бакоў неба на імгненні асвятлялася маланкамі.

Назаўтра раніцою Зося знайшлася ў Хмялькоў — гэта праз два дамы ад нашага.

Хмялькі — людзі гаманкія, шумлівыя. Сям'я вялікая. Уставалі яны рана. А Зосі толькі і дай — больш людзей і больш гамонкі.

Яна паўдня трымалася ў іх садзе, залятала ў альтанку, на веранду. Вядома, у іх яна атрымлівала і смачныя пачастункі. Хто ж ўтрымаецца, калі блакітнакрылая, з дзіўным чубам птушка бярэ з рук мяса, рыбу, ягады, хлеб, цукеркі, арэхі. Кожны стараецца пачаставаць найсмачнейшым. Ды і не кожны такую прыгожую птушку як сойку бачыў зблізку. Вось яго і перапаўняе радасць, ён частуе яе ўсім, нават і тым, чым не трэба. Я часам папракаў такіх шчодрых, што яны псуюць птушку, што не трэба яе карміць, бо збіраўся вярнуць яе ў лес, а тыя, як згаварыўшыся, адказвалі: «Яна ў нас госця, а госцю трэба частаваць». І частавалі, хто чым хацеў.



Апоўдні яна ўсё ж прыляцела дамоў. Есці нічога не ўзяла. Была сытая.

Дзень быў сонечны, спякотны. Зося пачала купацца. Села на край бочкі, напоўненай вадой, акунула некалькі разоў галаву, а пасля, перавярнуўшыся, апусціла ў ваду хвост. Потым скокнула ў ваду на некалькі секунд і залапатала крыламі. Калі яна выскачыла, была падобна на мокрую курыцу, на ёй не было ніводнага сухога пёрка.

Пасля гэтых водных працэдур лятаць было цяжка. Таму яна паблізу веранды села на галінку яблыні, асветленую сонцам.

Дзіўна, але Зося сушылася, падстаўляючы сонцу то адзін, то другі бок.

Калі трохі абтрусілася і абсохла, задрамала.

З гадзіну адпачывала. Прачнуўшыся, пачала пацягвацца, прыхарошвацца. Спачатку распусціла веерам адно крыло, потым другое, выцягнула па чарзе лапкі, якія зацяклі, потым доўга распраўляла і чысціла дзюбай пер'е.

Павячэрала яна дома і паляцела вандроўнічаць па суседніх садах.

Мы яшчэ не адважваліся дазваляць Зосі начаваць на волі, бо яна была яшчэ маладая, нявопытная, не навучылася адрозніваць, хто яе сябар, а хто вораг. Ноччу яна магла трапіць у кіпцюры любому кату, якіх нямала шнырыла па садах, мог і сабака задушыць.

Недзе яна палятала і прыцемкамі вярнулася дамоў. Відаць, мінулай ноччу атрымала добрую навуку, калі апынулася без надзейнага даху над галавою. Зося без пратэстаў, без шуму і незадаволенага вурчання далася ў рукі і ахвотна скокнула ў вальеру, калі паднеслі яе да адкрытых дзверцаў.

Раніцою, пасля снедання, Зося лятала каля дома, дадзёўбвала пачатыя некалькі дзён таму назад яблык, купалася, праганяла з саду сініц, вераб'ёў і вала-







сянак, хавала пад лісцікі ягады, забівала ў розныя шчылінкі мяса, якое засталося ад снядання і абеду. Некалькі разоў драмала на яблыні і, нібыта забылася, што можна пашырыць межы сваіх вандровак,— нікуды не ляцела. Увечары сама заляцела ў вальеру.

Назаўтра спатрэбілася ўсёй сям'і ехаць у горад. Зосі на абед і вячэру пакінулі кавалачкі мяса, хлеб, ячныя крупы.

Вярнуліся вечарам. Зосі не было. Яна была там, дзе шмат людзей,— гасцявала ў Хмяльковых. Давялося забраць. Яна не пратэставала, калі я ўзяў яе ў рукі, хутчэй за ўсё гэта было для яе нечаканасцю, бо каля вальеры бурна праявіла сваю незадаволенасць, паказаўшы свой характар: некалькі разоў моцна і злосна крыкнула і адчайна пачала хапаць дзюбай за пальцы, каб укусіць, не давала пагладзіць сябе па галоўцы, хоць вельмі любіла гэта. У вачах была нейкая злосць, якую раней не даводзілася бачыць.

Сонца зайшло. У гэты час Зося звычайна ўжо драмала, а сёння ў вальеры скакала з галінкі на галінку, чаплялася за сетку і раздражнёна вурчэла.

Канешне, мы былі трохі вінаваты перад Зосяю. Самі паехалі, пакінуўшы яе адну,— а яна адзіноты не выносіла,— ды яшчэ і ў вальеру пасадзілі, дзе нельга ні палятаць ды наогул нічога няма цікавага. Яна так пакрыўдзілася, што нават не паглядзела на апетытныя кавалачкі ялавічыны.

Каб неяк аблегчыць яе пакуты, з вальеры Зосю перанеслі на веранду. Тут, сярод людзей, яна адразу ажыла, павесялела і даравала, што з ёю так абышліся. З рукі, распусціўшы трохі крылы, хапала тое ж мяса, на якое хвілін пару таму назад не глядзела, і задаволена вурчэла.

Наеўшыся, дала сабе волю. Лятала пад столлю на верандзе. Прасторы на верандзе няшмат, таму палёт яе быў замаруджаны. У такім палёце добра відаць павольныя ўзмахі крылаў, хвост веерам і апушчаны ўніз — для тармажэння. Потым села на стол, скакала з месца на месца, забаўлялася коркам ад бутэлькі, цягала па стале газету, на дзіва смешна паварочвала галаву і то адным, то другім вокам з цікаўнасцю разглядала людзей на фатаграфіі. Неўзабаве яе ўвагу прыцягнула карычневая кнопка на будзільніку. Яна пачала браць яе ў дзюбу, дзяўбці, але ніяк не магла падчапіць. Ці ад расчаравання, ці са злосці, што не магла ўзяць кнопку ў дзюбу, надзьмулася і некалькі хвілін пасядзела спакойна, потым пашкрабла лапкай галаву і скокнула да люстра. Убачыла сябе і застыла. Доўга разглядала свой партрэт: то прысядала, то прыўзнімалася, то вельмі засяроджана глядзела вочы ў вочы. Нават хацела дзюбнуць тую сойку, якая была ў люстры. Але яе дзюба наткнулася на шкло. Ад нечаканасці Зося зляцела са стала і села на сваё любімае месца — на адчыненыя дзверы. Неяк дзелавіта яна адрывала са сцяны маленькія кавалачкі шпалеры і забівала ў шчыліну, за налічнік. Але калі побач пралятала муха, яна імгненна хапала яе, моцна шчоўкнуўшы дзюбай.

Здавалася, што на верандзе, у людской кампаніі яна не сумавала, адчувала сябе добра.

Сцямнела, уключылі электрычнае святло. На яго, здаецца, Зося не звярнула ніякай увагі, бо цяпер яна была занята больш важнаю справаю — чысціла дзюбу, пер'е і раз-пораз узмахвала крыламі. Відаць, трэніравала іх, трэніравала для будучых палётаў.

Начавала Зося на дзвярах.

Недзе а шостай гадзіне раніцы яна пабудзіла мяне ціхім, але настойлівым голасам. Зося заўсёды падавала гэткі голас тады, калі хацела есці або тады, калі я праходзіў міма яе і не пачынаў размову, прыкладна, так: «Ну, як справы? Есці хочаш?»

Учора яна дзюбаю забіла ў шчыліну паміж дзвярнымі дошкамі кавалачак мяса. Паглядзеў, ці не забылася яна на яго. Мяса не было. Значыць, успомніла, з'ела. Але ёй гэтага кавалачка было мала.

Адчыніў дзверы веранды, але Зося не вылятала. Было відаць, што чакала снедання.

Седзячы на стале, узмахваючы крыламі, яна з нейкай паспешлівасцю і прагнасцю хапала з рукі кавалачкі мяса. Як толькі насыцілася, адразу пырхнула ў дзверы і, нідзе не спыняючыся ў нашым садзе, паляцела на хату суседа, села на канёк даху, пераляцела на комін, а потым паднялася яшчэ вышэй — села на провад высакавольтнай лініі. Так высока яна ні разу яшчэ не паднімалася.

Але Зосі ў гэты дзень не пашанцавала, не магла яна павандроўнічаць, бо ўсчаўся вецер, нагнаў хмары, зацерушыў дробны дождж. Надвор'е сапсавалася. Нібыта і не было ўчарашняй спякоты.

Дзьмуў парывісты, халодны паўночны вецер. Над галавою віселі шэрыя нізкія хмары. Аб якіх палётах тут было думаць. Нават непаседлівыя і задзірыстыя вераб'і некуды пахаваліся ад непагадзі. Зося таксама нікуды не ляцела. Амаль увесь дзень скакала па верандзе або ціхенька сядзела на сваёй яблыні, распушыўшы пер'е, якое раздзьмуваў вецер. У дрэннае надвор'е яна нікуды не жадала ляцець, не збіралася пакідаць дом, дзе вырасла.

Нечаканае пахаладанне прымусіла і людзей хавацца ў хатах. Нідзе нікога не было відаць. Стаяла тая прыродная цішыня, якая парушалася толькі парывамі халоднага ветру ды шумам дажджу. Не парушала гэтага стану і Зося. Нават на верандзе яна не гарэзнічала так, як у сонечныя дні.

**Дз. БЯСПАЛЫ**





Яраслаў
ПАРХУТА

# НА ЗЯМЛІ МАЛОЙ РЫТЫ

## ДАЛЁКАЕ СВІТАННЕ

Мы часцей за ўсё пераносімся ў думках у той, заўтрашні дзень. І, пэўна, таму, каб уявіць сабе, якія радасці і спадзяванні ён прынясе нам, якімі шчодрасцямі адорыць наша звычайнае, чалавечае жаданне.

Калі ўпершыню ступіш на зямлю Малой Рыты, чамусьці паводзіш сябе наадварот: нечакана пачне абуджацца дзіўнае жаданне зазірнуць не ў заўтра, а вярнуцца ва ўчарашні, той далёкі дзень, калі ў гэтым краі не было яшчэ ні шырокіх асфальтаваных дарог, ні шматпавярховых гарадскіх будынкаў, ні сучасных вёсак абапал ажыўленых магістралей. І перад вачамі паўстане тады тое, даўняе, без чаго нельга было б параўнаць сённяшняе, без чаго не ўявіў бы сабе і заўтрашняга.

У той дзень, напэўна, над гэтым краем стаяла таксама ціхая і задуменная раніца. На лясістых узвышках сярод непралазных балот спакойна пасвіліся табункі танканогіх аленяў і чуйных тарпанаў, ганарлівых тураў і самавітых зуброў. У зарасніках сакавітай балотнай травы спакойна гаманілі шэрыя гусі, а ў ціхіх затоках грацыёзна плавалі прыгажуны лебедзі. Усе яны — і птушкі, і звяры з цікаўнасцю пазіралі на незвычайных прышэльцаў, якія на плытах па азёрах і пратоках пракладвалі сабе дарогу ў іх спрадвечныя ўладанні.

Апранутыя ў шкуры звяроў, прышэльцы час ад часу прычальвалі да берага і дзіваваліся ўсім гэтым багаццем. Бо там, адкуль яны выбраліся ў такі далёкі і рызыкоўны шлях, усяго гэтага было надзвычай мала.

Выбраўшы больш надзейны лясісты ўзгорак, чалавек ступіў на незнаёмую зямлю. За час падарожжа прытупіліся каменныя нажы, паламаліся наканечнікі стрэлаў, павышчэрбваліся крамянёвыя сякеры. І тады зямля Малой Рыты паспачувала. Яна сказала: «Ты — чалавек, і рукі твае за час падарожжа не забыліся разбіваць каменную камлыгу, адточваць з упартага крэменю патрэбныя прылады... Дык бяры крамянёвую камлыгу»...

Абнадзеены, чалавек з удзячнасцю глядзеў на першыя дары гэтай зямлі, як на сваё збаўленне і надзею. І вочы яго святлелі. А калі на агрубелую ад нялёгкай працы далонь леглі амаль ювелірнай работы наканечнікі стрэл і вострыя нажы, ён упершыню за апошні час уздыхнуў з палёгкай.

Потым жанчыны ладзілі жытло, збіралі ў густых зарасніках ляшчыны туга набітыя саладкаватым мякішам арэхі. А яны, мужчыны, хадзілі вакол возера з твaністымі берагамі, аддаляліся на сушэйшыя мясціны, дзе раслі векавыя дрэвы, і высочвалі дзічыну. Яе сустрэць было няцяжка. Куды цяжэй было падпаўзці да птушкі ці звера на надзейную адлегласць, каб не спужаць іх марна выпушчанай стралой. Толькі тады, калі выконваўся даўні і непарушны закон, да звону нацягвалася цеціва і страла рабіла сваю імгненную справу...

Яшчэ і цяпер то ля Арэхаўскага возера, то на пясчаных градах-узгорках крыху ўбаку ад ракі дзеці знаходзяць паляўнічыя прылады нашых далёкіх продкаў. Крамянёвыя сякеры, тонкія, нібы кончык нажа, наканечнікі стрэлаў, крыху большыя — для коп'яў, каменныя скрабкі, нажы... Цэлы скарб!

Зірнеш на той скарб і ўяўляецца: з якой радасцю сустрэла паселішча першыя трафеі гэтай зямлі! Пакуль здабывалі агонь і разводзілі вогнішча, паляўнічыя адпачывалі. А потым з прысаку вымалася смажаніна, дзялілася пароўну і пачыналася святочная вячэра ў гонар гэтага краю і мужнасці чалавечай.

На світанні ў табары ля Арэхаўскага возера станавілася суцішна. Адзін толькі сіні лес не пераставаў яшчэ доўга здзіўляцца ўсяму гэтаму...

## А ШТО ЗА СІНІМІ ЛЯСАМІ!

Міналі гады. Ля Арэхаўскага возера вырасталі ўсё новыя і новыя паселішчы. Нашчадкі тых, прышлых, людзей ужо лічылі сябе тубыльцамі. Але іх таксама даймала спрадвечная прага пазнання навакольнага. «Што за сінімі лясамі?» — гадалі яны і час ад часу адважваліся прыадчыніць і гэтую завеску таямнічасці.

На поўдзень можна было прабрацца пратокамі да каскада азёр і, трапіўшы на возера Лукі, а з яго на рачулку Капаеўку, потым ужо гнаць чаўны ажно да самага блакітнага Буга. На поўнач прабіцца было цяжэй. Зручныя пратокі Арэхаўскае возера злучылі толькі з Олтушскім і Дварышчанскім азёрамі. Далей шлях абрываўся. Навокал былі непраходныя балоты ды лясы дрымучыя. Праўда, з Арэхаўскага возера быў яшчэ адзін водны шлях на поўнач — пакручастай рачулкай з тванiстымі берагамі. Але трэба было патраціць нямала часу і сіл, каб пераадолець па вузенькай істужцы шмат кіламетраў, каб човен ці плыток, нарэшце, загойдаўся на хвалях большай ракі. Тая рака магла ўжо даволі зручна данесці пасудзіну чалавека да Мухаўца, а там — рукою падаць да таго ж Буга.

Чалавек прагнуў зносін з навакольным светам, і той узбагачаў яго вопыт, розум. Невядома, адкуль прыйшла ў гэтыя мясціны цывілізацыі бронзавага веку — з поўначы ці з поўдня — але і яна, хоць на шмат стагоддзяў пазней, а дакранулася да арэхаўскіх паселішчаў.

...Дзесяць гадоў таму назад мне надзвычай пашанцавала. Было гэта зімой. Дварышчанскае возера надзейна скаваў студзеньскі мароз. Настала выключная пара парыбаліць, і мы падаліся туды цягаць акунёў. Не паспелі адвесці душу, як прыехала з Арэхава рыбалавецкая брыгада, прабіла безліч палонак і зацягнула нерат.

Вось калаўрот рыпнуў апошні раз, у лазовыя кашы выбрана з куля рыба, накручаны на бярозавую жэрдку і прыстаўлены да борта машыны — сушыцца — капронавы нерат. Запозненыя кроплі вады паволі сцякаюць з карычневых нітак і, не паспеўшы ўпасці на лёд, застываюць белаватым шротам. Раптам сярод тых ледзяных шрацінак заўважаю невялікага акунька. Ён заблытаўся ў вочках нерата і застыў, нібы раздумваючы: падаваць аб сабе знак ці не. Адразу чамусьці ўзнікла жаданне вызваліць небараку і адпусціць на волю. Падыходжу да нерата і ад нечаканасці спыняюся: гэта не акунёк, а... блешня. Пакуль вызваляў яе, пазбягаліся і хлопцы, і рыбаловы. Дзівуюцца:

— Во гэта то гэта!

— Мабуць, доўга праляжала на дне,— з украінскім акцэнтам прамовіў пажылы рыбак.— Уся ажно чарнютка!..

Блешня, сапраўды, была незвычайнага — зеленавата-чорнага колеру. Памеры яе таксама здзіўлялі: сантыметраў дванаццаць у даўжыню і ад двух да трох — у шырыню. І форма — у выглядзе рыбкі, галава якою завяршалася даволі масіўным крукам з «пяткай».

— Мабуць, не такія рыбінкі калісь лавіліся ў гэтым азяровi,— зноў прамовіў пажылы рыбак, зірнуўшы на мой улоў, і гукнуў сваім напарнікам: — Поіхалы!..

Яшчэ жывучы ў тых мясцінах, я часта задаваў сабе пытанне: адкуль прывезлі ў гэты край медзь? З Закаўказзя? З Еўропы? І адкуль пайшла назва аднаго з суседніх азёр — Мяднянскае, а вёскі — Медна? Мо некалі і тут былі радовішчы гэтага металу? Умелі ж палешукі спакон вякоў здабываць балотную руду. Пакладаў яе на Палессі багата. Пра многае гавораць і назвы вёсак: Рудня, Рудаўка... Былі ж некалі свае жалезаплавільні. А чаму не магло быць і медзеплавільняў? Драўнінны вугаль нарыхтаваць нядоўга. Дарэчы, плавільні тыя маглі працаваць не толькі на драўнінным вугалі.

Ва ўрочышчы Крымно, што непадалёку ад вёскі Зеляніца, да нядаўняга часу былі вялікія паклады торфу. Масіў асушылі, амаль двухметровы тарфяны пласт выбралі на ўгнаенні, плошчу разраўнавалі і раздалі зямлю калгаснікам. Сцяпан Бягеза таксама атрымаў там соткі і, калі пачаў садзіць бульбу, толькі намучыўся — то там, то тут плуг чапляўся за нешта цвёрдае, скрыгатаў і ажно падскокваў. «Адкуль тут камяні?» — думаў Бягеза, ідучы за плугам. Але, калі нарог выдраў з зямлі велічынёю амаль з конскую галаву камлыгу і яна ўспыхнула на сонцы цёмна-чырвоным агнём калгаснік спыніў каня.

— Дзіва! — сказаў ён жанкам-садзальшчыцам.— Каменны вугаль!..

Гэта, сапраўды, быў каменны вугаль. І, мяркуючы па ўсім, высокай якасці. Каб праверыць тую якасць, Бягеза прывёз камлыгу дадому, распаліў печ і зварыў — упершыню за сваё жыццё! — на мясцовым каменным вугалі вячэру...

А чаму не маглі здабываць той «чорны камень» нашы продкі? Калі не ў тым урочышчы, дык у іншым? Пра тое, што яны не палохаліся нялёгкай працы, сведчаць шматлікія каналы, пракладзеныя праз балоты, пэўна, яшчэ ў часы ўзнікнення ў гэтай мясцовасці земляробства і жывёлагадоўлі. Самы буйны канал — Арэхаўскі. Ля возера Лукі, што на тэрыторыі суседняй Украіны, брала свой пачатак балоцістая рачулка. Яе таксама раскапалі, ачысцілі, і да нашых дзён яна носіць імя Капаеўка. А рачулка, якая выбягае з Арэхаўскага возера? Яна таксама раскапана і выраўнавана ў многіх месцах. Маларыта — так назвалі яе пазней людзі.

Цікавая гісторыя ўзнікнення горада Маларыты. Гэта было ўжо недзе ў пятнаццатым стагоддзі. Займацца паляваннем, рыбнай лоўляй, разводзіць жывёлу ці сеяць жыта — справа нялёгкая ды і ненадзейная. І тады людзі знайшлі выйсце. То там, то тут пачалі ўзводзіць тартакі і перапрацоўваць лес, які быў побач і мог даць неблагі прыробак.

Некалькі тартакоў з'явілася і на беразе Маларыты, у тым месцы, дзе рака рабіла паваротку і бегла далей, каб праз які дзесятак-другі кіламетраў зліцца з больш мнагаводнай Рытай. Неўзабаве побач з тымі тартакамі ўзнікла і паселішча. Ужо ў летапісах 1566 года яно ўпамінаецца пад назвай Рыта Малая...

Цяпер Маларыта — гарадок-прыгажун, раённы цэнтр, а Маларыцкі раён звязан дарогамі-артэрыямі са шматлікімі гарадамі Беларусі і Украіны. І толькі, як і раней, лясы падступаюць з усіх бакоў да паселішча. І калі які жыхар Малой Рыты ці таго ж Арэхава захоча даведацца, што за тымі сінімі лясамі, перад ім не будзе ўзнікаць ніякай праблемы. Сядай на цягнік ці аўтобус і едзь, куды табе трэба!..

Але як бы далёка не ад'ехаў чалавек, а праз некаторы час у ім «загаворыць» кроў продкаў, і ён вернецца на зямлю Малой Рыты, дзе кожная хата духмяніць сасною, дзе так непаўторна гучыць матчына мова...

## МЫ ЕДЗЕМ НА СІЦЫЛІЮ

— А ведаеш,— сказаў аднойчы Мікола,— давай на Сіцылію паедзем. Пад Маларытай цяпер рыбіны талковай не зловіш. А там — карасі, што лапці... Душу адвядзём, салаўёў паслухаем...

Я ўсміхнуўся, пачуўшы пра салаўёў, бо прозвішча Міколы было... Салавей. Чулы таварыш, з лагоднай, як у дзяўчыны, душой і спагадлівым да чужога клопату сэрцам, Салавей меў адну слабасць — любіў ні з таго, ні з сяго адлучыцца з дому, каб хоць крыху пабыць сам-насам з прыродай, зліцца, як ён казаў, з ёю душой. І хоць жонка часцяком поедам ела за такія адлучкі, але ён усё ж знаходзіў час і адпраўляўся ў падарожжа.

На гэты раз выбар паў на Сіцылію, і Мікола ўжо не мог уседзець дома.

Каб трапіць з Маларыты ў Сіцылію, трэба спачатку праехаць добра ўбітай дарогай ледзь не да самага Дварышчанскага возера, звярнуць налева, і тады пакручастымі сцежкамі мо з гадзіну віхляць па пыльных масівах асушаных тарфянікаў. І калі надакучыць гарцаваць на мулкім сядле і вы пачняце ў душы каяцца, што выбраліся ў гэты шлях, раптам нібы з-пад зямлі, вынырнуць некалькі прысадзістых дубоў з дзвюма хаткамі пад імі. Гэта і ёсць Сіцылія.

Людзі назвалі гэтую мясціну Сіцыліяй, пэўна, таму, што яна — узвышша плошчай на два-тры гектары — ляжала сярод бязмежнага мора колішніх непраходных балот. Тут і цяпер існавалі даўнія законы астравіцян: адлучацца з «вострава» толькі па вялікай пільнасці, не рабіць ніякай шкоды наваколлю і заўсёды быць уважлівым да чужога чалавека... І калі ў бліжняй хаце адчыніліся дзверы, а на парог выйшаў у белай сарочцы і такіх жа белых нагавіцах дзядок і прызыўна замахаў нам рукою, мы прынялі гэта як належнае і падрулілі ледзь не да самага ганка.

— Дак стаўляйце, хлопцы, свайго каня пад каторы дуб.— сказаў дзядок.— Сонца не будзе смажыць...

Пад дубамі заглушылі матор. Пакуль строілі свае вуды, дзядок сядзеў побач і хваліўся:

— Ого, Сіцылія! Дак тут і некалі было рыбы плойма!

Мы спусціліся з дзядзінца, ступілі на мяккую, акуратна выстрыжаную касілкамі зялёную коўдру лугавіны і падаліся да паваротки. Калісьці тут была рака, але меліяратары зрабілі сваю справу — выпрасталі старое рэчышча, а непралазную багну абапал яе ператварылі ва ўрадлівую сенажаць. Шаломы-стагі, якія то там, то тут узвышаліся над зялёным морам шаўкавістай атавы, сведчылі аб іх працы.

Карасі чамусьці не чапляліся. Але мы сядзелі, не варушыліся, баючыся спудзіць сваю надзею.

Сонца пачало ўжо хіліцца долу, як да нас прыбег гаспадар Сіцыліі і пачаў апраўдвацца:

— Дак я ж вінаваты перад вамі!.. Месяц павярнуў на малодзіва — карась чапляцца не будзе!

Але якраз у гэтую хвіліну Міколаў паплавок уздрыгануўся і рашуча пайшоў пад ваду. Падсечка, прыемны звон нацягнутай лёскі — і да Міколавых ног шмякнулася нешта чорнае.

— Дак, можа, гэтых рагачоў толькі і налавіце,— раптам ажывіўся дзядок і пачаў пасабляць Міколу вызваліць вуду ад няпрошанай рыбіны.

Прызнацца, такой рыбы я нідзе не сустракаў. Чорная, з жабінай галавой і белаватым чэравам, узброеная на спінным і бакавых плаўніках трыма вострымі шыпамі, яна здавалася страшыдлам.

— Канадскі сомік! — сказаў Мікола і выкінуў таго рагатага чорта назад у раку.

Нечакана стала шарэць. Крэкчучы, патупаў на Сіцылію дзядок. І Мікола нібы схамянуўся:

— Заначуем. А на золку нешта ды будзе!..

Зматалі вуды і падняліся на Сіцылію. Каб не перашкаджаць людзям, пад крайнім дубам развялі невялічкае цяпельца і дасталі свае прыпасы. Падышоў гаспадар, паставіў на зямлю спатнелы гарлач малака, сказаў: «Дак частуйцеся, хлопцы!» — і апусціўся на дол, па той бок вогнішча. Было ад усяго гэтага неяк шчымліва добра. Ці то ад цяплыні, што сыходзіла ад нашага цяпельца, ці то ад начной парнасці, а хацелася так вось, раптам, кінуцца на зямлю, легчы тварам дагары і, суцішыўшыся, праляжаць да самай раніцы.

— А як вы, дзеду, жывяце тут, сярод балота? — раптам запытаўся Мікола.

— Дак мы тут нарадзіліся,— у спакойным роздуме адказаў дзядок.— Дак як жа пакінуць зямлю гэту...

Недзе ў бліжніх зарасніках ляшчыны азваўся першы салавей. Паспрабаваў свой голас, прыслухаўся, паспрабаваў другі раз — і так заліўся песняй, што, здавалася, канца і краю не будзе таму дзіву. Пры святле цяпельца відно, як па-дзіцячы, даверліва ўсміхаецца Мікола, як знікаюць на дзедавым твары зморшчынкі. А салаўі ўжо спрэс абступілі нас. То там, то тут абуджаліся іхнія флейты і стараліся адна перад адной, як на спаборніцтвах. Заўважаю: дзядок, з хітраватай усмешкай на твары, загінае пальцы правай рукі... Потым шэптам гаворыць, звярнуўшыся да Міколы:

— А гэны што справа, пераплюнуў гэнага... Ажно восем каленяў вывеў!..

Мяне цікавіла іншае і я, выбраўшы зручны момант, калі дзядок перастаў загінаць пальцы, запытаўся:

— Дзеду, усё ж адкуль тут сомік-рагач узяўся?

— Дак з Канады, гавораць, прыплыў! — нечакана бадзёрым голасам адказаў гаспадар... Сіцыліі.

Салаўіная сімфонія абарвалася. Спевакі, мабыць, стаміліся ці вырашылі перавесці дух, каб праз якую хвіліну зноў грымнуць над сцішанай начной зямлёй...

### ГОСЦЬ З ДАЛЁКАЙ КАНАДЫ

Дзед з Сіцыліі меў рацыю. Сомік-рагач на зямлю Малой Рыты прыплыў, сапраўды, з далёкай Канады. Даведацца пра гэта давялося значна пазней — з падання, што і па сённяшні дзень жыве між гэтых людзей.

Было гэта ў сярэдзіне мінулага ці на пачатку нашага стагоддзя. У ваколіцах Малорыты пасяліліся два памешчыкі, і абодва — адзін ва ўрочышчы Карпін, другі — каля вёскі Збураж — пачалі ў сажалках разводзіць карпаў. «Фірмы», вядома, канкурыравалі. Збуражскі памешчык не вытрымаў і вырашыў падставіць падножку суседу — прывёз з Канады тое рагатае страшыдла, употайкі падкінуў у карпінскія сажалкі і думаў, што гэты пражэрлівы сомік звядзе са свету ўсё рыбіна пагалоўе суседа. Але пралічыўся. Канадскі госць стаў незаменным санітарам, і справы рыбавода-суседа пайшлі ўгору. І збуражскі памешчык узлаваўся на такую несправядлівасць, плюнуў на марны занятак, спусціў свае стаўкі і некуды з'ехаў. А сомік тым часам пачаў рассяляцца за межы карпінскіх сажалак і гуляць на страх рознай рыбінай драбязе і радасць рыбаловаў.

Нерастуе сомік пазней за іншых рыб — калі зацвітаюць жыты і толькі на пясчаных мясцінах, а ікру сваю ахоўвае старанна, як і наш рачны сом, выкапаўшы неабходныя паглыбленні-гнёзды.

Незвычайны нораў прышэльца добра вывучылі мясцовыя людзі. Яны сцвярджаюць таксама, што, нягледзячы на сваю пражэрлівасць, сомік расце не так ужо і хутка. Жыхар Олуша Мікалай Крэнь некалі правёў такі эксперымент: цэлы вечар лавіў тых рагачоў, выбіраў аднолькавых па памеру, адразаў ім хвастовае апярэнне і адпускаў назад у возера. Хлопцы-суседзі пасміхаліся: дарэмны занятак! Але праз два гады Крэнь у той жа затоцы вылавіў ім жа мечаных рыбін. Яны прыкметна патаўсцелі, але ў даўжыню прыбавілі толькі тры сантыметры.

Па ўсім відаць, што канадскі госць не можа дасягаць больш-менш буйных памераў, хаця, як сцвярджае той жа Крэнь, ён падчапіў аднойчы на вуду ў Олтушскім возеры соміка вагой амаль у 700 грамаў, хаця ў Арэхаўскім возеры злавіць гэтую рыбу вагой 300—400 грамаў не такая ўжо рэдкая з'ява. Брацца на вуду ён пачынае з вясны і не супакойваецца да восені, лепш — у другой палавіне дня і вельмі добра — вечарам і ноччу. Рыбакі дзяржлову шмат бяруць сомікаў жакамі, сеткамі і іншымі прыладамі.

У нашай рэспубліцы ёсць нямала вадаёмаў — азёр, сажалак, рэчак, меліярацыйных каналаў,— дзе можна паспяхова разводзіць гэтую рыбу. Але ні нашы іхтыёлагі, ні рыбаводы, ні спецыялісты з Украіны на гэта не звяртаюць пакульшто ніякай увагі. А варта было б. Сомік-рагач заслугоўвае гэтага.

(Працяг будзе).

# ЖЫВЫ ЛЕС



Х. С. Хрышчановіч

Жвавы, рухавы. У гутарцы перахоплівае ініцыятыву. Рады, калі сказанае ім, чалавек успрымае. У яго вялікая працоўная біяграфія. Ад радавога раённага інспектара — да намесніка міністра фінансаў рэспублікі. Была вучоба, былі грымотныя гады. Камандаваў батарэяй. Увесь час на пярэднім краі. Браў Духлінскі перавал...

— Люблю яснасць! Блага, калі не ведаеш, дзе нічыйная паласа... А ў нас было такое. Пасля вайны я працаваў у Закарпацці. Колькі маіх сяброў-фінансістаў загінула ад бандэраўскіх куль...

Яму ёсць што ўспомніць. Але ён не любіць хваліцца. Кораценька, вельмі кораценька расказаў аб сваіх, бадай, самых яркіх гадах.

— Я ўжо і той і не той Хрышчановіч,— успамінае Харлампій Сцяпанавіч.— Я — пенсіянер, з некаторымі, як тойсёй гаворыць дзівацтвамі. Мяркуйце самі, наколькі гэта адпавядае сапраўднасці.

Мы — на кватэры ў Хрышчановіча. Адзін пакой нагадвае лабараторыю: у ім рознае начынне, бляшанкі, фарбы і... сучкі, карчы, калы. Другі — філіял музея. Вазы два нарыхтовак ляжыць на дварэ пад паветкай. Сохнуць. Гады тры чакаць давядзецца. Толькі тады дрэва можна класці на стол.

Разглядаем хатнюю экспазіцыю. Многія рэчы пабывалі на шматлікіх выстаўках і маюць сваю гісторыю. «Адна дзяўчынка,— заўважае Харлампій Сцяпанавіч,—











лепшай работай назвала вось гэту...» Сапраўды, цікавая задума. І назва кампазіцыі незвычайная: «На злом галавы». Бяжыць чалавек. Спяшаецца некуды...

Што ні скульптура — сапраўдная мастацкая знаходка. Хрышчановіч супраць таго, каб «дапамагаць» прыродзе. Першыя работы ён пакрываў лакам. Лічыць, што гэта было слабасцю пачаткоўца. Цяпер ён амаль не дапускае разца. Ледзь-ледзь кране ножычкам, там-сям зробіць падпал. У кожнага свой стыль.

— Пад старасць я прачытаў больш казак, чым некалі ў дзяцінстве, — сур'ёзна гаворыць Харлампій Сцяпанавіч.— І не толькі казак... Міфалогія, гісторыя мастацтва сталі для мяне як бы падручнікамі.

Хрышчановіч — намеснік старшыні секцыі лясной скульптуры пры Мінскім гарадскім савеце БТАП. Секцыя — адна з актыўных і баявітых. На яе рахунку сем вялікіх выставак. Аб'ядноўвае каля двухсот аматараў. Пры іх удзеле створаны дзіцячыя студыі ў школах. Арганізоўваюцца паездкі ў іншыя гарады рэспублікі. Кніга водгукаў — пухне ад падзяк. Пішуць школьнікі, вайскоўцы, рабочыя, міністры, артысты, урачы... Людзі бачаць, што прырода, звычайная прырода, вельмі блізка стаіць ля чалавека. Варта толькі руку працягнуць. Варта толькі... душу мець, павагу, сардэчнасць, павагу да жыцця. Жыцця — у шырокім сэнсе слова.

Даўно ўзнімалася пытанне стварэння ў Мінску музея лясной скульптуры. Усе — за. На словах. Калі ж даходзіць да справы — ні з месца. Больш таго, той-сёй у Міністэрстве культуры лічыць, што лясная скульптура — прыватная справа групы людзей, звычайнае «хобі». Ці варта даказваць, што такія думкі — памылковыя. Выхаваўчае і эстэтычнае значэнне такога музея не падлягае сумненню. Што датычыцца сродкаў для яго арганізацыі, то яны ёсць.

— Таму, хто не разумее мяне, я звычайна гавару: «Дарэмна. Лес — жывы!» і пазіраю ў вочы чалавеку. Калі заўважу здзіўленне ці нешта падобнае — размаўляю далей з ім, не — лічу за лепшае змоўчаць. Лес, прырода наогул, робяць нас больш высакароднымі...

Што можна дадаць да слоў Харлампія Сцяпанавіча?

**В. ДАШКЕВІЧ**

Йор ЕВЕР

# САБАКА РАЗУМЕЕ

Сабака — істота дзіўная: ён разумее, калі яго збіраюцца прыстрэліць.

— Не глядзі на мяне. Глядзі ў другі бок!

Чалавек падштурхнуў шэрую пысу ствалом стрэльбы, і сабака жалобна ўзвыў. Ён павярнуўся, але тут жа зноў пагля-дзеў на гаспадара сур'ёзнымі цёмна-карымі вачыма.

— Ляжаць!

Вокрык не дапамог, позірк сабакі як і раней быў скіраваны на чалавека. Ён глядзеў яму прама ў вочы, і гэта скоўвала яго рашучасць. Чалавек вылаяўся — у яго не хапала мужнасці пазбавіць жыцця аднаго са сваіх сяброў. Пачуццё ўласнага бяссілля вельмі злавала яго. Такое пачуццё нікому не па душы, нават калі ты знаходзішся ў адзіноце.

Ён мацней штурхнуў сабаку, і той віскнуў. Але позірк яго як і раней быў скіраваны на чалавека. Той павесіў стрэльбу на сцяну. Што ж, паспеецца — некалькімі гадзінамі пазней ці, на крайні выпадак, на наступны дзень. Учора ён некалькі разоў збіраўся прыстрэліць Магі. Але палец адмаўляўся націскаць на спуск.

Ён знаў, што гэтага не мінаваць, бо гэта азначала жыццё ці смерць і для яго самога і для астатніх сабак вупражкі. Больш тыдня без ежы жывая істота не вытрымае.

Калі чалавек зайшоў у хацінку, ён не знайшоў там ні правіянту, ні паліва. Быў снежны буран, і домік знайшоў Магі. З таго часу паўночны шторм безупынку бушаваў над гэтым кутком Паўночнай Грэнландыі. Нібыта, сапраўды, настаў канец свету.

Доўгіх сем гадзін чалавек ляжаў у спальным мяшку, большую частку ў дрымоце, і толькі зрэдку засынаў па-сапраўднаму. Прыемна забыцца ад холаду і завірухі, але тым цяжэй прачынацца і зноў усведамляць, што цяпер гадзінамі будзе цягнуцца адзін і той жа кашмар. Думкі яго не абцяжарвалі, але ўсё ж не-не ды то адна, то другая надакучліва лезлі ў галаву. Узяць хоць бы думку аб тым, што голад з кожным днём, з кожнай гадзінай усё больш і больш мучыць і яго, і сабак так, што яны ўжо не змогуць пераадолець тыя трыццаць кіламетраў, што аддзяляюць іх ад другога доміка. І перш, чым яны выб'юцца з сіл, адзін з сабак павінен памерці.

Час яго настаў.

Знадворку пасвятлела. Калі чалавек адчыніў дзверы, каб адарваць яшчэ адну-дзве дошкі ў сцяне тамбура на паліва, у снежнай віхуры відно было метры на два. Далей — пустата, адны толькі сняжынкі, нібы белыя палоскі, праносіліся міма.

Чалавек зачыніў дзверы, разбіў мерзлыя дошкі і засунуў іх у печку. У слабым святле агню можна было зноў убачыць вочы Магі. Яны сачылі за кожным яго рухам. Калі цяпло напоўніла памяшканне, сабака бліжэй падпоўз да печкі. Ён віляў хвастом, а вушы шчыльна прыціснуў да макаўкі. Пасля пачаў лізаць яму рукі.

Так сабака выпрошвае ежу ці ласку. Ці жыццё.

Чалавек пагладзіў яго па галаве.

— Бедны ты мой!

Але сабака не кінуўся на яго з радасным віскам, як рабіў звычайна. Толькі паклаў пысу на калені і зазірнуў у твар.

Полымя гудзела ў трубе. У такую непагадзь бог Агню ненасытны. Чырвоныя блікі асвятляюць памяшканне, бегаюць па замерзлым белым пясцу, што вісіць на сцяне. Яго есці нельга. Пясец здабыт на атручаную прынаду. Калі б толькі можна было яго есці!

Чалавек пасоўвае пысу сабакі з каленяў.

— Пайшоў адсюль, Магі! Ты глядзіш мне прама ў душу. Зразумей жа, іншага выхаду няма. У ахвяру трэба прынесці цябе, іншыя сабакі мне цяпер вельмі патрэбны. Яны дужэйшыя і большыя за цябе. Ты разумнейшы, намнога разумнейшы за іх, ты амаль як чалавек. Але тут, у Грэнландыі, гэта нічога не значыць. Тут не патрэбны сабакі, якія могуць думаць. Сабакі тут павінны працаваць і цягнуць сані. Тут цэніцца тая грубая сіла, і твой розум нічога не важыць. Слабы павінен памерці, каб падтрымаць жыццё моцных. Такі закон, Магі, бедны ты мой. Але пачакаем яшчэ крыху.

Ён зноў кладзе яго пысу на калені. Астатнія сабакі вурчаць у дрымоце.

— Дай паглядзець на цябе. Пуста будзе без цябе. Але, бог мой, да чаго ж мы галодныя. На адным растопленым снезе далёка не заедзеш. Не трэба баяцца. Паміраць нястрашна. Сапраўдны адпачынак, гаворыць тая, хто яшчэ жыве. А ты што думаеш, Магі? Не, не, я так не лічу. Паміраць, відаць, страшна. А цяпер кладзіся, пачакаем да вечара.

Надыходзіць вечар. Чалавек спіць. Яго разбудзілі сабакі. Адзін з іх, знайшоўшы пад нарамі старую костку, пачаў з жорсткасцю яе грызці. Пачуўшы чаўканне, схудалыя ваўкі недалёка зацягваюць песню голаду.

Чалавек усхопліваецца, але пасля зноў садзіцца ў спальным мяшку на краі нар. Яго калоціць і нудзіць. Ад рэзкага руху шалёна б'ецца сэрца. Ён крычыць на сабак, і яны змаўкаюць.

— Не, так справа не пойдзе,— гаворыць ён сабе.— Больш чакаць нельга.

Ён запальвае стэарынавую свечку і цягнецца за стрэльбаю. Цяжка страляць пры такім слабым асвятленні. Але што рабіць? Сабака спакойна ляжыць каля печкі, там, дзе ён пакінуў яго да таго, як заснуў. Хутчэй, нельга цягнуць. Ну, з богам!

Ён націскае на спуск, і маленькая хацінка ўздрыгвае ад грукату.

Пасля ён сядзіць, нібыта ў дурмане. Шум стрэлу ашаламіў яго. Ён працягвае руку, цягне да сябе сабаку. І нечакана ўздрыгвае. Гэта не Магі! Поль! Адзін з самых дужых і дурных. Лепшы работнік у вупражцы.

Магі ён знаходзіць пад нарамі. Ён ляжыць, цесна прыціснуўшыся да сцяны, уткнуўшыся галавою ў куток.

Сабака жалобна скуліць, калі ён выцягвае яго з-пад нар. Пасля вырываецца і зноў хаваецца пад нары.

— Чортава сука! — шэпча ён.— Ты ўсё зразумела. Пакуль я спаў, перамяніла месца! Магчыма, розум усё-такі чаго-небудзь ды варты. Але што зроблена, тое зроблена. Бедны Поль, ты быў добрым сабакам. Але Магі правяла нас абодвух.

Падмацаваўшыся сабачым мясам, ён адчуў сябе дужым і рушыў у дарогу, не чакаючы канца бурана. Але не разлічыўшы свае сілы, ён неўзабаве адчуў слабасць. Потым збіўся з дарогі. Страціў кірунак і цяпер рухаўся наўгад. Спачатку хацеў рухацца ад мыса да мыса на поўнач, уздоўж узбярэжжа, але заблудзіўся. Ён ішоў шмат гадзін запар. Сцямнела, і ён зусім выбіўся з сіл. Пасля аб штосьці спатыкнуўся і ўпаў, не могучы зноў падняцца і рухацца далей. Толькі прыўзняўся, сеў на снезе і адчуў, як яго ахоплівае дрымота.

Чалавек сядзіць, павярнуўшыся спіною да ветру. Яго амаль занесла, ён падобны на прысыпаны снегам камень. Сядзіць у дрымоце і замярзае. Усё гэта азначае смерць: гэта яму вядома. Але ён вельмі стаміўся, каб адчуваць страх, ён жадае толькі аднаго — адпачыць.

Побач з ім нікога няма. Сабакі зніклі з санямі, і ён заўважыў гэта толькі таму, што Магі неадрыўна глядзела на яго, не жадаючы пакідаць гаспадара. Яна брахала і вурчэла, але астатнія сабакі пацягнулі яе за сабою.

Ён памрэ адзін у снежнай завірусе. Ужо позні вечар і зусім цёмна. Ён толькі чакае, пакуль зусім не адубее. Тады ён спакойна засне.

Але што гэта? Хтосьці жалобна вые, шкрабе яму спіну.

Магі! Ён у дрымоце мацае яе і выяўляе, што сабака перагрыз пастронак, каб вярнуцца назад, да яго.

Магі не дае яму спакою. Драпае лапамі. Рве і цягне яго вопратку. Брэша, узнімае страшны шум.

— Кладзіся! — сабраўшы апошнія сілы, у шаленстве крычыць ён. Але сабака зноў над ім. Вось ён перавярнуў яго на спіну. Ён поўзае па снезе, імкнецца яго схапіць. Дрымоты як не было. Але слабасць вялікая. Чалавек плача ад злосці, што нічога не можа. Машынальна, з цяжкасцю паднімаецца на ногі і брыдзе ўслед за сабакам.

— Пачакай мяне! — гаворыць ён скрозь слёзы.— Толькі пачакай.

Але Магі ўвесь час ідзе ўбок. Вяртаючыся назад, брэшучы і віляючы хвастом, яна крок за крокам вядзе яго за сабою. Паступова рухі чалавека становяцца больш упэўненымі, і Магі пачынае паволька бегчы, паварочваючы галаву і азіраючыся.

Пастронак цягнецца за сабакам, ён наступае на яго, хапае і намотвае на руку.

— Марш, Магі! — раздаецца суровы загад.— Я не ведаю дарогі, вядзі, куды хочаш.

Як доўга яны брылі і як шмат яны прайшлі?! Пра гэта чалавек ніколі не даведаецца. Магчыма, не так ужо і шмат. Магчыма, некалькі кіламетраў, а мо ўсяго некалькі соцень метраў.

Ён толькі ведае, што аб нешта спатыкнуўся. Сані. Побач з санямі ляжалі астатнія сабакі. Яны нешта грызлі. Божа, туша мускуснага быка! А там, трошкі далей,— чу, вядома ж, гэта паляўнічы домік. Ён упоўз туды і пачаў навобмацак шукаць запалкі і свечкі. Знайшоў лямпу, дровы і мноства правізіі.

**Раздзел з кнігі**
**«Звярыныя сцежкі і птушыныя шляхі».**

## БАМБУК ЧУК

Па ўсёй тэрыторыі В'етнама расце высокі, нібы страла, бамбук колеру сланowай косці — чук. Без яго не абыходзіцца афармленне ні аднаго в'етнамскага нацыянальнага стэнда ці выстаўкі народнай творчасці. Ён увайшоў нават у літаратуру як сімвал прастаты і элегантнасці. Найбольш каштоўнай пародай бамбуку ў ДРВ лічыцца бамбук з уезду Бацьтхонг правінцыі Бактхай. Бамбукавыя лясы тут займаюць звыш 120 гектараў. З чука ў В'етнаме вырабляюць мэблю, вуды, выкарыстоўваюць і як будаўнічы матэрыял.

Ва ўездзе Цёза той жа правінцыі Бактхай расце дзіўная разнавіднасць чука плоскага, нібы школьная лінейка. Пасля падпісання парыжскага пагаднення міністэрства лясной гаспадаркі ДРВ надае шмат увагі развядзенню бамбуку чук. Новыя плантацыі бамбуку з'явяцца на многіх дзесятках гектараў.

## ДРЭВУ — 250 МІЛЬЁНАЎ ГАДОЎ

Берлін. У час будаўнічых работ у горадзе Карл-Маркс-Штат выяўлен акамянелы драўнінны ствол. Яго ўзрост, паводле ацэнкі вучоных, 250 мільёнаў гадоў. Гэта знаходка — адна з буйнейшых у гэтым раёне за апошні час. У ваколіцах горада, ля падножжа Рудных гор, ужо выяўлены рэшткі прыкладна 80 раслін, якія праляжалі ў зямлі мільёны гадоў. Вучоныя мяркуюць, што тут быў дзеючы вулкан. У час яго вывяржэння лава абвуглівала і кансервавала дрэвы, што раслі вакол. Гэтыя знаходкі археолагаў дэманструюцца на пастаяннай выстаўцы ў Карл-Маркс-Штаце.

## ЭФЕКТЫЎНЫЯ МЕРЫ

Забруджванне марскіх вод, якое пастаянна павялічваецца, прымушае ўрады прыбярэжных краін прымаць эфектыўныя меры аховы. Вось ужо некалькі месяцаў спецыяльныя самалёты патрулююць над морамі ля берагоў Францыі. Пры дапамозе спецыяльных прыбораў, прынцып дзеяння якіх заснаваны на вымярэнні розніцы тэмператур вады і вадкасцей, што яе забруджваюць, інфрачырвонымі праменямі, яны кантралююць з паветра, ці не забруджваюць судны марскія воды. Самалёты падтрымліваюць радыёсувязь з берагавымі радыёстанцыямі і суднамі таможнага ўпраўлення. Па радыё яны накіроўваюць спецыяльна абсталяванае судна туды, дзе танкеры ці іншыя судны зліваюць за борт рэшткі нафтапрадуктаў ці брудную ваду пасля прамыўкі катлоў і рэзервуараў. Хімікі на месцы робяць аналіз вады і рэчываў, што яе забруджваюць. Адказныя за забруджванне вод капітаны караюцца.

Гэтыя меры апраўдалі сябе. Нядаўна такім шляхам быў знойдзены англійскі танкер, які на 18 міль пакінуў за сабой нафтавы след. Вінаватыя, натуральна, былі строга пакараны.

## ДЗЕ ЯНА, СТАРАЯ, ДОБРАЯ СЕНА!

Як і Рэйн, некалі рамантычная Сена паступова ператвараецца ў смярдзючы паток сцёкавых вод. Як паведамляе агенцтва Франс Прэс, размешчаныя на берагах ракі буйныя прамысловыя прадпрыемствы штогод скідваюць у Сену звыш мільёна тон вадкіх і цвёрдых адходаў вытворчасці. Тысячы дохлых рыб і смярдзючая пена, якая збіраецца ля берагоў, цалкам перакрэсліваюць уяўленне аб старой, задумлівай Сене. Як адзначаюць спецыялісты, штогод больш мільёна кубічных метраў неачышчаных сцёкаў атручваюць раку ад Парыжа да вусця ракі каля Гаўра.

## ЗАМАХ НА ДАМБЫ

Жыхары Нідэрландаў справядліва звязваюць бяспеку свайго існавання з крэпасцю марскіх дамб, што ахоўваюць прыбярэжную тэрыторыю ад затаплення. Цяпер гэтая бяспека літаральна падрываецца полчышчамі мускусных пацукоў, якія выбралі дамбы месцам свайго жыхарства. У час прыліваў марская вада ўздымаецца па прарытых імі хадах і размывае дамбы. Аб рэальнай пагрозе затаплення асобных участкаў настойліва папярэджваюць эксперты стваранага ўрадавага камітэта па кантролю за мускуснымі пацукамі. На барацьбу з імі накіраваны спецыяльныя знішчальныя атрады, узброеныя пасткамі і стрэльбамі. Але, нягледзячы на ўсё гэта, тэмпы знішчэння мускусных пацукоў недастатковыя: у 1974 годзе было забіта 53000 звяркоў. А іх, на думку спецыялістаў, налічваецца каля аднаго мільёна.

## «ПАДЗЕМНАЯ КЛАДОЎКА»

У час буравых работ у адным з раёнаў Вены са свідравіны нечакана пачала паступаць гарачая вада. Выкліканыя на месца «здарэння» спецыялісты правялі абследаванне і прыйшлі да думкі, што пад Венай на глыбіні каля 3000 метраў знаходзіцца вялізнае падземнае вадасховішча, тэмпература вады ў якім набліжаецца да 100° С. Гэтае адкрыццё літаральна акрыліла геолагаў. Цяпер яны мяркуюць, што ў размешчаных на поўдзень ад Вены гарачых крыніцах тэмпература падземных вод дасягае 190 градусаў. Аднак, па іншых прагнозах, самая высокая тэмпература падземных вод — каля 200 градусаў — павінна быць ва Усходняй Штырыі. Аўстрыйскія вучоныя распрацоўваюць розныя праекты выкарыстання гарачых крыніц.

## ВЫРАТАВАННЕ З ПАВЕТРА

Цераз возера Піхлаярві каля горада Савонліна, на паўднёвым усходзе Фінляндыі, па лёдзе пераходзіў буйны лось. Лёд не вытрымаў цяжару ляснога волата, і звер апынуўся ў халоднай вадзе. Усе спробы лася выбрацца з палонкі былі няўдалымі. Жывёле прыйшлі на дапамогу людзі: над ім завіс верталёт, былі спушчаны рамяні, якімі абвязалі лася. Вызвалены з «лядовага палону» сахаты быў паспяхова дастаўлены на сушу.

## НАВУЧЫЦЬ ПАЛЯВАЦЬ ІЛЬВОЎ

Сур'ёзная праблема ўзнікла перад адміністрацыяй нацыянальнага запаведніка Барыўлі ў індыйскім штаце Махараштра, непадалёк ад горада Бамбей. Каб папоўніць фауну запаведніка, купілі чатырох ільвоў. Звяры гэтыя былі выгадаваны ў няволі і самастойна здабываць сабе ежу не ўмеюць. Адміністрацыя мае намер набыць яшчэ некалькі львоў з запаведніка штата Гуджарат, каб тыя навучылі паляваць сваіх родзічаў.

## КАНАРЭЙКІ НА ЭКСПАРТ

Ліма. Перуанскія арнітолагі ў апошнія гады дабіліся вялікіх поспехаў у гадоўлі новых парод канарэек. На своеасаблівым «конкурсе прыгажосці» сярод канарэек, які праводзіўся ў мінулым годзе ў Буэнас-Айрэсе, перуанскі экземпляр быў удастоены першага месца. А ў гэтым годзе на аналагічным «конкурсе», які праходзіў у Ліме, перуанскі кенар заваяваў галоўны і самы ганаровы прыз — за пеўчае майстэрства. Перуанскія аматары гэтых папулярных птушак аб'яднаны ў нацыянальную асацыяцыю спецыялістаў па развядзенню канарэек.

У бліжэйшы час продаж гэтых птушак у іншыя краіны можа стаць адной з крыніц нацыянальнага экспарту. Перуанскія арнітолагі ўжо атрымалі заказы на продаж канарэек у Калумбію, Венесуэлу, Эквадор і іншыя краіны Лацінскай Амерыкі.




# ВУЧОНЫЯ І ПРЫРОДА

Вялікі старагрэчаскі вучоны і філасаф Арыстоцель падзяліў погляды ўрача Гіпакрата — «бацькі медыцыны» — аб чатырох вадкасцях цела: крыві, слізі, жоўтай і чорнай жоўці. Лічылася, што пераважанне ў целе чалавека той ці іншай вадкасці вызначае яго характар. За думкі аб агульным паходжанні жывёл і чалавека Арыстоцель быў абвінавачаны ў «бязбожжы». Ён уцёк на востраў Эўбею, дзе і жыў да канца сваіх дзён.

Упершыню скандынаўскі вучоны батанік Карл Ліней склаў сістэматыку раслін і жывёл на пяць падпарадкаваных адна адной груп: класы, парадкі, роды, віды, разнавіднасці. Гэтая сістэма, па словах рускага вучонага К. А. Ціміразева, з'яўляецца вянцом штучнай класіфікацыі больш як 10000 тысяч відаў адных толькі раслін.

Французскі даследчык прыроды Жан Батыст Ламарк выдаў працу «Французская флора, ці кароткае апісанне ўсіх раслін, што дзіка растуць у Францыі». З таго часу кожны адукаваны чалавек мог лёгка вызначаць расліны.

Вядомы французскі заолаг Жорж Кюўе на аснове строгага вывучэння фактычнага матэрыялу вызначыў новы кірунак у біялогіі — параўнальную анатомію, палеанталогію і гістарычную геалогію.

Нямецкі батанік Маціяс Якаб Шлейдан — заснавальнік вучэння аб клетачнай будове раслін. Ён указваў, што першасным прадуктам у мінеральным царстве з'яўляецца крышталь, а ў раслінным — клетка. Яна — элементарны орган любой расліны. Працейшыя расліны складаюцца з адной клеткі, складаныя — з мноства, і жыццё расліны заключаецца ў жыцці яго клетак.

Таленавіты нямецкі фізіёлаг Тэадор Шван даказаў, што клетка — асноўная структура, жывёлы і расліны маюць адзінства будовы. Ён таксама ўстанавіў фермент пепсін, неабходны для засваення бялкоў.

Славуты англійскі вучоны Чарльз Дарвін—стваральнік эвалюцыйнай тэорыі. Ён даказаў, што ўсе віды раслін і жывёл, а таксама і чалавек з'яўляюцца вынікам працяглага гістарычнага развіцця на аснове закону натуральнага адбору, без умяшання якіх-небудзь незвычайных сіл. Гэтым самым Дарвін парушыў рэлігійныя легенды аб стварэнні арганічнага свету, і з жывой прыроды было знята містычнае покрыва.

Чэшскі вучоны Іаган Грэгар Мендэль упершыню ўстанавіў асноўныя заканамернасці даследавання прыкмет у шэрагу пакаленняў пры палавым размнажэнні. Ён праводзіў розныя вопыты па гібрыдызацыі раслін, мышэй, пчол, адкрыўшы на іх аснове законы спадчыннасці, якія маюць вялікае значэнне для развіцця сучаснай генетыкі.

Французскі вучоны Луі Пастэр пры даследаванні працэсаў браджэння пераканаўся ў наяўнасці сувязі паміж псаваннем віна, піва, гніеннем бялкоў, дзейнасцю мікробаў. На аснове адкрыццяў Пастэра праводзіцца пастэрызацыя і кансерваванне малака, гароднiны, фруктаў, мяса, рыбы. Вучоны адкрыў таксама метад прышчэпак супроць шаленства.

Буйны селекцыянер, амерыканскі дарвініст Лютэр Бербанк за сваё жыццё вывеў 1260 новых цікавых гатункаў раслін, у тым ліку сліву без каменьчыкаў — «адзін з цудаў». Шляхам скрыжавання нават калючыя кактусы ён ператварыў у карысныя. І цяпер можна сустрэць блакітны мак, духмяныя вяргіні, буйныя рамонкі — раніцай снежна-белыя, апоўдні — ярка-зялёныя, вечарам — цёмна-ліловыя, і шмат іншых раслін, створаных Бербанкам.

**І. ШПАДАРУК,**
**кандыдат філасофскіх навук**

## КРАСВОРД «У СВЕЦЕ ЖЫВЁЛ»




**По гарызанталі:** 2. Членістаногае — паразіт чалавека і жывёл. 5. Трапічная ядавітая змяя. 10. Таксанамічная катэгорыя ў сістэматыцы жывёл. 12. Тэрыторыя, дзе з мэтай захавання рэдкіх відаў фауны і флоры забаронена ўсякая гаспадарчая дзейнасць. 13. Насякомае. 14. Хвастатая лічынка земнаводных жывёл. 15. Промысловая рыба. 17. Грызун з каштоўным цёплым футрам. 18. Вадаплаўная птушка. 19. Дзікі горны баран.

**Па вертыкалі:** 1. Буйная вадзяная птушка. 2. Марское млекакормячае з сямейства дэльфінавых. 3. Балотная птушка. 4. Каштоўны пушны звярок. 6. Сад, у якім трымаюцца жывёлы для паказу і вывучэння. 7. Прэснаводная рыба. 8. Горная антылопа. 9. Самая буйная ў свеце змяя, вадзяны ўдаў. 11. Прэснаводнае членістаногае. 16. Драпежная птушка.

Склаў У. ЖДАНКО

### АДКАЗЫ НА ЧАЙНВОРД «ПАЛЯВАННЕ» (№ 6 ЗА 1975 г.)

1. Вальдшнэп. 2. Павадок. 3. Карцеч. 4. Чапля. 5. Ягдташ. 6. Шрот. 7. Тыгр. 8. Рог. 9. Гаршнен. 10. Поінтэр. 11. Рукзак. 12. Кручок. 13 Кулік. 14. Курок. 15. Калібр. 16. Рагаціна. 17. Арлан. 18. Наморднік. 19. Ключ. 20. Чахол. 21. Леапард. 22. Драбавік. 23. «Калодзеж». 24. Жакан. 25. Норка. 26. Аркан. 27. Наводка. 28. Андатра. 29. Аддача. 30. Антылопа. 31. Аблава. 32. Аксакаў.

## ПАЛЯЎНІЧЫЯ ДЫЯЛОГІ

*

Пасля палявання стары паляўнічы, які ўжо не вельмі добра бачыў, звярнуўся да свайго малодшага калегі:

— Ці ўсе нашы хлопцы выйшлі з лесу?

— Так.

— Ніхто не паранены?

— Ніхто.

— Ну, значыць я пацэліў у дзіка.

*

Стары паляўнічы расказвае:

— Калі я быў яшчэ малады, аднойчы здарыўся такі выпадак. Сеў я адпачыць пад дрэвам, а стрэльбу павесіў на галіну. І раптам адчуваю на карку нейчае дыханне, моцнае і гарачае. Павярнуў я галаву — мядзведзь стаіць за маёй спінай!

— І што ты зрабіў?

— Падняў каўнер, каб не адчуваць гэтага дыхання.

*

Двое паляўнічых вяртаюцца з палявання ні з чым.

На дарозе ім сустракаецца падарожнік. Ён пытае старэйшага паляўнічага:

— Што ўпалявалі?

Старэйшы паляўнічы маўчыць, малодшы адказвае:

— Ён у нас нямы.

— Ну, а што вы ўпалявалі? —зноў пытае падарожнік ужо малодшага паляўнічага.

Цяпер маўчыць малодшы паляўнічы, а старэйшы раптам гаворыць:

— Ён у нас глухі.

**В. СЕМЯНТОВІЧ**

# ПАКРЫЎДЖАНАЯ ПРЫГАЖУНЯ

Фота М. Шарая



Гэта было ў сярэдзіне зімы. Амаль цэлы тыдзень ішоў снег. Высокімі гурбамі ляжаў ён на двары, на агародзе. Кожнае шула, кожная штакеціна ў плоце адзела на сябе белую шапку. Дрэвы баяліся варухнуць голлем, каб не скінуць дарагую снежную аблямоўку.

І вось снегапад спыніўся. Праз рэдкія хмары нясмела выглянула сонца.

«Як цяпер у лесе?» — падумалася раптам.— Прыгажосць, напэўна, як у казцы».

Лыжы глыбока танулі ў рыхлым снезе. Я прайшоў з паўсотні метраў па ўзлессі, заўважыў прагалак (тут была дарожка) і накіраваўся ўглыб сасновага бору. Стройныя дрэвы маўчалі, і мне захацелася іх сфатаграфаваць.

Доўга блукаў я, разгадваючы хітра заблытаныя сляды лясных насельнікаў. Гледзячы праз маленькае акенца фотаапарата, раз-пораз пстрыкаў затворам.

Але настаў час вяртацца дадому. Я павольна ўзышоў на лясны пагорак і спыніўся — процілеглы схіл крута ішоў уніз. Спускацца па ім такому лыжніку, як я, было небяспечна: мог, чаго добрага, стукнуцца аб дрэва. Па грэбені пагорка прайшоў метраў трыццаць-сорак, выбіраючы больш пакаты схіл, і раптам замёр у здзіўленні: у лагчыне перада мной стаяла такая прыгожая елка, што адразу цяжка было паверыць у яе сапраўднасць. Роўны, нібы вытачаны, ствол вышынёй метраў сем-восем. Прыпарушаная лёгкім снегам, яна выглядала сапраўднай лясной прыгажуняй. На галінках, бліжэй да вяршаліны, красаваліся залаціста-карычневыя шышкі. Яны віселі роўнымі радкамі, быццам хтосьці знарок аздобіў гэтае чароўнае дрэва.

Стоячы на пагорку, я быў якраз упоравень з цёмна-зялёнай вяршалінай. Прыгажуня-елка стаяла ад мяне метраў за дзесяць-пятнаццаць. Я ўзняў фотаапарат, навёў аб'ектыў і пстрыкнуў затворам. А для наступнага кадра ўжо не хапіла плёнкі.

Вяртаючыся дадому, я цешыў сябе надзеяй, што апошні кадр, магчыма, усё ж атрымаецца, бо ўсё астатняе ўжо не ўяўляла такой цікавасці.

Надзеі мае, аднак, не апраўдаліся: негатыў аказаўся цьмяным, і здымак елкі не атрымаўся.

Мінула тыдні тры ці можа і месяц, пакуль мой свабодны выхадны супаў з ясным надвор'ем. Зноў, як і мінулы раз,— на лыжы і— да лесу. Дарогу да прыгажуні-ялінкі запамятаў добра. На заечыя сляды, на крык жаўны не звяртаю ўвагі. Галоўнае — сфатаграфаваць елку.

Хутка ўзыходжу на пагорак...

— А дзе ж елка? — сарвалася з вуснаў.

Не, яна не знікла, як прывід. Яе не высеклі. Елка стаяла на тым жа месцы, што і раней... Толькі галінак з шышкамі, якія красаваліся незвычайнымі пацеркамі на вяршаліне не было. На іх месцы тырчэлі абламаныя сучкі. Уцалелі толькі тыя галінкі, на якіх не было шышак.

У мяне на момант перахапіла дух. Елка стаяла перада мной, і, здавалася, вінавата прасіла прабачэння за тое, што страціла такія дзівосныя пацеркі.

Па ўсім пагорку снег быў утаптаны. А воддаль, між дзвюх разгалістых сосен, чарнела халоднае вуголле вогнішча, валяліся абрыўкі паперы...

**І. АБАБУРКА**

# «РОДНАЯ ПРИРОДА»

## НА БЕЛОРУССКОМ ЯЗЫКЕ

КРАТКОЕ СОДЕРЖАНИЕ

**БОГАТСТВАМ ПРИРОДЫ—ЗАБОТУ И БЕРЕЖЛИВОСТЬ**

Начальник Витебской областной инспекции Госкомитета СМ БССР по охране природы. Н. Калина в своей статье пишет о необходимости бережливых отношений к природе, о практическом осуществлении государственных мер по охране природы и рациональном использовании ее важнейших ресурсов—земли, воды, леса и фауны.

**КАЛИЙНОЕ ПРОИЗВОДСТВО И ОХРАНА ПРИРОДНОГО КОМПЛЕКСА**

В связи с увеличением выпуска удобрений на солигорском комбинате «Белоруськалий» растет и количество отходов—солеотвалов, что оказывает вредное влияние на развитие растений. Научный сотрудник БелНИИ почвоведения и агрохимии П. Жигарев рассматривает вопрос, можно ли уменьшить вредное влияние отходов калийного производства на почву и растения.

**ЗУБРЫ БЕЛОВЕЖИ**

Кандидат биологических наук Л. Корочкина знакомит читателя с обитателями Беловежской пущи—зубрами, рассказывая о их жизни, нравах и повадках.

**ГЛУХАРЕЙ НУЖНО ОБЕРЕГАТЬ**

Количество глухарей в последние годы значительно снизилось. Автор статьи лесничий Ясеньского лесничества Беловежской пущи Ф. Саевич утверждает, что при наличии биотехнических мероприятий и выполнении всех правил охраны глухарей можно значительно увеличить количество этих птиц в нашей республике.

**ОХОТНИК, КОТОРОМУ НЕ НУЖНО РУЖЬЕ**

Корреспондент «Родной прыроды» Е. Миклашевский, посетив Беловежскую пущу, рассказывает о своем знакомстве с интересным человеком, главным охотоведом заповедно-охотничьего хозяйства «Беловежская пуща» В. А. Вакулой.

**РАЗДУМЬЕ ПОСЛЕ СЕЗОНА**

Сезон отстрела диких зверей закончился, можно подытожить сделанное и наметить планы на будущее. Старший инженер-охотовед управления лесного хозяйства Витебского облисполкома В. Муровицкий излагает в статье положение дел в охотничьем хозяйстве Витебской области.

**ОХРАНА ЛЕСА ОТ ВРЕДИТЕЛЕЙ**

Комплексное решение вопроса охраны лесов от вредителей и болезней на основании правильного ведения лесоводческих мероприятий, оптимального использования биотехнических факторов—такая тема статьи директора республиканской станции по борьбе с вредителями и болезнями леса МЛХ БССР Б. Анищенко.

**БАРАНОВИЧСКИЙ ПЧЕЛОПИТОМНИК**

Главный зоотехник Управления пчеловодства МСХ БССР А. Рыбальченко рассказывает о Барановичском пчелопитомнике, специализирующемся на выводе пчелиных маток.

**КАК УВЕЛИЧИТЬ КОЛИЧЕСТВО РЫБЫ В ОЗЕРАХ**

Заголовок сам говорит о теме статьи. Начальник управления по охране и обновлению рыбных запасов и регулированию рыболовства А. Медвецкий дает исчерпывающий ответ на этот вопрос.

**НА ЗЕМЛЕ МАЛОЙ РИТЫ**

Так называется дорожный очерк Ярослава Пархуты, в первых разделах которого он рассказывает о далеком прошлом этого уголка Полесской земли и о первых встречах с людьми этого края.

**СОБАКА ПОНИМАЕТ**

Глава из книги норвежского писателя-натуралиста Йора Евера, в которой рассказывается об одном эпизоде из жизни охотника в просторах Гренландии.

Под рубриками «Школа и природа», «Обо всем и отовсюду», «Под шум костра» читатель найдет разнообразные материалы.

# У НУМАРЫ




Выдавецтва «Полымя»
Дзяржаўнага камітэта СМ БССР
па справах выдавецтваў, паліграфіі
і кніжнага гандлю

Мастацка-тэхнічны рэдактар Н. Ц. Шахрай
Карэктар Т. Ф. Бірыч

Адрас рэдакцыі: 220012, Мінск,
вул. Друкарская, 25
Тэл. 32-35-08

Здадзена ў набор 10/XI-75 г.
Падпісана да друку 12/XII-75 г.
Фармат 60×90. Друк. арк. 4,5. Улік.-выд. арк. 7,3.
Тыраж 55 462 экз. АТ 09312. Заказ 808.
Цана 30 кап.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга
друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі

Зіма. Снягі. Мароз. Завеі.
Дарога звонкая, як сталь.
Бярозы ў шэрані сівеюць,
Палі бялеюць, як паркаль.

...А лес стаіць маўклівы ціха,
Не зварухне свайго галля...
Зіма, зіма... Бы ў цвеце ліпа,
У белым снезе ўся зямля.

Пятро ГЛЕБКА

Цана 30 кап. «Родная прырода», 1976, № 1, 1—36 Індэкс 74926

